


**Мікола Шчаглоў-Кулікові**

Выдатны Беларускі Кампазытар
і Музычны Дзеяч

1893 — 1969

БЕЛАРУСКІ
СЬВЕТ
BYELORUSSIAN
WORLD
№ 15 (44) - 1984

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

# У ГУШЧАРАХ

Музыка: М. Шчаглоў-Кулікoвіч   Словы: Н. Арсеньнява
























**У ГУШЧАРАХ...**

У гушчарах, затканых імглою,
Шэрым змрокам, на золку, ў зару
Ахвяруем Табе мы сабою
Кожны дзень, кожны час, Беларусь.

І няма ў сэрцах жаху ні жалю,
Мы адвагай змагарнай гарым:
Ня чужыя варожыя сілы,
Але Ты нас вядзеш да зары.

І мы верым, яна разгарыцца,
Устане ізноў над краінаю дзень,
Бо ня стане змагар, не скарыцца
Прад нягодай ніколі, нідзе.

Хмараў дым над галовамі тае,
Вецер дыхае мятай, быльлём.
Беларусь, Беларусь залатая,
За цябе, за цябе мы ідзём!





камп. Мікола Шчаглоў-Кулікoвіч





Аўген Калубовіч (ЗША)

# МІКОЛА ШЧАГЛОЎ (КУЛІКОВІЧ)

**(памяці сябры ў 15-ыя ўгодкі сьмерці)**

Жыў на сьвеце музыка. Многа хадзіў ён па зямлі ды ўсё граў на скрыпцы... Прайшло шмат гадоў з таго часу. Скрыпка разьбілася. Але памяць аб музыку ня зьгінула зь ім разам.
М. Багдановіч. Музыка.

Мікола Шчаглоў нарадзіўся 4-га красавіка 1893 году на Смаленшчыне. Маці ягоная (з дому Куліковічаў) рана памерла. У месьце Цьвер жыла ейная сястра, ігуменьня жаночага манастыра. Хлопчыксірата часта гасьцяваў у свае цёткі-манахіні й любіў там сьпяваць у манастырскім хоры. Аднойчы манастыр наведаў прадстаўнік Маскоўскага Сынадальнага Музычнага Вучылішча, які шукаў на правінцыі здольных да музыкі кандыдатаў. Ён пачуў сьпевы хлопчыка й забраў яго з сабою ў Маскву. У гэтым вучылішчы (перайменаваным пазьней у Музычную Акадэмію) малады Шчаглоў і здабыў музычную адукацыю. Ня лішнім будзе тут дадаць, што з вучылішча гэтага выйшла нямала вядомых кампазытараў, дырыжораў і хормайстраў. Сярод іх і два беларускія кампазытары — М. Шчаглоў (Куліковіч) і А. Туранкоў.

На пачатку 1-ае сусьветнае вайны Шчаглова мабілізуюць у войска. Некаторы час полк ягоны перабывае на Палесьсі, найдаўжэй — у раёне Пінска. Адсюль у 1915 годзе яго накіроўваюць на паскораны курс Юнкерскай школы, скуль у званьні прапаршчыка адпраўляюць у дзеючую армію на Паўдзённа-Заходні фронт. Тут улетку 1916 году, у часе наступу расейскага войска ў Заходняй Украіне, ён цяжка паранены. Доўгія месяцы ляжыць у вайсковым шпіталю ў Адэсе й выходзіць зь яго бяз левае лапаткі на ўсё жыцьцё.

У 1926 годзе, будучы выкладчыкам Музычнага тэхнікуму ў Курску, ён жэніцца із сваёй студэнткаю, Натальляй Чамярысавай. Праз 10 год пасьля Курска, Варонежа й Смаленска яны пераяжджаюць у Менск, дзе М. Шчаглоў працуе музычным рэдактарам рэспубліканскай праграмы радыё, а жонка па сканчэньні кансэрваторыі запрашаецца на салістку ў Менскі тэатр опэры й балету. *)

Калі ў часе 2-ой сусьветнай вайны я бліжэй зь ім пазнаёміўся й пасябраваў, ён ужо быў вядомым беларускім кампазытарам. Не зважаючы на цяжкасьці ваеннага часу, паўгалоднае існаваньне плённа працаваў на ніве музычнай творчасьці. Адначасна праяўляў актыўнасьць на кожнай іншай дзялянцы музычнай і тэатральнай працы — кіраўнічай, выканальніцкай, выдавецкай, пэдагагічнай. Асабліва ў пару, калі ўзначальваў музычны аддзел Беларускай Культурнай Рады й Беларускага Культурнага Згуртаваньня, пры якіх у 1942-44 гг. была арганізавана й дзеіла сэкцыя музычных працаўнікоў Беларусі — кампазытараў, музыказнаўцаў, дырыжораў, рэгэнтаў, музыкаў, сьпевакоў. Да сэкцыі гэтай належалі такія відныя й заслужаныя дзеячы беларускага музычнага мастацтва, як кампазытары А. Туранкоў, М. Равенскі, Р. Самохін, М. Іваноў, А. Спаскі, музыказнаўца праф. А. Карповіч, рэгэнты й гарманізатары беларускіх народных песьняў А. Ягораў і М. Мікалаевіч, опэрны рэжысэр Вастокаў, салістыя опэры Лазараў, Пукст, Чамярысава, Купцэвіч, Бандарэнка, Касьценіч, Вержбаловіч, Шчаціхін, Швайка й шмат іншых. Адны зь іх пісалі новыя музычныя творы, а ў тым опэры й апэрэты: Самохін — опэру "Каваль-ваявода" (паводле А. Міровіча), Равенскі — апэрэту "Залёты" (паводле В. Дуніна-Марцінкевіча), Іваноў — дзіцячую опэру "Мухамор" (паводле вершаванай казкі М. Танка). Туранкоў стварыў новую вэрсію свае опэры "На Купальле"... Другія арганізоўвалі аркестры, хоры, канцэртныя выступы, вялі музычныя перадачы па радыё, адчынялі музычныя школы... Шчаглоў (Куліковіч), які кіраваў усёй гэтай працаю, асабіста браў чынны ўдзел ў арганізацыі Менскага опэрнага тэатру, быў у ім дырыжорам сымфанічнае аркестры.

У 1944 годзе, калі лінія фронту наблізілася да Менску, ён змушаны быў ісьці на выгнаньне. Уложаныя ім у Менску два сьпеўнікі [1]) не пасьпелі выйсьці з друку. Таму ў Бэрліне ён ізноў укладае зборнік беларускіх патрыятычных і жаўнерскіх песьняў, а, разам з Равенскім — зборнік беларускіх народных песьняў (абрадавых, працоўных, бытавых). Нажаль, і гэтыя два зборнікі, як і менскія, з друку таксама ня выйшлі.

Пасьля Бэрліну — кароткі побыт у Вюрцбургу й Амбэргу; тады — лягеры DP Рэгэнсбург, Міхэльсдорф, Віндзішбэргэрдорф, Розэнгайм. Найбольшая ягоная праца ў гэтым часе — Беларускі Тэатр Эстрады (1946-50 гг.). Ён — арганізатар яго, дырэктар і мастацкі кіраўнік. Сам укладаў для тэатру рэпэртуар і праграмы, [2]) рыхтаваў іх да паказу, плянаваў выступы й падарожжы.

У складзе трупы — прафэсійныя артыстыя Менскага тэатру опэры й балету, Менскага драматычнага й іншых тэатраў. Вось колькі імёнаў: Н. Чамярысава, Б. Вержбаловіч, Л. Янушкевіч, І. Жылінская, В. Філіповіч, В. Саўчанка, Л. Вэракса, К. Сокал, А. Кавалеўскі. "Усюды, дзе толькі ні выступалі нашыя артыстыя, яны мелі вялізарны посьпех". [3])

---

*) Аўтар гэтай публікацыі ўважае за свой прыемны абавязак падзякаваць Спадарыням Н. Майсеявай (Чамярысавай) і Н. Арсеньнявай за некаторыя дэталі й увагі да біяграфіі кампазытара.

[1]) «Зборнік патрыятычных беларускіх песьняў» і «Зборнік дзіцячых беларускіх песьняў і гульняў».

[2]) У мяне была калекцыя друкаваных праграмаў, якую я перадаў у Беларускі Музэй у Лёндане.

[3]) Часапіс «Крывіцкі Сьветач», Мюнхэн, 1946 г., № 11.

Тэатр падарожнічаў блізу па ўсёй Заходняй Нямеччыне. Рэгэнсбург, Кам, Мюнхэн, Шляйсгайм, Фрайман, Аўгсбург, Алендорф, Гановэр, Госьляр... Ён "выконваў вялікую нацыянальную місію сярод беларускай эміграцыі ў Нямеччыне", [4]) "папулярызуючы беларускае мастацтва й прапагандуючы беларускасьць сярод іншых нацыянальнасьцяў". [5]) Кампазытар паказваў нам запісы водгукаў у падарожнай "Залатой Кнізе", аднойчы падараванай тэатру на ягоным гастрольным турнэ, пра адно із такіх турнэ пісаў: "У жніўні сёлета Беларускі Тэатр Эстрады выехаў у ангельскую зону... Першым пунктам нашага падарожжа быў беларускі лягер Ватэнштэт... (дзе) трупа дала 5 выступаў. Зрабіўшы Ватэнштэт сваёй базаю, тэатр пачаў ладзіць выступы па акрузе ў украінскіх, польскіх і мяшаных лягерох". (У Браўншвайгу й Барумі яшчэ й у ангельскіх афіцэрскіх клюбах, [6]) як перад тым — у Музычным Інстытуце Марбурскага ўнівэрсытэту). [7]) Урэшце, "тэатр апынуўся... на самым ускраі Нямеччыны, у колькіх кілёмэтрах ад данскае мяжы... Фленсбург, Майервік, Кіль, Нойштат сталіся месцамі выступаў... Трупа дала 25 паказаў за месяц..." [8])

У 1950 годзе Шчаглоў (Куліковіч) выехаў у ЗША, дзе зноў ажаніўся із былой салісткаю Харкаўскай опэры, Надзеяй Градэ. Жыў у Нью-Ёрку, Клыўлэндзе й Чыкага. У апошніх двух местах меў свае музычныя студыі, кіраваў беларускімі хорамі — царкоўнымі й сьвецкімі.

— * —

Але перш за ўсё ён — кампазытар, аўтар арыгінальных музычных твораў і гарманізатар музыкі беларускіх народных песьняў, гульняў і скокаў.

Із арыгінальных твораў ім напісаныя:

1. **о п э р ы** —

У 1939-41 гг. — зь беларускага жыцьця XV-XVI ст. ст. опэра **"Кацярына"** (на лібрэта М. Клімковіча). Праўда, дзеля незадаволеньня лібрэтам і бясконцымі пераробкамі яго, праца над опэрай ня была завершана. Закончаныя часткі ейныя былі выдадзеныя асобнай кніжкаю ў 1940 годзе да дэкады беларускага мастацтва ў Маскве, дзе яны былі паказаныя ў канцэртным выкананьні.

У 1941-42 гг. — лірыка-рамантычная опэра зь беларускага жыцьця XIII ст. "**Лясное возера**" (на лібрэта Н. Арсеньнявай). У 1942-43 гг. яна йшла на сцэне Менскага опэрнага тэатру. Зь яе дагэтуль апублікаваныя дуэт маладых дружыньнікаў ("Дзяўчаты-дзяўчыначкі"), [9])

[4]) Часапіс «Шляхам Жыцьця», Ватэнштэт, 1947 г., № 21-22.

[5]) Там-жа, 1947 г., № 24.

[6]) Там-жа.

[7]) «Крывіцкі Сьветач», 1946 г., № 11.

[8]) Газэта «Бацькаўшчына», Остэргофэн, 17 лістапада, 1947 г. Пра водгукі на выступы тэатру — гл. таксама: Алесь Вініцкі. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939-1951 гг., ч. III, Лос Анжэлас, 1968 г., бб. 44-53.

[9]) «Беларускі песенны зборнік», 1960 г., бб 53 55.



заключная "Песьня аб долі" [10]) й устаўленыя ў опэру чатыры апрацоўкі аўтарам беларускіх народных песьняў — дзявочае (пры абрадзе завіваньня бярозкі) "Ой, пойдзем, дзявочкі, завіваць бярозкі", [11]) мужчынскае "Ой, у лесе, пры гушчары", [12]) скамарошае "Ой, з-за лесу" [13]) й вясельнае (застольнае) "Ой, борам, борам". [14])

У 1942-43 гг. — гісторыка-гэраічная опэра з падзеяў XI ст. "**Усяслаў Чарадзей**" (на лібрэта Н. Арсеньнявай). Опэра была ў рэпэртуарным пляне Менскага опэрнага тэатру на 1944 год, аб чым у прэсе было пададзена да публічнага ведама. У тэатры йшлі рэпэтыцыі. Але дзеля акупацыі Менска й Беларусі савецкім войскам паставіць яе не пасьпелі. У канцэртным выкананьні ў 1943 годзе опэру перадавала менская радыёстанцыя. 26. 3. 1944 г. сцэна зь яе была паказана ў Менскім тэатры на сьвяточным канцэрце пасьля ўрачыстай акадэміі, прысьвечанай сьвяту 25-га Сакавіка. Апублікавана зь яе толькі "Песьня дружыны Ўсяслава" на бяседзе князя з дружыньнікамі пасьля перамогі над Ноўгарадам. [15])

"Лясное возера" й "Усяслаў Чарадзей" — рэпрэзэнтацыйныя й клясычныя нацыянальныя беларускія опэры.

2. **а п э р э т ы** —

"**У вырай**" (на тэкст Н. Арсеньнявай), над якой кампазытар працаваў у Менску ў 1944 годзе. Ці закончыў ён яе на эміграцыі — напэўна ня ведаю. Зь яе апублікаваныя "Прамова свата", [16]) арыя жаніха Сьцяпана, [17]) арыя Кацярыны [18]) ды дуэт Кацярыны й Сьцяпана. [19])

3. **м у з ы к а д а д р а м а т ы ч н ы х п'е с а ў** —

У 1942 годзе да драмы А. Міровіча **"Кастусь Каліноўскі"** (пераробленая із рыхтаванае кампазытарам у 1940-41 гг. опэры "Кастусь Каліноўскі" на лібрэта М. Клімковіча, працу над якой спыніла вайна). [20]) Гатовую да пастаноўкі Менскім драматычным тэатрам драму нямецкая цэнзура забараніла, але увэртура да яе й паасобныя сцэны ў 1942-44 гг. былі ў праграмах тэатру, а "Песьня Каліноўцаў" з пралёгу да яе (на словы Н. Арсеньнявай' апублікаваная двойчы. [21])

У тым-жа (1942) годзе — музыка да нямецкае казачнае драмы Г.

[10]) Там-жа, бб. 5-11.

[11]) «Беларускі песенны зборнік», вып. 1, 1954 г., бб. 47-48.

[12]) «Беларускі песенны зборнік», 1960 г., бб. 156-159.

[13]) Там-жа, бб. 153-155.

[14]) Там-жа, бб 113-115.

[15]) Там-жа, бб. 14-16.

[16]) Там-жа, бб. 150-153.

[17]) Там-жа, бб. 163-165.

[18]) Там-жа, бб. 166-167.

[19]) Там-жа, бб. 171-174.

[20]) Урыўкі з опэры ў 1940 г. перадаваліся праз менскае радыё.

[21]) Першы раз у «Беларускім песенным зборніку», вып. 5, 1955 г., бб. 23-25. Другі раз — у «Беларускім песенным зборніку» 1960 г., бб. 23-25.

 

Гаўптмана "Затонуты звон" (перакладзенае ў беларускую мову Н. Арсеньнявай'. Драма ў 1942 годзе йшла ў Менскім драматычным тэатры.

4. **сымфоніі, сымфанічныя сюіты, канцэрты й іншыя большыя вакальна-аркестравыя й музычна-інструмэнтальныя творы**, напісаныя ў Менску.

5. **кантаты** —

"**Сакавік**" (на словы Н. Арсеньнявай) для мяшанага хору, дэкляматара й аркестры,[22]) напісаная ў 1954 годзе ў Клыўлэндзе.

6. **музыка да шматлікіх песьняў**, напісаная ў розным часе ў Беларусі й на эміграцыі —

Песьняў патрыятычных, жаўнерскіх, юнацкіх, лірычных на словы беларускіх паэтаў: найбольш — на словы Я. Купалы й М. Багдановіча, тады — Н. Арсеньнявай, М. Кавыля, У. Дубоўкі,Л. Случаніна, У. Жылкі й іншых. Сярод іх такія папулярныя песьні й рамансы, як "О, Беларусь, мая шыпшына" (на словы У. Дубоўкі), "Я ад вас далёка" й "Ты прыдзі" (на словы Я. Купалы), "Пагоня" й "Слуцкія ткачыхі" (на словы М. Багдановіча), "Не забуду я, Алеся" й "Васілёчкі" (на словы М. Кавыля), "Беларусь, наша Маці-Краіна" й "У гушчарах" (на словы Н. Арсеньнявай) і г. д. Паадзіночныя зь іх апублікаваныя ў розных беларускіх пэрыядычных выданьнях у Беларусі й на эміграцыі, а найболей — у ягоных "Беларускіх песенных зборніках" 1955 і 1960 гг.

7. **музыка да Сьв. Літургіі** —

Упяршыню яна выконвалася ўвесну 1949 году царкоўным хорам у лягеры Віндзішбэргэрдорф, а паасобныя мэлёдыі — у розных беларускіх царкоўных парафіях на эміграцыі дагэтуль. У "Беларускім царкоўным сьпеўніку", выдадзеным у 1979-80 гг. у Лёндане ведамым дасьледчыкам беларускіх царкоўных сьпеваў Г. Піхураю (Пікардам),[23]) із літургічнае музыкі Шчаглова (Куліковіча) апублікавана 16 арыгінальных мэлёдыяў і 6 ягоных гарманізацыяў старых беларускіх напеваў — Слуцкага, Жыровіцкага, Віленскага й іншых.

Акрамя арыгінальных твораў, у Шчаглова (Куліковіча) ёсьць, як мы ўжо заўважылі, шмат ягоных музычных апрацовак беларускіх народных песьняў, у бальшыні запісаных ім самім у Беларусі. У сваім часе яны ўлучаліся ў рэпэртуар менскага радыё й шматлікіх хораў і салістых на бацькаўшчыне, а на эміграцыі — у рэпэртуар Беларускага Тэатру Эстрады, розных хораў і салістых дагэтуль. Частка іх выдадзена ў ЗША ўва ўложаных ім самім "Беларускіх песенных зборніках" — "вып.1, абрадавыя беларускія сьпевы й гульні (калядныя, веснавыя й купальскія)", 1954 г., дзе 20 апрацовак із ягоных уласных запісаў, а рэшта — із запісаў У. Тэраўскага, А. Ягорава, Р. Шырмы й іншых зьбіральнікаў народнага мэлясу; "Беларускі песенны зборнік" 1960 г., дзе ягоныя апрацоўкі таксама часткава із уласных запісаў: тут беларускія гістарычныя (4), лірычныя (22) і жартоўныя (12) песьні, народныя гульні (9) і скокі (10) із сьпевамі; і зборнік "Калядоўшчыкі", 1961 г. (калядкі, калядныя гульні й карагод).

Наагул кампазытар, жывучы ў Клыўлэндзе (1953-56 гг.), уплянаваў і пачаў рыхтаваць да друку 8 выпускаў зборнікаў: 4 выпускі сваіх музычных апрацовак беларускіх народных песьняў і 4 выпускі сваіх арыгінальных твораў. Мажлівасьці друку й адпаведна ім пляны з часам мяняліся. Кампазытар пераехаў у Чыкага, але друк зборнікаў працягваўся. Яму ўдалося выдаць тры згадваныя **"Беларускія песенныя зборнікі"** (1954, 55, 60 гг.) і зборнік **"Калядоўшчыкі"** (1961 г.) У 1967 годзе выйшаў яшчэ зборнік **"Родныя матывы"** — ноты для акардыёну (із тэкстамі) найбольш папулярных беларускіх песьняў (патрыятычных, лірычных, жартоўных) з арыгінальнай музыкай кампазытара ці ягонымі апрацоўкамі народных песьняў (разам — 50) і скокаў (10). Усе пяць зборнікаў выдадзеныя выдавецтвам Клыўлэндзкага аддзелу Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў ЗША, стараньнем і працаю У. Дунца.

Некаторыя арыгінальныя творы Шчаглова (Куліковіча) і ягоныя апрацоўкі беларускіх народных песьняў запісаныя на патэфонныя кружэлкі. З удзелам яго самога праца гэтая пачалася ў студзені 1945 году ў Нямеччыне, калі на бэрлінскай радыёстанцыі ягонай руплівасьцю запісваліся на магнітафонныя стужкі (зь іх потым перапісваліся на кружэлкі) сьпевы М. Забэйды-Суміцкага пры фартэп'янным акампанімэньце кампазытара. Разам із запісамі беларускіх народных песьняў у апрацоўцы А. Грэчанінава, А. Туранкова, С. Казуры, тады была запісаная й апрацоўка беларускай народнай песьні Шчаглова (Куліковіча) "Ой, арол".[24]) Працу гэтую кампазытар працягвае й па пераезьдзе ў ЗША, дзе пад ягоным музычным кіраўніцтвам і пры ягоным акампанімэньце найграна колькі кружэлак. Нам ведамыя — тры ў 1955 годзе ў Клыўлэндзе харавымі групамі Згуртаваньня Моладзі (выданьне "Васількі" — пераважна беларускія народныя песьні "Што й за месяц", "Ой, рэчанька, рэчанька", "Як я была маладая" й іншыя). У 1960-ых гг. (выданьне "Каласкі") у выкананьні опэрных салістак Н. Градэ й Б. Вержбаловіч на кружэлку запісана 16 ягоных рамансаў і песьняў на словы беларускіх паэтаў ці народных песьняў ("Я ад вас далёка", "Васілёчкі", "Ты прыдзі", "О, Беларусь, мая шыпшына", "Лявоніха" й г. д.), а дбайнасьцю Беларускага выдавецка-мастацкага клюбу "Пагоня" ў Канадзе ў выкананьні Б. Вержбаловіч — 7 беларускіх народных песьняў ("Пасею-ж я", "Вярба", "Ой, ды жала я" й інш.) і ў выкананьні салістага

---

[22]) Надрукавана ў «Беларускім песенным зборніку» 1960 г., бб. 29-34.

[23]) Гл. пра гэта часапіс «Божым Шляхам», Лёндан, 1980 г., № 151, бб. 27-28.

[24]) Песьня гэтая ў апрацоўцы Шчаглова (Куліковіча) дзесь у 1950-ых гг. паўторна запісана на кружэлку ў СССР, але без паданьня на ёй імя нашага кампазытара ці якогась іншага. (Выданьне: СССР, Апрельский завод, ГОСТ 5289-50. Выканаўца: Н. Д. Варвулев. Акампанімэнт: Гос. белорусский нар. оркестр под упр. И. И. Жиновича).

 

 

Сяргея Шульгі — раманс “Не забуду я, Алеся”. Бяз удзелу кампазытара ў 1944 годзе ў Празе М. Забэйда-Суміцкі запісаў на кружэлку ў сваім выкананьні пры суправодзе сымфанічнае аркестры раманс “Учора шчасьце” (на словы М. Багдановіча). На двух кружэлках беларускага жаночага хору “Каліна” ў Саўт Рывэры (дырыгэнт К. Барысавец) у сярэдзіне 1960-ых гадоў запісаныя тры песьні й рамансы — “Я іду дарогаю” (на словы У. Клішэвіча) і іншыя ды беларуская народная песьня “Цераз сад-вінаград”.

Як не музыказнаўца я не магу разглядаць нутраное структуры музыкі Шчаглова (Куліковіча) — ні ягонай музычнай мовы, ні ейных стылявых асаблівасьцяў і музычнага почырку, як не магу рабіць і агульнай ацэны ягонай кампазытарскай творчасьці. Таму спашлюся тут на аўтарытэт выдатнага музыказнаўца й кампазытара праф. А. Карповіча.

Паводле яго, беларускія кампазытары Туранкоў, Шчаглоў (Куліковіч) і Равенскі ў сваёй творчасьці “імкнуцца знайсьці арганічнае адзінства мэлёдыі й гармоніі, сымфанізаваць народны музычны фальклёр, шукаць новыя фарбы на гукавой палетры народных інструмэнтаў, сродкамі сучаснай эўрапэйскай сымфанічнай аркестры імкнуцца перадаць іхнае гучаньне. Яны ўздымаюць беларускую мэлёдыю на высокі мастацкі ўзровень кампазытарскай тэхнікі, глыбака й удумліва падыходзяць да захаваньня ў мастацкіх творах сваеасаблівасьцяў беларускага каларыту. Творчая дзейнасьць кампазытараў М. Шчаглова (Куліковіча) і М. Равенскага можа служыць прыкладам няўпыннай і ўпорыстай працы над праблемай народнасьці ў музыцы, праблемай, якая стала перад імі яшчэ ў часе першых спробаў засваеньня беларускай песьні.

У такіх творах М. Шчаглова (Куліковіча), як беларускія песьні для солё ў суправаджэньні сымфанічнай аркестры, сымфанічныя сюіты на беларускія тэмы, 2-я сымфонія, канцэрт для фартэп’яна з аркестрай, творы для цымбальнай аркестры, опэры “Лясное возера”, “Усяслаў Чарадзей”; у творах М. Равенскага, як мастацкія апрацаваньні беларускіх песьняў, вялікія харавыя творы (“Шыпшына”, “Слуцкія ткачыхі”, “Чаму-ж мне ня пець”), “Фантазія для йскрыпкі з фартэп’яна”, “Сюіта на беларускія тэмы” для фартэп’яна, опэра “Браніслава” — ува ўсіх гэтых творах і шмат іншых, самабытнасьць творчай індывідуальнасьці аўтараў, тэхнічная дасканаласьць, шуканьне новых прыёмаў большае выразнасьці — усё гэта падпарадкваецца аснаўному — імкненьню якнайглыбей сягнуць у самую існасьць народнага мэлясу, які складае запраўдныя “душу й цела” іхнае музыкі, незалежна ад розьніцы творчых індывідуальных рысаў”. [25])

— * —

[25]) Алесь Карповіч. Да праблемы беларускага нацыянальнага стылю ў музыцы — «Запісы» Беларускага Інстытуту навукі й мастацтва, № 1(5), Ню-Ёрк, 1954, бб. 16-17.



Значны сьлед Шчаглоў (Куліковіч) пакінуў і як тэарэтык-музыказнаўца ды гісторык беларускае музыкі. Гэта ён (побач Равенскага) у працэсе зьбіраньня й вывучэньня беларускай народнай песьні ўпяршыню выкрыў ейную ладавую пабудову й самабытныя рысы структуры музычнай мовы (арнамэнт мэлёдыкі й рытмікі, вольнасьць і нераўнамернасьць мэтрыкі, рэчытатыўнасьць і г. д.), напісаўшы пра ўсё гэта адмысловае дасьледваньне. Шмат цікавіўся гісторыяй беларускай музыкі й тэатру. У гэтых галінах навукі напісаў і апублікаваў шэраг працаў:

1. **“Беларуская песьня”**, Менск, 1942 г. (не апублікаваная); [26])
2. **“Беларуская музычная культура”**, Бэрлін, 1944 г., выданьне “Народнай бібліятэчкі”, № 6; [27])
3. **“Беларуская музыка”**. Кароткі нарыс гісторыі беларускага музычнага мастацтва, ч. 1, Ню-Ёрк, 1953 г., выданьне Беларускага Інстытуту навукі й мастацтва;
4. **“Беларуская савецкая опэра”**, Мюнхэн, 1957 г., выданьне Інстытуту для вывучэньня СССР.

Зь меншых публікацыяў цікавейшыя: **“Беларускія народныя песьні ў творстве выдатных кампазытараў“, [28]) “Крызыс беларускага музычнага мастацтва ў БССР пасьля вайны 1941-45 гг.”, [29]) “Беларускае мастацтва 20-ых гадоў і ягоныя карэньні ў савецкай сучаснасьці“, [30]) “Да пытаньня дэгрэдацыі вядучага тэатру БССР” [31])** і шмат іншых артыкулаў у розных беларускіх пэрыядычных выданьнях.

Трэба сказаць, што праз усё сваё жыцьцё на эміграцыі, да самае сьмерці, ён штосьь пісаў, рыхтаваў да друку, друкаваў. Пісаў на розныя тэмы, найбольш, відаць — фальклёрныя й гісторыка-музычныя. Быў таксама таленавітым мэмуарыстым. Чытачу ведамыя ягоныя ўспаміны пра Я. Купалу, друкаваныя сьпярша ў газэце “Беларус”, [32]) а пасьмяротна — у юбілейнай кніжцы на 100-ыя ўгодкі нарадзінаў Я. Купалы і Я. Коласа. [33]) Неапублікаванымі засталіся ўспаміны із музычнага жыцьця ў Менску ад сярэдзіны 1930-ых гг. да пачатку

[26]) Падрыхтаваны да друку рукапіс кніжкі ў яго выпазычыў нямецкі музыказнаўца, здаецца, др. Крафт і зь невядомых прычынаў не вярнуў назад аўтару, выехаўшы зь Менску.

[27]) У гэтай кніжачцы ( у разьдзеле «Беларуская народная песьня») аўтар коратка паўтарыў некаторыя свае высновы із загінуўшай працы «Беларуская песьня».

[28]) Часапіс «Веда» Крывіцкага (Беларускага) Навуковага Таварыства Францішка Скарыны, Ню-Ёрк, ліпень-верасень 1951 г., бб. 108-117.

[29]) «Беларускі Зборнік» Інстытуту для вывучэньня СССР, кн. 1, Мюнхэн, 1955 г., бб. 115-136.

[30]) «Беларускі Зборнік», кн. 5, 1956 г., бб. 124-143.

[31]) «Беларускі Зборнік», кн. 6, 1956 г., бб. 120-153.

[32]) Газэта «Беларус», Ню-Ёрк, №№ 5-11 за 1952 год.

[33]) Янка Купала і Якуб Колас. 1882-1982. Вянок успамінаў пра іх. Укладальнік і рэдактар А. Калубовіч, 1982, ЗША.

2-ой сусьветнай вайны. [34])

— * —

... А гады йшлі. Пасьля 70-ці ён часта скардзіўся, што "сэрца здае". У 1967 годзе з пакутлівай жальбаю спаткаў перадчасную сьмерць дачкі Натальлі. Пісаў, што езьдзіў із Чыкага ў Рочэстэр на паховіны. "Было ўрачыста, але й вельмі цяжка... вельмі балюча". Гэтае раны ў сэрцы ня мог пазбыцца.

5-га сакавіка 1969 году трапіў у шпіталь, зь якога спадзяваўся хутка выйсьці. Там строіў яшчэ далейшыя пляны паўнейшае гісторыі беларускай музыкі, над якой працаваў ужо колькі год (у лісьце із шпіталю прасіў новых, абяцаных мною матэрыялаў), абдумваў апошнія дэталі амаль падрыхтаванага да друку чарговага выпуску "Беларускага песеннага зборніка".

Аднак... 31 сакавіка ўсё абарвалася, багатае творчае жыцьцё спынілася. Ні паўнейшая гісторыя беларускай музыкі, ні чарговы выпуск "Беларускага песеннага зборніка" друку ўжо не пабачылі.

Спадчына М. Шчаглова (Куліковіча) — вялікая. Беларускія эміграцыйныя арганізацыі, пакуль яшчэ ня позна, павінны ў паразуменьні й з дапамогаю сп. Н. Градэ-Куліковіч усю яе сабраць і захаваць — музычную, музыказнаўчую, мэмуарную й эпісталярную. У першую чаргу — усё ркапіснае, неапублікаванае (опэры, апэрэту, сымфоніі, сымфанічныя сюіты, канцэрты й іншае), каб скарб гэты не загінуў і ў будучыні мог трапіць у друк і на сцэну.



[34]) Рукапіс гэтых успамінаў (грубы сшытак) аднойчы ў Нямеччыне быў у мяне, але, на просьбу камп. М. Равенскага, із згодаю аўтара я перадаў яго Равенскаму. Дзе рукапіс цяпер — ня ведаю.



Алесь Карповіч (Зах. Нямеччына)
(дацэнт - музыкалёг)

## ПАМЯЦІ МІКОЛЫ ШЧАГЛОВА (КУЛІКОВІЧА)

31-га сакавіка 1969 году ў Чыкага памёр беларускі кампазытар-музыкалёг Мікола Шчаглоў-Куліковіч. Зь ягонай сьмерцьцю беларускае музычнае мастацтва на чужыне згубіла свайго найвыдатнейшага прадстаўніка.

"Родная, мілагучная, сьціплая, але надзвычай прыгожая, ласкавая й душэўная беларуская народная песьня, у якой чутны дух народу, ягоная гісторыя, ягоныя вольныя імкненьні, ягоныя векавыя традыцыі", — так пісаў у адным із сваіх шматлікіх артыкулаў М. Шчаглоў-Куліковіч пра беларускую народную песьню (газэта "Бацькаўшчына" ад 25 лістапада 1956 г.) і гэтае замілаваньне да беларускага музычнага фальклёру, сапраўдную закаханасьць у яго, кампазытар пранёс праз усё сваё жыцьцё. "Höre fleissig auf alle Volkslieder, sie sind eine Fundgrube der schönsten Melodien und öffnen dir den Blick in den Charakter der verchiedenen Nationen" — гэтыя словы кампазытара-рамантыка Р. Шумана маглі-б цалкам належыць і Шчаглову-Куліковічу. Беларускі народ адзначаецца сваёй высокай уроджанай музыкальнасьцю й створаныя ім песьні прываблівалі творчую ўвагу шэрагу выдатных майстроў музычнага мастацтва іншых нацыянальнасьцяў (Шапэн, Карловіч, Мусоргскі, Грэчанінаў і інш.). Шмат этнаграфаў 19-га стагодзьдзя прысьвяцілі ўсё сваё жыцьцё зьбіраньню й запісу беларускага музычнага фальклёру (Шэйн, Радчанка, Прохараў, Грыневіч, Шыдлоўскі, Абрамовіч, Гацкі). Але яны пакідалі амаль бяз увагі аналіз гэтага народна-песеннага багацьця й тэарэтычнае вывучэньне яго. Адным з тых, што праліў сьвятло на інтанацыйна-ладавае пабудаваньне беларускае песьні й дапамог вывясьці яе із становішча "terra incognito", зьявіўся М. Шчаглоў-Куліковіч. Ім сабраная неаглядная колькасьць беларускіх песьняў, тэарэтычнаму дасьледваньню якіх, ён прысьвяціў, паміма шматлікіх артыкулаў, кнігі: " Беларуская песьня" (1940 г.) і "Нарыс гісторыі беларускай музыкі" (1948 г.). Шмат чаго зь ягоных працаў у гэтым кірунку чакае на сваё апублікаваньне.

Пяру Шчаглова-Куліковіча-музыкалёга належыць кніга "Беларуская савецкая опэра" — праца цэнная, як вынік дасьледваньняў незалежнага, вольнага ад усялякіх догмаў музыказнаўцы. Апрача таго, ён напісаў шэраг цікавых і важных па тэматыцы артыкулаў, якія надрукаваныя ў беларускіх выданьнях Інстытуту па вывучэньню СССР.

Як кампазытар, Мікола Шчаглоў-Куліковіч займае па праву пачэснае месца ў слаўнай кагорце беларускіх майстроў музычнага мастацтва ягонага пакаленьня — Аладава, Туранкова, Цікоцкага, Равенскага, Чуркіна, Пукста. Уся творчасьць Шчаглова-Куліковіча выплаўлена ў гарне народнага музычнага мастацтва — інтымна-душэўны раманс, каляровыя палотны сымфоніяў ці манумэнтальны эпас опэры. Далёкі



© PDF: Kamunikat.org 2013

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

ад абстрактнага экспрымэнтатарства, ён па-майстроўску злучыў лепшыя традыцыі славянскай музычнай школы зь інтанацыйна-ладавым багацьцем беларускага народна-песеннага мастацтва, стварыўшы гэтым падставы заснаваньня беларускага нацыянальнага стылю ў музыцы, непаўторнага ў сваёй сьвежасьці й арыгінальнасьці. Творчасьць Шчаглова-Куліковіча ахоплівае ўсе жанры музычнага мастацтва. Творчая спадчына Шчаглова-Куліковіча вялікая — сотні апрацаваных народных мэлёдыяў, масавыя юнацкія песьні, камэрныя раманcы, дзьве сымфоніі, сымфанічная сюіта, канцэрт для фартэпіяна з аркестрай, музыка да тэатральных п'есаў, тры опэры — "Кацярына", "Лясное возера" і "Усяслаў Чарадзей".

Шматкаляровую палітру эмоцыяў перадае ў гуках кампазытар — пяшчотную лірыку дзявочага каханьня, тонкае адчуваньне прыроды, бадзёры крок юнакоў-барацьбітаў за вольную Бацькаўшчыну, патрыятычны ўздым, эпічную шырыню й драматычную ўсхваляванасьць. Цікавая, сакавітая й насычаная аркестроўка Шчаглова- Куліковіча.

Сам таленавіты дырыгент, шмат гадоў кіруючы аркестраю ў Менскім опэрным тэатры, ён добра ведаў выразныя й тэхнічныя магчымасьці асобных інструмэнтаў і ўмела выкарыстоўваў іх у сваёй творчасьці. Гэткія ягоныя сымфанічныя творы й опэрныя увэртуры, асабліва увэртура да опэры "Лясное возера" — яскравы музычны абраз, прасякнуты рамантычным успрыняцьцем прыроды. Наагул роля аркестры ў опэрах Шчаглова-Куліковіча ані не падпарадкаваная — суправаджальная, у аркестры кампазытар як-бы расшыфроўвае нутраную існасьць падзеяў, што адбываюцца на сцэне, разгортваючы музычна-драматургічны паток. Сцэнічныя постаці й характары ягоных опэраў часам у сваёй праўдзівасьці й трагічнасьці сягаюць да высокага драматургічна ўзроўню, набліжаючы опэры да музычнае драмы. Опэры Шчаглова-Куліковіча належаць да новага этапу ў беларускім музычным мастацтве. Прасякнутыя духам беларускага народу й беларускае прыроды, яны становяць творы цалком сучаснымі й з боку тэхнічнага майстроўства, якія па праву могуць заняць месца ў шэрагу эўрапейскіх узораў опэрнага мастацтва.

Вельмі значную ролю адыграў Шчаглоў-Куліковіч, як грамадзкі дзеяч і арганізатар беларускага музычнага жыцьця на чужыне. Ён быў арганізатарам і душою першага беларускага вандроўнага тэатру-балету-хору на эміграцыі, які працаваў адразу пасьля вайны сярод беларускае ды іншае эміграцыі на абшары Нямеччыны ў гадох 1944-1949, пад назовам "Жыве Беларусь", а пасьля "Беларускі Тэатр Эстрады". Тэатр гэты даў за пяць гадоў свайго існаваньня звыш сотні пастановак. Душою нацыянальнага музычнага жыцьця паза Бацькаўшчынай застаўся Шчаглоў-Куліковіч і надалей. Ані воднае нацыянальнае сьвята не абыходзілася безь ягонае музыкі, безь ягонага актыўнага ўдзелу, як мастацкага кіраўніка.



Р. СЕМАШКЕВІЧ

## ЧАСОПІС "ГОМАН"

### Браніслаў ЭПІМАХ-ШЫПІЛА і яго «Беларуская Хрэстаматыя»

працяг

Як сьведчаньне «Гоману» аб няўхільным разьвіцьці культуры, літаратуры беларускага народу, зьявілася дзейнасьць у Пецярбурзе Б. І. Эпімаха-Шыпілы. Ён працаваў на беларускай ніве ў Пецярбурзе ад пачатку 80-ых гадоў XIX стагодзьдзя да Кастрычніцкай рэвалюцыі й зьяўляўся, па-сутнасьці, адным зь першых і самым актыўным арганізатарам і кіраўніком беларускага літаратурна-грамадзкага руху на працягу ўсяго яго разьвіцьця. Вучоны-філялёг, ён працаваў у Пецярбурскім унівэрсытэце й быў адначасова ў розныя часы выкладчыкам лацінскай мовы на агульнаадукацыйных курсах Чарняева, настаўнікам грэцкай мовы ў мужчынскай гімназіі. Ён займаўся зьбіраньнем фальклёру, выданьнем і рэдагаваньнем беларускіх кніг, публіцыстыкай і мовазнаўствам. На жаль, да апошняга часу яму не адводзілася належнага месца ні ў беларускім літаратуразнаўстве, ні ў гістарычнай навуцы, а ён быў у Пецярбурзе тым чалавекам, вакол якога групаваліся найбольш актыўныя сілы грамадзка-літаратурнага руху. Пара, думаецца, гаварыць пра яго заслугі на поўны голас.

Кожная эпоха разьвіцьця грамадства той ці іншай нацыі вылучае людзей, якія сілай свайго розуму й сілай працы могуць уплываць на ход разьвіцьця гэтай эпохі. Такая заканамернасьць існуе заўсёды і адбываецца незалежна ад таго, у якім стане — вольнасьці ці прыгнечанасьці — знаходзіцца нацыя. Іншая рэч, што прыгнёт перашкаджае разгортваньню дзейнасьці перадавых людзей, што асабліва бывае ў адсталых краінах. Але тайныя ці яўныя вынікі гэтай дзейнасьці выяўляюцца, калі не для сучасьнікаў, то для нашчадкаў. Гісторыя пацьвярджае яшчэ й тое, што перш чым зьяўляюцца сапраўдныя волаты нацыі, заўсёды ёсьць прадстаўнікі інтэлігенцыі, якія робяць грамадзкую атмасфэру спрыяльнай для іх зьяўленьня. Але з асобнымі прадстаўнікамі інтэлігенцыі, якая абудзіла, увяла ў жыцьцё добрыя пачынаньні, лёс парой абыходзіцца даволі несправядліва. Яны як-бы застаюцца ў цені тых значных пачынаньняў, бо з-за жорсткіх умоў часу хавалі сьляды сваёй працы. Такі лёс напаткаў і дзейнасьць Эпімаха-Шыпілы, пра яго знаходзім толькі некалькі прыжыцьцёвых і пасьмяротных друкаваных матэрыялаў. Праўда, гэта тлумачыцца многімі абставінамі, у першую чаргу беспадстаўным абвінавачваньнем у 1930 годзе.

Прозьвішча Эпімаха-Шыпілы, вялікага эрудыта й дасьведчанага чалавека, усё-ж ведалі вучоныя. У 1945 годзе адзін зь іх, акадэмік І. Крачкоўскі, у сваёй цікавай кнізе мэмуараў «Над арабскімі рукапісамі», якая была ўдастоена дзяржаўнай прэміі, пісаў: «Эпімах-Шыпіла ўяўляў фігуру ня менш выдатную і ў процівагу другім рознабаковую... Пра яго я чуў яшчэ гімназістам, бо ён прыязджаў зрэдку працаваць у Вільню ў Публічную бібліятэку і архіў, галоўным чынам па гісторыі заходняга краю. Усе студэнты, якія жадалі займацца ў унівэрсытэцкай бібліятэцы (маецца на ўвазе бібліятэка Пецярбурскага ўнівэрсытэту), перш за ўсё траплялі да яго... Будучы па адукацыі вельмі грунтоўным філялёгам-клясыкам, ён выкладаў па-латыні грэцкую мову ў Рыма-каталіцкай духоўнай акадэміі. Пасьля я даведаўся,

што ён лічыўся знаўцам і другіх, часам зусім незвычайных галін, ведучы заняткі, між іншым, бадай ці не па гісторыі царкоўных аблачэньняў. З адным бокам яго дзейнасьці я пазнаёміўся даволі блізка, хоць ён стараўся па магчымасьці не распаўсюджваць аб ёй зьвестак па цалкам зразумелых для таго часу меркаваньнях: ён быў відным дзеячом беларускага літаратурнага адраджэньня. Цудоўна ведаючы беларускую мову, і ў жывой гутарцы, і ў старых помніках, сам ён мала выступаў у друку, але ўсяляк падтрымліваў беларускае выдавецтва й беларусаў, якія траплялі ў Пецярбург».

Хочацца яшчэ прывесьці адзін дакумант — ліст паэтэсы Цёткі да Эпімаха-Шыпілы, — які больш канкрэтна, чым успамін Крачкоўскага, гаворыць нам шмат цікавага: «Выбачайце, што незнаёмая й пішу да Вас я, Пашкевічанка... бо то калісь прабавала вершы пісаць і іх Вам чыталі. Во то-ж цяпер жыву ў Львове, з украінцамі-русінамі й уніятамі заводжу знаёмства. Шмат нам спрыяюць, памогуць у чым сіла. Цяпер покі-што будуць друкаваць па-беларуску. Калі маеце што, то прышліце. Я хачу даведацца ад Вас, што чутно з букваром, ці ўжо гатоў, ці ў нас будзе фанэтыка наша беларуская. Гэта вельмі важна, бо буду цяпер выдаваць папулярныя рэчы для народу, ды ня ведаю, як чаго трымацца».

Ліст даволі выразна ўказвае на ролю старшынства Эпімаха-Шыпілы сярод беларускай інтэлігенцыі таго часу, бо запытаньне пра формы перадачы беларускіх гукаў у друку й пра выданьне кніг у час, калі беларусы мелі вельмі мала для культурнага спажытку, магло быць адрасавана толькі чалавеку кампэтэнтнаму ў гэтай справе.

З-за тых самых умоў працы Эпімаха-Шыпілы, аб якой, як пісаў Крачкоўскі, ён «стараўся па магчымасьці не распаўсюджваць зьвестак», захаваліся ня ўсе яго навуковыя працы, ня ўсе матэрыялы аб жыцьці й дзейнасьці Эпімаха-Шыпілы, які, па-сутнасьці, працаваў напаўлегальна.

У беларускім сатырычным рукапісным часопісе «Чэмер» за 1910 год зьмешчана карыкатура, на якой намаляваны франт, які то адным, то другім разносіць вестку: «Шыпіла прыедзе!» Часопіс гэты выйшаў у Вільні, карыкатура высьмейвае рэнэгатаў беларускага нацыянальнага руху, якія распаўсюджвалі зьвесткі аб тайных справах гэтага руху, у дадзеным выпадку зьвесткі аб прыезьдзе Эпімаха-Шыпілы ў Вільню. Да самага апошняга часу быў слаба асьветлены й жыцьцёвы шлях Эпімаха-Шыпілы. Знойдзеныя намі асабовыя справы гэтага дзеяча даюць магчымасьць запоўніць прабел.

Б. Эпімах-Шыпіла нарадзіўся 4-га верасьня 1859 г. ў фальварку Будзькаўшчына на Лепельшчыне, а дзяцінства яго прайшло ў фальварку Залесьсе (цяперашні Полацкі раён), куды неўзабаве пераехалі бацькі. Бацька яго быў дробным шляхціцам (меў дваццаць дзесяцін ворнай зямлі й дзесяць дзесяцін лесу). Пасьля сьмерці бацькісям'я зусім зьбяднела. Скончыўшы ў 1880 годзе з залатым мэдалем Рыскую рускую Аляксандраўскую гімназію, Эпімах-Шыпіла паступіў на гісторыка-філялягічны факультэт Пецярбурскага ўнівэрсытэту. Маці яго прыйшлося браць пасьведчаньне аб тым, што сям'я засталася амаль без сродкаў для існаваньня. У студэнцкай асабовай справе Эпімаха-Шыпілы ёсьць каля дзесятка прашэньняў з розных студэнцкіх гадоў аб вызваленьні ад платы за слуханьне лекцыяў, аб назначэньні стыпэндыі.

Пасьля заканчэньня ўнівэрсытэту яго накіроўваюць на працу ў бібліятэку ўнівэрсытэту, дзе ён пастаянна працаваў ажно да 1925 году.

Эпімах-Шыпіла паходзіў са шляхты, якая хоць і сыстэматычна палянізавалася



праз касьцёл, усё-ж жыла ў беларускім асяродзьдзі, ведала беларускую мову, фальклёр. Але ня толькі філялягічнай ці этнаграфічнай цікавасьцю да беларускага фальклёру можна вытлумачыць запісы народнай творчасьці ў паперах Эпімаха-Шыпілы,якія адносяцца да гадоў яго маладосьці. Гэта дакумантальныя сьведчаньні цікавасьці й любові яго да роднага народу. Любові хаця-б таму, што Эпімах-Шыпіла сам ведаў і вывучаў фальклёр свайго народу, жывучы далёка ад яго. Вось невялікая песьня:

Вецер веіць
Сонца грэіць
З высокага ганку.
Шыты боты,
Чырвон пояс
На маём каханку.
Сама знаю, разумею —
Мне за ім ня быці,
Толькі сэрцу перасада —
Не магу забыці.

Яна запісана, як адзначае аўтар запісу, каля Ушач у 1877 годзе, калі Эпімаху-Шыпілу было толькі 18 год. Перад прыведзенай вышэй песьняй ёсьць прыпеўка:

Не хачу я гарэліцы,
Ні жаднага трунку,
Гвалту крычу,
Замуж хачу,
Дайце мне ратунку, —

а пад ёй подпіс «сьпісаў сам».

У тых-жа раньніх паперах Эпімаха-Шыпілы ёсьць вядомы ананімны верш «Вясна, голад, перапала» пад загалоўкам «Вісна», сьпісаны «з вуснаў Гэлены Мерэцкай», ураджэнкі Віцебшчыны, у Пецярбурзе ў чэрвені 1887 году. Гэты верш быў шырока вядомы ў народзе і ўпершыню апублікаваны ў 1896 годзе ў «Витебских губернских ведомостях», гэта значыць на дзевяць год пазьней запісу Эпімаха-Шыпілы. Запіс супадае ўсюды з прынятым сёньня кананічным тэкстам гэтага вершу й мае толькі некаторыя дыялектычныя асаблівасьці мовы Віцебшчыны («вісна» замест літаратурнага «вясна», «чы» замест «ці» і інш.).

Некаторыя вучоныя выказвалі думку, што гэты верш напісаў Дунін-Марцінкевіч. Яны зыходзілі з таго, што ў 1855 годзе паэт склаў рукапісны зборнік сваіх твораў пад назвай «Гапон», у якім быў зьмешчаны й гэты верш пад назвай «Вот свабоду дадуць скора», падпісаны імемНавум. Але гэты верш у зборніку Дуніна-Марцінкевіча ня мае чацьвёртай, восьмай строф і двух першых радкоў адзінаццатай, якія ёсьць у Эпімаха-Шыпілы і ў першай публікацыі. У той-жа час і ў першай публікацыі, і ў варыянтах Эпімаха-Шыпілы верш гучыць сёньня зусім цэласным творам, а якія-небудзь вельмі значныя папраўкі, унесеныя ў верш пры вусным бытаваньні, здаюцца неверагоднымі. Тым больш, калі можна нават па-рознаму ўспрыняць адсутнасьць дзьвюх строф, то адсутнасьць паўстрафы ў аўтарскім рукапісе вытлумачыць нельга. Няўжо аўтар, рыхтуючы зборнік да друку, мог прапусьціць радкі або не абазначыць пропускі кропкамі, да таго-ж ня гэтыя пропускі, што ёсьць у рукапісе Дуніна-Марцінкевіча, нясуць аснаўную ідэйную нагрузку востра-

сацыяльнага верша. Зусім відавочна, што гэты верш ананімнага аўтара трапіў да Дуніна-Марцінкевіча, пасьля да Эпімаха-Шыпілы, потым да Доўнар-Запольскага, які і апублікаваў яго.

Першыя запісы народнай творчасьці, зробленыя Эпімахам-Шыпілам, — гэта пачатак станаўленьня яго сьветапагляду, пачатак дзейнасьці, выбар шляху ў складанай атмасфэры часу. У 1894 годзе, папрацаваўшы тры гады ва ўнівэрсытэцкай бібліятэцы, Эпімах-Шыпіла ў просьбе на імя рэктара пісаў аб тым, што займаецца гісторыяй зямлі Полацкай і што яму неабходна атрымаць на часовае карыстаньне з ваенна-вучонага архіву галоўнага штабу арыгінал «Рэвізіі Ваяводзтва Полацкага 1586 году». У прашэньні зьвяртае на сябе ўвагу такая фраза: «Азначаная рэвізія Ваяводзтва Полацкага 1586 году, напісаная на беларускай мове рускімі літарамі, выдадзена была...» і г. д. У той час зьвяртацца да высокага начальства, намаганьнямі якога мова была аб'яўлена па-за законам, і пісаць не «белорусское наречие» альбо «белорусский диалект», як гэта было афіцыйна прынята, не тое, каб сказаць, што вялікі гераічны ўчынак, але да характарыстыкі поглядаў чалавека далучаецца дадатны штрых. А ведаў Эпімах-Шыпіла шмат моў куды дасканалейшых, чым беларуская таго часу — некалькі эўрапейскіх і, як пісаў у прашэньні пры паступленьні на працу ў бібліятэку, — «магу чытаць і пісаць некаторыя ўсходнія шрыфты, як санскрыцкі, жыдоўскі й часткова арабскі».

Ужо ў юнацкія гады Эпімах-Шыпіла цікавіцца ня толькі фальклёрам беларускага народу, але й глыбока вывучае яго літаратуру. Ён наладжвае сувязі са шмат якімі людзьмі, дасьведчанымі ў справах беларускай літаратуры й культуры. Напрыклад, у 1893 годзе ён робіць копію з рукапісу камэдыі Дуніна-Марцінкевіча «Залёты». Па гэтай копіі п'еса друкуецца й сёньня. На копіі «Залётаў» рукой Эпімаха-Шыпілы напісана: «Гэта копія «Залётаў» выканана мной у канцы жніўня 1893 году з яшчэ ненадрукаванага рукапісу аўтара В. Дуніна-Марцінкевіча. Гэты рукапіс захоўваецца ў зборах сп. Аляксандра Ельскага ў Замосьці пад Мінскам Літоўскім і быў мне ласкава надасланы ім для скапіраваньня. С.-Пецярбург. 1893. IX. 3. На адвароце фатаграфіі (фатаграфіі В. Дуніна-Марцінкевіча), копія якой зьмешчана тут, знаходзіцца ўласнаручны надпіс Марцінкевіча: «Сябрам па цярністай дарозе ў пілігрымстве жыцьця ў довад братэрства ахвяруе Навум».

У гэтым-жа годзе, даведаўшыся, што ў кракаўскай Ягелонскай бібліятэцы знаходзіцца адзін экземпляр «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча, перакладзены Дуніным-Марцінкевічам, Эпімах-Шыпіла робіць копію гэтага твору, бо тыраж перакладу ў свой час быў спалены па загаду віленскага цэнзара, і засталіся толькі лічаныя экзэмпляры.

Самы актыўны пачатак дзейнасьці Эпімаха-Шыпілы трэба бачыць у складаньні ім беларускай хрэстаматыі, роля якой як крыніцы беларускай дакастрычніцкай літаратуры выключна важная. «Хрэстаматыя» — адна з галаўнейшых спраў усяго жыцьця Эпімаха-Шыпілы і ў асаблівасьці пецярбурскага пэрыяду.

Гэты даволі аб'ёмісты рукапісны зборнік ў цьвёрдай масыўнай вокладцы, сьпісаны акуратным почыркам Эпімаха-Шыпілы. На тытульным лісьце надпіс лацінскімі літарамі па-беларуску: «Biełaruskaja chrestomatyja. Sabraŭ i ŭłažyŭ Bronisłaŭ Epimach-Szypiłło. Piciarborak. 1899 h.» «Хрэстаматыя» складалася вучоным сорак два гады. Апошні запіс у ёй адносіцца да1931 г. «Хрэстаматыя» зьяўляецца адным з унікальнейшых дакумантаў у гісторыі беларускай літаратуры. Лёс яе, праўда, склаўся ня зусім шчасьліва. Трапіўшы пасьля сьмерці Эпімаха-Шыпілы да рускага



вучонага Пушкарэвіча, а потым да Бэндэ, яна з таго часу не трапляла ў рукі сучасным дасьледчыкам, хаця многія зь іх ведалі пра яе існаваньне: у пачатку стагодзьдзя Эпімах-Шыпіла паказваў яе акадэміку Я. Карскаму й той выкарыстаў некаторыя матэрыялы «Хрэстаматыі» ў сваёй працы «Белорусы». Дасьледчыкі наогул правільна здагадваліся — «Хрэстаматыя» сапраўды вельмі цікавая.

Аснаўную частку яе складаюць творы, перапісаныя Эпімахам-Шыпілам у 1889-1890 гадох у Пецярбурзе з розных выданьняў і ў часе наведваньня родных мясьцін з вуснаў розных людзей.

«Хрэстаматыя» адкрываецца старым беларускім уніяцкім гімнам «О, мой Божа, веру Табе, і ўсё веру я для Цябе», які сьпісаны ад нейкага В. Мяніцкага ў Сялігорах, дзе Эпімахам-Шыпілам зафіксавана рабская пакорлівасьць і забітасьць роднага народу.

Паміж гэтай полюснасьцю ляжаў вялікі й цяжкі шлях грамадзтва. І як у люстры, у «Хрэстаматыі» Эпімаха-Шыпілы адбіліся найбольш складаныя, вузлавыя пытаньні літаратурнага, больш таго, грамадзкага жыцьця Беларусі. І яна больш поўна, чым любы гістарычны даведнік ці асобныя публікацыі, расказвае пра гэта. Старэйшы шэдэўр аб прыгодах Тараса на Парнасе й зусім рэальныя зямныя пэрыпэтыі шуканьня рэвалюцыйнага ідэалу ў вершах У. Сыракомлі, факт прыходу ў беларускую літаратуру новага паэты (верш «Вясновай парой» Я. Лучыны) й першыя пераклады на беларускую мову («Ямшчык» У. Сыракомлі ў перакладзе Я. Лучыны), а таксама ананімная «Гутарка старога дзеда», якая зьявілася напярэдадні паўстаньня 1863 году, — усё гэта з нязвычайнай яркасьцю паказвае складаны кірунак думак і ўказвае на шляхі дзейнасьці беларускага грамадзтва XIX ст. На «Гутарцы старога дзеда» спынімся больш падрабязна.

Два выданьні гэтай гутаркі надрукаваны ў друкарні Браніслава Шварца, які з восені 1861 году быў кіраўніком беластоцкай рэвалюцыйнай арганізацыі. У першым выданьні значыцца, што кніга выйшла ў Пазнані ў 1861 годзе, у другім ёсьць подпіс «27 (15) лютага. Парыж» Другое выданьне лепш адрэдагавана і, акрамя ўсяго, уключае яшчэ й верш Сыракомлі «Добрыя весьці». З гэтага выданьня й зроблена копія для «Хрэстаматыі». Пад копіяй подпіс: «Сьпісана ў канцы чэрвеня месяца 1899 году ў Сялігорах у сп. Вінцэнта Мяніцкага з друкаванага ў Парыжы 1862 г. лютага 27 (15) дня экзэмплярыка». Друкаваньне ў Парыжы — гэта, магчыма, і выдумка для таго, каб замесьці сьляды агітацыйнай работы. Відавочна, што брашура друкавалася ў больш блізкіх ад Беларусі месцах, а то і ў самой Беларусі. Прыпіска пад копіяй — яшчэ адно пацьвярджэньне таго, што гутарка была шырока распаўсюджана па ўсёй Беларусі (найбольшая колькасьць экзэмпляраў гутаркі была адабрана паліцыяй на Гродзеншчыне).

Пры ўсёй зразумелай рэвалюцыйнасьці застаецца відавочным, што гутарка — твор з палітычна тэндэнцыйнымі адценьнямі. Тое, што царызм прасьледаваў гэту літаратуру, здаецца зусім зразумелым — царызм жорстка расправіўся наогул з паўстаньнем 1863 г., а гутаркі якраз і несьлі ў сабе многія ідэі гэтага паўстаньня. Змагаючыся з царызмам у саюзе з палякамі, К. Каліноўскі і яго сябры спадзяваліся на свабоднае права разьвіцьця Літвы-Беларусі. Гэта вельмі істотная акалічнасьць. Зьвернем увагу і яшчэ на адну дэталь. Польскія ідэі, заклікі палякаў да беларусаў-літоўцаў і жамойцаў яднацца зь імі займалі значнае месца ў ходзе паўстаньня. Каб прыцягнуць на свой бок сялянскія нізы, сялян стараліся пераканаць рознымі абяцанкамі:

Калі станем з палякамі,
Будзем роўнымі з панамі.
(«Гутарка старога дзеда»)

У паняцьце рэвалюцыйнага ідэалу народаў, ідэалу нацыянальна-вызваленчага руху ўкладваліся зусім неўласьцівыя для селяніна сацыяльныя й нацыянальныя ілюзіі. Ілжэапраўданьне панства (з пункту гледжаньня беларускага сялянства), праслаўленьне мінулага польскай дзяржавы, заклік да клясавага адзінства пры ўсёй крытыцы самадзяржаўя і сялянскай рэформы 1861 г., крытыцы царскай адміністрацыі, існуючага ладу — усё гэта пацьвярджае здагадку некаторых вучоных аб тым, што гутарка была перакладзена з польскай мовы. Ды й здаецца, што ў гэтым выпадку ачарняць царызм спатрэбілася толькі для таго, каб абяліць, узьвялічыць польскае панства. Факты гавораць, што пасьля здушэньня паўстаньня частка магнацтва й панства пайшла на відавочнае супрацоўніцтва з царызмам, каб захаваць усе свае жыцьцёвыя выгады й прывілеі. Вось у такіх абставінах і выкрылася сапраўдная звычайная сутнасьць маёмасных клясаў — здрада агульнанацыянальным інтарэсам у імя сваіх сацыяльных. Слабыя й моцныя бакі «Гутаркі» паказваюць, што твор пісаўся, па-першае, адным чалавекам, а ня быў народным, па-другое, паказвае складаныя шляхі, якімі ішло разьвіцьцё грамадзка-палітычнай думкі ў Беларусі. Гэта не адзінкавы й ня першы прыклад у нашай літаратуры. Ён мае яшчэ й сваю перадгісторыю.

У «Хрэстаматыі» ёсьць верш Сыракомлі «Добрыя весьці». Верш мае мужны, таленавіты пачатак:

Заходзіць сонца пагоднага лета.
Веіць вецер з заходніх нябёс,
Здароў будзь, вецер, з далёкага сьвета!
Добрыя весьці ты да нас прынёс?
Здаровыя-ж будзьце! Эй добрыя весьці!
Там, на Заходзе праліваюць кроў,
Б'юцца для славы, свабоды й чэсьці
І робяць вольных людзей з мужыкоў.
Гудзяць вясёла і песьні, і танцы,
У добрым жніве на шчасьлівы год;
Годзе-ж вам, годзе, царыкі-паганцы,
Таптаць з балотам хрышчоны народ.
Годзе-ж, вам, годзе — у яснай карэце
Годзе, чыноўнікі, езьдзіць у двор!
Годзе-ж вам, годзе, мужыцкія дзеці!
З хаткі астаткі браць на пабор.

Пачатак, як бачым, нясе яўную рэвалюцыйную накіраванасьць. Прыклад Захаду, дзе адбываліся вялікія гістарычныя рэвалюцыі, для перадавой інтэлігенцыі тады забітай і прыгнечанай Расеі быў сімвалам волі. Але далейшае разьвіцьцё аўтарскай думкі не вытрымлівае ніякай гістарычнай крытыкі. Паэт піша:

Мужык і шляхціц засядзе на лаве,
Каб весьці раду а сваёй зямлі,
Як трэба думаць у грамадзкай справе.
На адно мейсца, як браты прыйшлі.



... Ручыць рукою худоба ў хаце;
Паны мужыцкіх сьлёз не забяруць.
Мужык з панамі стаіць за пан-брата
Рука за руку і грудзь за грудзь!..
Пяром на карце, сахой на ніве,
Адзін другому роўнасьць засьцярог...

Чым выклікана грамадзка-палітычная слабасьць добрай задумы верша? Аснова стварэньня яго мела пад сабою такі сэнс: у 1848 годзе ў Галіччыне (Аўстрыя) адбылася рэвалюцыя й было адменена прыгоннае права. На Захад, і ў прыватнасьці на Польшчу, выхадцы зь Беларусі, рамантычныя, а пазьней і рэвалюцыйныя дэмакраты (Каліноўскі й шэраг іншых), ускладвалі немалыя надзеі. Ня так далёкае паўстаньне Касьцюшкі было прыкладам прагрэсу, спробы вызваленьня нацыі.

Рэвалюцыйны ідэал палякаў, якія страцілі сваю дзяржаўнасьць, імпанаваў таксама й сьветапагляду беларуска-польскай інтэлігенцыі (сярод іх паэты Баршчэўскі, Рыпінскі і інш.), якая бачыла свой шлях толькі ў сувязях з Польшчай. Але меўся й другі бок справы. Польскае магнацтва адраджэньне сваёй дзяржавы бачыла й на беларускай тэрыторыі, што ў сваёй аснове для беларусаў магло мець яўна непрагрэсыўны кірунак. Успомнім, што такая зьява, як прымусовая асыміляцыя народаў пайшла ўпершыню ад езуітаў, якія ў свой час праз Польшчу навадніла й Беларусь, дзе выконвалі місію ня так рэлігійную, як палітычную. А папячыцель Віленскай вучэбнай акругі князь Чартарыйскі яшчэ перад паўстаньнем Касьцюшкі даваў указаньні й выводзіў прагнозы паступовай палянізацыі беларусаў. Невядома яшчэ, чым скончыўся-б гэты этап гісторыі нашага народу, калі-б два польскія паўстаньні не пацярпелі паразы. У пазьнейшы час царызм ня змог прыдумаць больш тонкай і гнуткай тактыкі, чым той, якая была вынайдзена езуітамі, і пайшоў па іхняму шляху, але першаадкрывальнікам ганебных старонак гісторыі ўжо ня быў — быў прадаўжальнікам.

Каб прыцягнуць на свой бок сялянскія нізы, і пускаліся ілюзыйныя выдумкі аб тым, што ва ўсіх нягодах народу вінавата толькі царская Расея, а польскае панства на Беларусі тут ні пры чым. У гэтым і памыляўся Сыракомля, які пісаў, што «паны мужыцкіх сьлёз не забяруць». Польскія вярхі, гуляючы напачатку зь беларускім рухам у лібэралізм, пры канчатковым складваньні беларускай нацыі пачалі баяцца гэтага руху, зрэшты, як і царызм баяўся яго. Пазьней, у міжваеннай Польшчы, з 1919 па 1939 год, польскія ўлады добра паказалі свой «дэмакратызм» для беларусаў. Вядома, прагрэсыўныя вучоныя й дзеячы заўсёды прыхільна ставіліся да беларусаў. Ня бяз гонару называем мы сёньня імёны многіх польскіх і расейскіх вучоных, але іхнія адносіны не прадвызначалі дзейнасьці палітыканаў.

З-за гэтых прычын новаму пакаленьню беларускай інтэлігенцыі трэба было мець нямала сіл, каб стварыць для беларускай нацыі свой духоўны сьвет. Патрэбна была ломка старых традыцыяў, якія вучылі, што адны суседзі лепшыя за другіх. Хібы гэтых традыцыяў асабліва яўна былі відаць у вышэйцытаваным вершы Сыракомлі і ў некаторых частках гутаркі.

Як вядома, першынство ў справе ўтварэньня новых шляхоў грамадзка-палітычнай думкі належыць групе «Гоман», а таксама Багушэвічу, які сваімі прадмовамі да зборнікаў і сваімі вершамі сказаў шмат горкай праўды тагачаснаму грамадзтву Беларусі.

Найбольш поўна ў зборніку прадстаўлены сучасьнік Багушэвіча Ф. Тапчэўскі(?),

паэт, творы якога дайшлі да нас зь мінулага стагодзьдзя дзякуючы толькі Эпімаху-Шыпілу й апублікаваныя зь яго «Хрэстаматыі». «Грошы й праца», «Саўсім ня тое, што было», «Ён і яна», «Вечарынка», «Панскае ігрышча» — вершы, розныя па сваіх вартасьцях і зьмесьце, так ці інакш дапаўняюць нашы ўяўленьні аб роднай літаратуры. Галоўнае, яны гавораць аб існаваньні ў ёй паэтаў рознага творчага кірунку. Пра Тапчэўскага пісала наша крытыка, але прыблізна й неакрэслена. Дзеля таго, каб зрабіць дадатковыя вывады, зьвернемся да творчасьці Тапчэўскага, водгуку Багушэвіча аб яго вершы «Панскае ігрышча» й фактаў ідэйнай і нават асабістай блізкасьці гэтых паэтаў.

У вершы «Саўсім ня тое, што было» адбіліся сацыяльныя зьявы 80-ых гадоў XIX ст., выкліканыя правядзеньнем рэформы 1861 г. і разьвіцьцём капіталізму ў Расеі. Гутарка вядзецца ад асобы, якая жыла пры прыгонным праве, але была ня прыгонным селянінам, а «лакеем пры панах». Вельмі маляўніча, з пачуцьцём жалю ўспамінае герой верша аб мінулай раскошы й шыку паноў, калі яны «жылі сабе дый прыпявалі, ня зналі грошы пазычаць». Але мінуў час, адмянілі прыгон, «начальства стала ад казны», «цэны сталі на хлеб ніжэй; скаціна — проста нізашто», і пачалі разбурацца дваранскія гнёзды. З гэтага вершу выразна праступае асоба аўтара — вельмі разумнага чалавека, ня пана (толькі мова вершаў чаго варта), але й не мужыка, чалавека, які бачыць катастрофу блізкай яму клясы, аднак выхад яго з такога становішча разумее ў ашчаднасьці й беражлівасьці:

Не пазычай нігдзе, ніколі,
Парадкам пойдзе ўсё тады.

Разьвіцьцё капіталізму выклікала асаблівае ажыўленьне грашовых звароткаў, што было нязвычным, нават незразумелым на першых часох і ў шляхоцкіх сем'ях. Памылковасьць вываду Тапчэўскага ў вершы «Грошы й праца» аб тым, што грошы ў сучасным яму грамадзтве не патрэбныя, «выдумка пустая», вяла за сабой ідэялізацыю мінулага:

Жылі-ж людзі перад гэтым
І ня зналі срэбра, злата,
Быў люд людам і сьвет сьветам,
Елі хлеб, і была хата.

Але ў той-жа час паэт правільна разумеў і вельмі рэалістычна паказваў становішча селяніна:

Чыім лбом разьбіты муры?
Хто разрыў валы, акопы?
Хто-ж ня драў мужыцкай шкуры?
Гдзе-ж няма хамскай работы?

Верш «Грошы й праца» адзін зь цікавейшых у Тапчэўскага. Гэта як-бы адыход ад сэнтымэнтальнага захапленьня гулямі паноў у вершах «Вечарынка» й «Панскае ігрышча», вершах, якія выклікалі пратэст Багушэвіча й паслужылі пачаткам беларускай літаратурнай спрэчкі ў XIX стагодзьдзі. Багушэвіч пісаў у прадмове да «Смыка беларускага»: «Чытаў я й так перапісаныя вершыкі якогасьці Юркі «Панскае ігрышча», дзе Юрка надта дзівуецца і як-бы завідуе панам тым, каторыя можа й больш ад Юркі таго працуюць, толькі, ведама, вучаныя, дык лягчэй і спарней. Я перапісаў і сюды (г. зн. у зборнік) тое «Ігрышча», няхай выбачае пан



Юрка, але дальбог аж злосьць узяла, што Юрка спадабаў тое, што толькі блазну можа спадабацца. Я такі й чыркнуў яму «Адказ», але так думаю, што гэта ён, сьмяючыся з нашага цёмнага брата, напісаў...»

Як бачым, Багушэвіч вельмі крытычна паставіўся да вершу Тапчэўскага. Гэта былі розныя натуры й паэты розных творчых індывідуальнасьцяў. Багушэвіч — палымяны паэт і ўдзельнік паўстаньня 1863 году, Тапчэўскі — разумны, відаць, таленавіты й адукаваны (аб гэтым гавораць устаўкі на французскай мове ў яго вершах), але з патрыярхальнай абмежаванасьцю пана з мужыкоў. Апошняе, акрамя відавочнасьці гэтага ў творах, пацьвярджае прыпіска Эпімаха- Шыпілы пад вершам «Саўсім ня тое, што было»: «Перапісаў з аўтографа аўтара п. Фэлікса Тапчэўскага (?), які кіруе ва Ухвішчах, маёнтку пані Селявіны, аўтографа, пісанага рускімі літарамі. Атрымаў гэты рукапіс ад Аскеркаў у Леваноўшчыне. Перапісаў у Астрове». Значыць, ведаем, што Тапчэўскі — аканом, які мог вольна наглядаць жыцьцё паноў і пісаць з натуры. Гэта ён і рабіў. Пад вершам «Вечарынка» подпіс — «апісаньне балю, які адбыўся ва Ухвішчы». Вядома, па пяці вершах нельга катэгарычна гаварыць пра Тапчэўскага, але рэаліст Тапчэўскі й рэаліст Багушэвіч мелі пад сабой розную сацыяльную глебу, што не магло не адбіцца на іх творчасьці.

Фігура Тапчэўскага цікавая й самабытная й зусім не патрэбна рабіць з Тапчэўскага й Багушэвіча поўных аднадумцаў, што азначае згладжваньне жывога літаратурнага працэсу ў XIX стагодзьдзі, які быў не такі й роўны. І наша бяда ў тым, што мала было энтузіястаў тыпу Эпімаха-Шыпілы, якія данесьлі-б больш твораў малавядомых паэтаў, ад чаго літаратурны працэс выглядаў-бы яшчэ больш дзейсным.

Тым больш ня трэба рабіць адвольныя вывады, да прыкладу, такія: «Памылкова было-б рабіць з гэтага (з «Прадмовы») катэгарычны вывад, быццам Багушэвіч адмоўна ўспрыняў «Панскае ігрышча» Тапчэўскага. Зусім не. Верш спадабаўся паэту і ён станоўча ацэньваў яго...» *) Хочацца адразу спытацца: дзе станоўча ацэньваў? Ці ня ў той-жа прадмове да зборніка сваіх вершаў? Агульны тон прадмовы якраз гаворыць, што Багушэвіч катэгарычна супрацьпастаўляе сваю паэзію вершам Тапчэўскага. Аб гэтым-жа гаворыць і вершаваны адказ, дзе ў гратэскавых танох апісваюцца гулі паноў. Як-жа трапіў да Багушэвіча верш Тапчэўскага? С. Майхровіч піша: «Апошні зь вядомых нам твораў Фэлікса Тапчэўскага — «Панскае ігрышча» — мае сваю даволі цікавую гісторыю. Размножаны ў рукапісах, гэты верш вельмі хутка стаў папулярным сярод простага вясковага люду дэмакратычнай інтэлігенцыі, і невыпадкова нехта Іван Сіротка, азнаёміўшыся з «Панскім ігрышчам» у мястэчку Крэва Ашмянскага павету, паслаў яго ў рэдакцыю газэты «Виленский вестник», якая й надрукавала верш у № 70 за 1889 год.

Можна ўявіць сабе грамадзкую цікавасьць да «Панскага ігрышча», калі праз пяць год пасьля апублікаваньня ў «Виленском вестнике» Багушэвіч палічыў патрэбным зьмясьціць яго ў папраўленым выглядзе ў сваім «Смыку беларускім».

Сапраўды, верш быў надрукаваны ў «Виленском вестнике». Але ў адрозьненьне ад рэдакцыі гэтага вершу ў «Хрэстаматыі» Эпімаха-Шыпілы, па якой ён публікуецца й сёньня, газэтная рэдакцыя, як зазначае сам складальнік у прыпісцы, «некалькі іншая й горшая, важнейшыя адрозьненьні наступныя: замест чацьвёртай страфы там дзьве, за якімі ідзе яшчэ трэйцяя, а менавіта:

*) С. Майхрович. Жизнь и творчество Ф. Богушевича. Мінск, 1961, стр. 280

Як зайграюць усе разам
Музыканты казачка,
Ажно цёмна стане глазам
І ня помніш языка.
Сэрца б'ецца, як цапамі,
Ногі дрыжаць пад табой
І ў танец ідуць самі.
Ажно станеш сам ня свой.
Тут яшчэ адна скрыпіца,
У абхват яна якраз,
Вот на ёй так бас-басішча,
Як аборына у нас.

Затое перадапошняй страфы «У кругі папросту валюць ест» там няма... Такі выгляд меў гэты верш у «Виленском вестнике».

«Папраўлены» Багушэвічам у «Смыку беларускім» верш «Панскае ігрышча», аб чым гаворыць С. Майхровіч, ёсьць якраз той верш у рэдакцыі «Хрэстаматыі». Дзіўна было-б, калі-б Багушэвіч зьмяняў, папраўляў па-свойму твор другога аўтара й даваў на гэты верш, папраўлены сваёй рукой, адказ. Сам Багушэвіч піша: «Чытаў я і так перапісаныя (а не друкаваныя) вершыкі якогасьці Юркі «Панскае ігрышча». Слова ў слова супадае тэкст вершу Тапчэўскага ў «Смыку» Багушэвіча і ў «Хрэстаматыі» Эпімаха-Шыпілы.

Асаблівую цікавасьць у «Хрэстаматыі» мае верш «Езу Цьвяцінскаму скарга на Даўмантаў», пад тэкстам якога рукой складальніка напісана: «Сьпісана ад пана В. Мяніцкага ў Сялігорах. Верш гэты ёсьць як-бы твор Іяхіма Тамашэвіча. Перапісаў у Астрове 9 жніўня 1890 году». Верш паэты-самавука напісаны, як відаць зь яго зьместу, на канкрэтных фактах той мясцовасьці, зь якой паходзіць аўтар. Езус — у даным выпадку — сьвяты апякун, патрон, які ёсьць у кожнага касьцёла. А імя Цьвяцінскі паходзіць ад назвы мясцовасьці, дзе знаходзіцца касьцёл (Цьвеціна).

Аўтар зьвяртаецца са скаргай на Даўмантаў — паноў той-жа мясцовасьці:

Божа, Цьвецінскі Езу,
Можа я не ў сваё лезу,
Што я сьмею спытаць Цябе,
За што Ты крыўдзіш Сам Сябе?
Даўманты-ж Цябе абакралі,
З шалуднёў панамі сталі.

Далей у вершы траціцца тон скаргі й рэзка асуджаецца хцівасьць і жорсткасьць паноў.

Звычайна ў кожным касьцёле стаяла фігура патрона, ля якой набожныя складалі ахвяры. Верш гэты напісаны, відаць, з той прычыны, што паны Даўманты кралі, рабавалі тое, што прыносіў працоўны люд касьцёлу:

Гдзе-ж тыя воўны, кудзелі,
Што клалі кожнай нядзелі?
Гдзе залатоўкі, грашкі?
Гдзе палотны, рукаўкі?



Аўтар бачыць, куды дзелася нарабаванае дабро, ён асуджае жыцьцё паноў, называе нават іхнія імёны, не ўтрымліваецца, каб ізноў не прыпомніць іхнія грахі...

У гэтым вершы няма адмаўленьня рэлігіі. Аўтар убачыў толькі канкрэтны выпадак несправядлівасьці, што нарадзіла ў яго даволі неблагія паэтычныя радкі, але ўжо заключэньне вершу сьведчыць аб узрастаньні сьвядомасьці простага чалавека зь сялянскай стыхіі, працэсу шуканьня прычыны тых ці іншых зьяў. Адгэтуль ужо недалёка да распазнаньня сутнасьці ахвярапрынашэньня наогул.

Верш гэты цікавы ня толькі як факт літаратуры. Ён яшчэ раз паказвае, што вострым словам у розных кутках Беларусі народ даказваў сваім прыгнятальнікам, што самасьвядомасьць яго разьвівалася.

Асаблівая заслуга Эпімаха-Шыпілы ў прадстаўленьні паэтаў Віцебшчыны — Ф. Тапчэўскага і І. Тамашэвіча.

«Хрэстаматыя» сьведчыць, што Эпімах-Шыпіла добра ведаў беларускую мову, яе дыялектныя асаблівасьці. Пад вершам «Сьцяпан і Тацяна» Шункевіча зроблена прыпіска: «Дыялект пераважна Менскага павету, у якім ня ўжываюцца такія словы, як «маўляў» і 3 асоба адзіночнага ліку цяперашняга часу ў большасьці канчаецца не на **-ць**, а на **-е.**

Заключаецца дарэвалюцыйная частка зборніка наклеенымі на старонкі лістоўкамі з рэвалюцыйнымі вершамі Цёткі «Мора» й «Хрэст на свабоду», выдадзенымі Беларускай Сацыялістычнай Грамадой у 1906 годзе.

«Беларуская хрэстаматыя» Эпімаха-Шыпілы — рукапісны дакумант, які засьведчыў няўхільнае разьвіцьцё беларускай літаратуры, самога літаратурнага працэсу, ад першай чвэрці XIX стагодзьдзя ажно да пачатку XX стагодзьдзя; яна ўключае як віднейшых прадстаўнікоў літаратуры, так і паэтаў-самавукаў; сам рукапісны спосаб складаньня хрэстаматыі гаворыць аб перашкодах, якія стаялі на шляху разьвіцьця літаратуры. І апошняе. Яна паказвае вялікую дасьведчанасьць, настойлівую цярплівасьць і глыбокую зацікаўленасьць у справе правядзеньня ў жыцьцё лепшых ідэяў беларускіх пісьменьнікаў самога складальніка «Хрэстаматыі», які пакінуў нам гэты цікавейшы дакумант.

Падагульняючы цэлы этап разьвіцьця беларускага літаратурна-грамадзкага руху ў Пецярбурзе, трэба сказаць, што «Гоман» зь яго асуджэньнем царызму, зь ідэямі фэдэратыўнасьці Беларусі ў складзе Расеі, рэвалюцыйны дэмакратызм А. Гурыновіча, пачатак культурна-асьветніцкай дзейнасьці Б. Эпімаха-Шыпілы — гэта тры састаўныя часткі станаўленьня й разьвіцьця беларускага літаратурна-грамадзкага руху ў Пецярбурзе ў канцы XIX стагодзьдзя. Гэтыя зьявы адлюстравалі зьяўленьне новага пакаленьня беларускай інтэлігенцыі, інтэлігенцыі пэрыяду канчатковага фармаваньня беларускай нацыі. Беларуская інтэлігенцыя пачала ад нарадавольства й прыйшла да рэвалюцыйнага дэмакратызму, уключыўшы ў сваю дзейнасьць культурна-асьветніцкую працу.



Міхась Белямук (ЗША)

## ПАНЁМАНСКАЯ ЗАГАДКА

(працяг)

Навагрудак мае наступныя архэалягічныя пляцоўкі: Замкавую гару (дзядзінец), Малы замак (вакольны горад) і на ўзгорку царкву Барыса й Глеба.

Пабудова Барысаглебскае царквы была пачатая ў 1517 годзе, а закончаная ў 1519 г. (**1**, б. 351) Яна пабудаваная ў стылю беларускае готыкі. У такім-жа стылю маем Міхайлаўскую царкву ў Сынкавічах, Дабравешчанскую ў Супрасьлі й царкву ў Мала-Мажэйках. (**2**, б. 242) Паколькі Дабравешчанская царква 23-га ліпеня 1944 году была ўзарваная, дык цяпер засталося тры гатыцкія царквы з XVI стагодзьдзя. Навагрудзкая Барысаглебская царква ёсьць унікальным помнікам беларускага дойлідства. Унікальнасьць яе ня ў тым, што яна з XVI стагодзьдзя й пабудаваная ў стылю беларускае готыкі, але каштоўнасьць яе ў тым, што стаіць яна на фасадзе XII стагодзьдзя.

Барысаглебская царква XVI стагодзьдзя была ў аснове квадратовай з далёка высунутай пяці-кутнай магутнай абсыдай. Была яна «зальнага» тыпу, г. зн., што цэнтральны й два бакавыя нэфы мелі аднолькавую вышыню. Сьпічастыя вокны з каляровымі шкелцамі былі аздобаю сьценаў і кідалі вясёлкавыя прамені на іконы, на зорчатыя прафіляваныя нэрвюры, што падтрымоўвалі й упрыгожвалі скляпеньні. Нэрвюры пучкамі зыходзіліся да чатырох слупоў, а з супрацьлеглага боку апіраліся на кранштэйны, узмоцненыя звонку шасьціграннымі контрафорсамі. Дах царквы быў высока ўзьняты з востра закончанымі шчытамі. Фасад аздоблены трыма паясамі стральчатых арачак, каб праз матыў арачак стварыць ілюзію ажурнасьці й урачыстасьці сьценаў сьвятыні. (**1**, б. 351; **3**, б. 63-65; **4**, б. 35)

Вуніяты пачалі перабудову Барысаглебскае царквы ў 1632 годзе. Заходнюю сьцяну цалкам разабралі, каб зрабіць вялікі нартэкс, а з квадратовае царквы перарабіць у выцягнуты прастакутнік з шасьцю пілонамі. Партал зфлянкавалі двума прастакутнымі масыўнымі вежамі, якія на ўзроўні даху пераходзілі ў васьмікутнікі. Вежы, заміж вакон, атрымалі байніцы. (**1**, б. 351; **3**, б. 63-65)

Праваслаўныя ізноў сталі ўласьнікамі Барысаглебскае царквы ў XIX стагодзьдзі. Але царкоўныя ярархі чужога паходжаньня загадалі навагрудчанам правесьці рамонт, каб надаць царкве іншы архітэктурны выгляд. У 1875 годзе «церковь вновь была реконструирована, причем фасад ее обработан в «ложнорусском духе». (**4**, б. 35-36)

Пасьля 2-ой Сусьветнай вайны Панёманьнем зацікавілася архэоляг Фрыда Гурэвіч Асабліва зацікавіў яе Навагрудак. У 1956 годзе яна правяла пробныя раскопы на Малым замку. Яна кожны год пачала прыяжджаць у Навагрудак з групай архэолягаў, пераважна жанчынаў, каб дастаць зь зямлі каштоўнасьці й сьведчаньні забытых стагодзьдзяў. Калі яны выкапалі рэчы бізантыйскай, сырыйскай і іранскай вытворчасьці, дык навукоўцы глянулі іншымі вачыма на Навагрудак. У іх узьнікла пытаньне, ці Барысаглебская царква з XVI стагодзьдзя?

У 1961 годзе ў Навагрудак прыехаў выдатнейшы знаўца царкоўнай архітэктуры, акадэмік Міхал Каргэр. Раскопы пачаліся каля паўночнай і паўдзённай сьценаў. Якое захапленьне выклікала калі ўкапаўшыся на пара мэтраў у зямлю заўважылі, што сьцяна з XVI стагодзьдзя стаіць на больш старадаўняй будоўлі. Такія канструкцыі вельмі рэдка сустракаюцца. Спрактыкаванае вока М. Каргэра адразу ацаніла, што старадаўняя будоўля паходзіць з XII стагодзьдзя. (**5**, б. 80)



Старажытныя сьцены ня былі на аднолькавай гарызанталі, значыць, да пабудовы царквы XVI стагодзьдзя ад старажытнай будоўлі засталіся толькі руіны. У пачатку XVI стагодзьдзя руіны ачысьцілі, і тое, што зьберaглося, паслужыла падмуркам для Барысаглебскае царквы.

Старажытныя сьцены былі складзены з вапняковых гладка абчэсаных камняў з прапластаваньнем плінфы, што «блізка паўтарае кладку сьценаў царквы Дабравешчаньня ў Віцебску». (**5**, б. 81) Пошукі абсыдаў на ўсходняй сьцяне расчаравалі дасьледчыка. Таму паўстала прыпушчэньне, — яны апынуліся ўнутры, пад велічнай абсыдай з XVI стагодзьдзя. Такім чынам, для далейшага дасьледаваньня сьвятыні трэба было пачаць раскопы ў сярэдзіне, пад падлогай Барысаглебскае царквы, а такіх мажлівасьцяў экспэдыцыя М. Каргэра ня мела. (**5**, б. 80; **6**, б. 166-167)

Здавалася, што пасьля двухгадовых дасьледаваньняў Барысаглебскае царквы акадэмікам М. Каргэрам, рэспубліканскія й абласныя ўлады возьмуць унікальны помнік пад ахову. Сталася адваротнае. Дасьледчыкі беларускіх старажытнасьцяў даведаліся, што царква будзе пераабсталяваная, каб зрабіць яе кнігасховішчам. Мясцовыя ўлады ня бралі на ўвагу аргумэнтацыю беларускіх архэолягаў, таму зьвярнуліся да М. Каргэра.

«Поздней осенью 1964 года нам стало известно, что начались работы по оборудованию здания церкви под архивное хранилище. По нашему ходатайству Государственный Комитет Строительства при Совете Министров Белорусской ССР задержал работы до лета 1965 года, предоставив нам возможность произвести археологические раскопки внутри здания. К сожалению, это решение состоялось тогда, когда западная часть оказалась уже закрытой мощным бетонированным полом». (**6**, б. 167)

Усім добра ведама, што архэалягічныя раскопы робяцца ня зімой, а летам. Міністэрства Беларускае ССР паставіла перад акадэмікам М. Каргэрам іншую вымогу — архэалягічныя досьледы маюць быць закончаныя да летняга сэзону. М. Каргэр прыехаў і гэтым пасьведчыў, што навуковец ведае вартасьць старасьветчыны, ведае, што нам яна дарагая дзеля рэканструкцыі гістарычнага мінулага нашага народу. Бюракрат ніякае пашаны й літасьці ня мае.

Раскопы пад падлогай Барысаглебскае царквы выявілі наяўнасьць алтарных абсыдаў на ўсходняй сьцяне, таму зьнікнуў сумнеў. Канструкцыя бязсумнеўна царкоўная, праваслаўная й, праўдападобна, называлася царквой Барыса й Глеба. Імя магло захавацца ў памяці людзей. Таму, будуючы новую царкву, стараліся паставіць яе на старадаўнім пасадзе й высьвяціць у імя Барыса й Глеба. (**5**,, б. 81)

Царква была квадратовая. Чатыры слупы крыжападобнай формы акрэсьлівалі падкупальны квадрат і адначасна вызначалі тры нэфы, якія дзялілі ўсходнюю сьцяну на тры выпуклыя абсыды. Пасьля пабудовы царквы, да яе дабудавалі з трох бакоў галярэі. На сьценах галярэяў стаяць сьцены (паўночная й паўдзённая) царквы з XVI стагодзьдзя. У сьценах галярэяў «заўважаны аркасольныя нішы ў выглядзе скрынак». (**7**, б. 101) М. Каргэр пабудову царквы датуе сярэдзінай XII-га стагодзьдзя, а дабудоўку галярэяў — 2-ой паловай XII стагодзьдзя. (**5**, б. 81)

Сьцены старажытнае царквы (не галярэяў) зробленыя тэхнікай схаванага раду.

Паводле М. Каргэра, на Русі ў XII стагодзьдзі разьвіўся новы тып тэхнічнай кладкі сьценаў, яго называюць «роўнаслойным». Полацкія дойліды карыстаюцца «ўтопленым» або «схаваным» радам. Схаваны рад быў «основной для полоцкой земли и характеризует все (без исключения) дошедшие до нас памятники Полоцка XII в.» (**46**, б. 81) Такім чынам няма ніякіх сумніваў, што пабудова старажытнае царквы Барыса й Глеба была «выполнена полоцким зодчим». (**5**, б. 81)

Сьцены галярэяў зробленыя іншай тэхнікай. Яны складзены з абчэсаных і добра дапасаваных вапнякоў, якія твораць пласт, а наступны пласт вылажаны з плінфы (цэглы). Часамі маецца два й нават тры пласты плінфы, а адзін пласт вапнякоў. Дасьледчык беларускага царкоўнага будаўніцтва Мікола Шчакаціхін спасьцярог, што такі спосаб кладкі зьявіўся на Полаччыне ў XII стагодзьдзі й клясычным прыкладам яго была Дабравешчанская царква ў Віцебску. М. Шчакаціхін пісаў: «кладка гэтая зьяўляецца блізка падобнай да бізантыцкіх узораў». (**2**, б. 114) М. Каргэр прыйшоў да выснаву, што сьцены галярэяў старажытнае наваградзкае Барысаглебскае царквы паўтараюць кладку сьценаў Дабравешчанскае царквы ў Віцебску й, зусім праўдападобна, што тэхніка кладкі прынесена з «византийской провинциальной архитектуры». (**5**, б. 83)

Апошнімі гадамі, дасьледчыкі прыйшлі да выснаваў адносна чаргуючай або мяшанай кладкі (пабудаваныя: царква Дабравешчаньня ў Віцебску й галярэі старажытнай Барысаглебскай царквы ў Наваградку), што яна «бытовала в провинциальном византийском строительстве XII-XIII вв. П. А. Раппопорт считает, что церковь (Дабравешчаньня — М. Б.) возвели византийские мастера, привезенные полоцким князем в середине XII в.» (**8**, б. 115)

У цэнтральным і паўночным нэфах дакапаліся да падлогі. Яна высланая маёлікавымі пліткамі даволі добрай захаванасьці. У цэнтральным нэфе выкладзены ўзорчаты круг рознакаляровымі пліткамі. (**7**, б. 101)

М. Каргэр расшукаў і сабраў даволі вялікую колькасьць «фресковой штукатурки XIIв. с достаточно большим числом удовлетворительно сохранившихся граффити, судя по палеографическим особенностям, несомненно, относящихся к XII в.» (**5**, б. 81)

— * —

У Наваградку, на Замкавай гары, стаяць руіны вежаў. Яны, магутныя, прысыпаныя пяском, абледзянелыя ўзімку, увесну парослыя травой, панура стаяць у задуме, як сьведкі стагодзьдзяў. Іхныя сьцены ў падмурку да 3-ох мэтраў таўшчынёй вытрымоўвалі аблогі-штурмы. Зь пяціярусных байніц лілі на ворага ваду, смалу, кідалі каменьне, дзіды, стрэлы...

На наваградзкі замак палкі вадзілі валынскія й галіцкія князі, хацелі приступам узяць яго, але дарма. Татарскія ханы прыходзілі зь цюмэнамі, але грознага замку ўзяць не маглі. Крыжацкія магістры, уварваўшыся ў Панёманьне з харугвамі нямецкага й заходня-эўрапэйскага рыцарства, таўклі жалезнымі таранамі сьцены наваградзкага замку. Аднак харобрыя наваградзкія мужы нікога, хто быў зь мячом, не ўпусьцілі на замкавы дзядзінец.

Гады плылі, прыходзілі й адыходзілі князі. Мяняліся абычаі й звычаі ў народзе. Памалу аджывалі рыцарскія традыцыі. Занікала харобрасьць і ваяўнічасьць панёманскай зямлі. На наваградзкім замку зьявіліся абаронцамі наёмныя ваякі, прафэсыйныя воі, але пазбаўленыя ваяўнічага запалу, мужнасьці й гонару. Калі маскоўскія палкі князя А. Хаванскага прыблізіліся, наёмнікі караля Яна Казімера здалі



замак яму бяз бою ў 1660 годзе.

Князь А. Хаванскі прадчуваў, што гнеў кіпіць у наваградчанаў і грымне кліч — не панаваць яму! Ён даў загад. Закалыхалася Замкавая гара. Клубы серкавага дыму-пылу бухалі ўгару. Праслы сьценаў замку каціліся з гары. Лопалі галовы вежаў. Няпрыступны, грозны замак ляжаў у руінах.

Гады плылі, князі зыйшлі з арэны, песьняў рыцарскіх сьпяваць забаранілі гусьляром. Замірала ўсё вакол, здань затрывожыла ўсіх. Сем сьведкаў-вежаў (Шчытоўка, Касьцельная, Пасадзкая, Калодзежная, Дазорчая, Меская й Малая брама) дужаліся з чужацкаю няволяй. Яны, як доля нашага народу, былі прымушаны згорбіцца, прыхавацца ў зямлю. Яны натужвалі сілы, каб устаяць перад навалаю, не сканаць, а ну-ж зьявіцца гусьляр. І вось прыйшоў да іх, ня сівенькі гусьляр, але дзяцюк, каб адшукаць мінулыя, забытыя стагодзьдзі.

— * —

Ад 1959 году пачаліся раскопы на Замкавай гары. Плошча Замкавай гары — прыблізна 8000 м². Археолягі раскапалі да 1980 году каля 1000 м². Раскопы паказалі, што Замкавая гара пачала засяляцца на сутыку X-XI стагодзьдзяў. Яна засялялася дрыгавіцкімі пасяленцамі. Паселішча ня было ўмацаваным, хоць закладзенае на тэрыторыі чужой этнічнай групы. З хвілінаю, калі князі Русі пачалі рабіць паходы на Яцьвягаў і Літву, Замкавую гару ўмацоўваюць валам. Яна стаецца дзядзінцам у палове XI стагодзьдзя. (**9**, б. 99; **10**, б. 90, 92,94)

Аднак, каб даць прытулак на дзядзінцу ў часе небясьпекі, вал раскапалі, пабольшылі дзядзінец. Вал новы насыпалі на краю гары, і ён зрабіўся вышэйшым, больш стромкім. Узмоцнілі яго каменьнем і глінаю. У першай палове XII стагодзьдзя на храбце вала паставілі высокі падвойны частакол. (**9**, б. 99; **11**, б. 312)

У XIII стагодзьдзі вакол Замкавай гары выкапалі роў дзесяцімэтровай глыбіні. Насыпалі дадатковы вал у падножжа гары, які пасьля стольkіх стагодзьдзяў узвышаецца яшчэ й цяпер на 7.5 мэтраў. Вал на Замкавай гары таксама ўзмацнілі: замест частаколу, пабудавалі дубовую падвойную высокую сьцяну-зруб. Яна называлася горадня. (**9**, б. 93, 99; **12**, б. 15)

У пачатку 2-ой паловы XIII стагодзьдзя на паўночным баку вала пабудавалі мураваную вежу. Вежа мела форму квадрата 12×12 мэтраў і таўшчыню сьцяны ў 3 мэтры. Вежа была складзена зь вялікіх часаных дапасаваных каменьняў, якія залілі вапнаю. Байніцы абліцавалі цэглай. (**9**, б. 93; **12**, б. 15; **13**, б. 44)

За панаваньня Гэдыміна вежу перабудавалі. Каменныя сьцены паслужылі падмуркам для новае цаглянае вежы — Шчытоўкі. Шчытоўка была пяціпавярховая, нагадвала чатырохгранную прызму вышынёю 25 мэтраў. У вежы зрабілі праезджую браму. Таму яна сталася вежай-данджон. Такая пабудова вежаў была пашырана ў Заходняй Эўропе. (**12**, б.15-16; **13**, б. 45-46; **14**, б. 122)

Наступнікі Гэдыміна працягвалі ўмацаваньне Замкавай гары. У палове XV стагодзьдзя Замкавая гара была ўжо ўзмоцнена вежамі: Касьцельнай, Пасадзкай, Калодзежнай, Меской і Малой брамай. Вежы злучалі мураванымі цаглянымі праслаамі-сьценамі вышынёй у 8 мэтраў, а таўшчынёй у 3 мэтры. Вышыня вежаў была ня меней 15 мэтраў. Пяціпавярховую магутную вежу Дазорчую пабудавалі на сутыку XV-XVI стагодзьдзяў. (**12**, б. 17-21: **13**, б. 46-51)

Дасьледчык наваградзкага замку, Міхась Ткачоў, так кажа:

«Наваградак з'яўляецца ўнікальным помнікам абароннага дойлідства эпохі ся-

рэдневякоўя. Вывучэнне яго ўмацаванняў паказала, што гэта свайго роду жывы летапіс беларускай ваеннай архітэктуры». (**13**, б. 44)

Археолягі выявілі ня толькі манумэнтальнае будаўніцтва абароннага тыпу, але адкапалі дзьве будоўлі рознага прызначэньня з пачатку XIV стагодзьдзя. Адна была культавым будынкам — царква, а другая сьвецкім — княжы церам. (**15**, б. 83,88)

Церам быў двухпавярховы з цагляным слупом у цэнтры. Слуп гэты дзяліў кожны паверх на тры пакоі (два квадратовыя й адзін прастакутны). Скляпеньні пакояў падтрымоўваліся чатырма скрыжаванымі нэрвюрамі. Церам ёсьць «адзіным манумэнтальным сьвецкім будынкам разгляданага часу... Беспасярэдніх аналёгіяў знойдзенай у Наваградку будоўлі да гэтага часу пакуль-што няма». (**14**, б. 124)

Няма падобнага цераму ня толькі на Русі, але «мы не находим близких аналогий новогрудской постройке и среди сооружений светского характера в Западной Европе, хотя именно отсюда, несомненно, происходит одностолпная конструкция с крестовыми сводами». (**14**, б. 125)

З пашырэньнем хрысьціянства ў Усходняй Эўропе, асабліва пасьля падзелу Царквы ў 1054 годзе на Усходнюю й Заходнюю, абавязкам стала для ўсходняэўрапэйскіх праваслаўных ярархаў, князёў, баяраў і мяшчан будаваць цэрквы з абсыдай-алтаром на ўсходняй сьцяне. Археолягі, знайшоўшы пры раскопах руіны сьценаў, стараліся адшукаць абсыду. Выяўленая абсыда на ўсходняй сьцяне азначала, што раскапалі праваслаўную царкву.

У Наваградку, на дзядзінцу, раскапалі руіны раней не вядомай царквы, пабудаванай у пачатку XIV стагодзьдзя. (**15**, б. 83) Царква была амаль квадратовая памерамі, але крыжападобнай у пляне, з абсыдай на ўсходняй сьцяне. Яна першапачатна ня мела слупоў. На заходняй сьцяне мела адчынены прытвор-нартэкс, што было характэрным для царкоўнага будаўніцтва XII і пачатку XIII стагодзьдзяў. У палове XIV стагодзьдзя ў царкве адбыўся рамонт. Тады пабудавалі чатыры слупы. Гэта азначала-б, што царква атрымала купал. (**14**, б. 123)

Замілаваньне дэкараваць вонкавыя сьцены царквы не памірала ў Панёманьні. Яно адлюстроўваецца і ў наваградзкай царкве на дзядзінцу. У заломах сьценаў закладзены каляровыя вапняковыя блёкі. Такое «спалучэньне зелянаватага туфа з чырвонай цэглай стварала вялікі маляўнічы эфэкт». (**14**, б. 123)

У руінах знойдзены фрагмэнты фігурных карнізаў і адломкі фігурнае цэглы. Усё гэта вымоўна сьведчыць аб наяўнасьці скляпеньняў на нэрвюрах і другіх дэкаратыўных дэталях». (**14**, б. 123; **16**, б. 391-392)

Вывучэньне царквы на дзядзінцу з пачатку XIV стагодзьдзя паказвае, што «ярко выраженная ступенчато-повышающаяся композиция масс сближает новогрудскую церковь с некоторыми смоленскими и полоцкими храмами XII в.» (**14**, б. 123)

Выяўленьне царквы на дзядзінцу, у якой адлюстроўваюцца характэрныя рысы царкоўнага будаўніцтва XII і пачаткаў XIII стагодзьдзяў і дасягненьні раманскагатычнай архітэктуры, павялічвае ейную каштоўнасьць, бо запаўняе лакуну, якая існавала ў гісторыі беларускай царкоўнай архітэктуры.

Мы пазнаёміліся з манумэнтальным будаўніцтвам на Замкавай гары. Абаронныя ўмацаваньні й княжы церам даюць мажлівасьці прыпушчаць, што наваградзкі дзядзінец мог быць княжай рэзыдэнцыяй. Калі Барысаглебская царква была пабудавана наваградзкімі мяшчанамі, то царква на дзядзінцу — князем. Значыць, на дзядзінцу маем княжую царкву.



У першай палове XIV стагодзьдзя панавалі ў Вялікім Княстве Літоўскім Віцень і Гэдымін. Выглядае, што адзін зь іх у сваёй княжай рэзыдэнцыі будаваў сабе княжую царкву. У летапісах і кроніках Віцень і Гэдымін запісаныя як паганскія князі. З гэтага паўстае запытаньне, ці шчырымі былі летапісцы й краністы?

Можна прыпушчаць, што летапісцы й краністы адлюстроўвалі ў сваіх творах палітычныя інтарэсы ўладароў, якія іх утрымлівалі. Безумоўна, у інтарэсе валынскагаліцкіх князёў, польскіх каралёў, тэўтона-лівонскіх рыцараў і іншых уладароў карысным было літоўскіх князёў прадстаўляць сьвету, як паганскіх князёў.

Выяўленьне праваслаўных цэркваў у літоўскіх княжых рэзыдэнцыях прымушае задумацца й насьцярожыцца што да аб'ектыўнасьці пісьмовых крыніцаў. Таксама змушае зь недаверам паставіцца да суб'ектыўных канцэпцыяў, якія прапагуюць паганства князёў Вялікага Княства Літоўскага.

Археолягі пакульшто не расшукалі княжыя харомы з XII-XIII стагодзьдзяў і сумніўна, ці знойдуць. Княжыя харомы маглі быць пашкоджаныя нападамі валынска-галіцкіх князёў на Наваградак у 2-ой палове XIII стагодзьдзя. Калі харомы ня былі пашкоджаныя, то, здаецца, яны перасталі адпавядаць вымогам XIV-XV стагодзьдзяў. Таму, замест перабудовы драўляных харомаў, князі пачалі будаўніцтва цагляных пышных харомаў, прыкладам, княжы церам. Калі мураваныя харомы пабудавалі ў тэй самай частцы дзядзінца, дзе стаялі раней драўляныя харомы, то, праўдападобна, што культурныя пласты XII-XIII стагодзьдзяў зьнішчаныя манумэнтальным будаўніцтвам у наступных стагодзьдзях.

Баярскія хаты (XII-XIII ст.ст.) таксама ня ёсьць раскапаныя. Археолягі спадзяюцца іх знайсьці ў заходняй частцы дзядзінца. Аднак, калі баярскіх хатаў ня знойдуць і высьветліцца, што культурны пласт баярскіх хатаў таксама зьнішчаны будоўлямі пазьнейшага пэрыяду, мы будзем мець вялікую страту й загадку аб культурным узроўні баяраў дзядзінца.

Археолягі раскапалі кладоўкі, клеці, сьвірны й хаты ювэліра, рамесьнікаў і чэлядзі. Рэчы, знойдзеныя на раскопанай плошчы, выклікаюць зьдзіўленьне. Мімаволі ўзьнікае пытаньне, а якія-ж каштоўнасьці маглі быць у княжых харомах і баярскіх хатах?

Археалягічныя раскопы выявілі, што рамесьнікі выраблялі ня толькі рэчы хатняга, гаспадарчага й прамысловага ўжытку, але рабілі наканечнікі стрэлаў, дзідаў і нават панцыры для наваградзкіх вояў. У 1971 годзе археолягі знайшлі 70 пласьцін, а ў 1973 годзе дадаткова адшукалі каля 200 пласьцін. Яны былі прызначаныя для двух панцыраў. (**17**, б. 30; **18**, б. 371)

На раскапанай плошчы дзядзінца знайшлі 140 адломкаў посуду, зробленага зь белае й каляровае гліны. Посуд быў пакрыты пераважна зялёнай палівай, але маецца паліва іншых колераў: рудога, жоўтага й цёмначырвонага. Адломкі рэпрэзэнтуюць каля 60 адзінак начыньня: гаршкі, гладышы, збаны, збаночкі, кубкі, міскі й талеркі.

Посуд дзядзінца даследавала Ф. Гурэвіч. Яна прыйшла да высснаву, што посуд зь белае гліны й пакрыты зялёнай палівай быў прывезены зь Кіева. Посуд з каляровае гліны й пакрыты палівай, паколькі ёсьць высокае якасьці, выраблялі кіеўскія ганчары, якія пасяліліся на дзядзінцу: яны былі «спэцыялістымі па вырабу параднага посуду для княжай сям'і й яе акружэньня». (**19**, б. 105)

М. Малеўская дасьледавала посуд вакольнага гораду. Яе аргумэнты: « к специфическим особенностям новогрудской поливной керамики относятся следующие:

1) применение двух сортов глин, что в XII-XIII вв. встречается довольно редко; 2) высокий процент красночерепковой керамики вместо широко распространенной серой, что говорит об особых условиях обжига; 3) большое количество изделий с коричневой поливой, которая в большей части городов в посуде совсем не применялась; 4) своеобразный ассортимент посуды и наличие форм, не имеющих себе аналогий. Все это неоспоримо свидетельствует об изготовлении поливной керамики обеих групп в самом Новогрудке и позволяет предположить существование двух различных мастерских». (**20**, б. 201)

Т. Макарова дасьледавала паліўны посуд Русі. Паводле яе посуд зь зялёнай палівай выраблялі ў Бізантыі й прывозілі ў Корсунь, Тмутаракань і Саркель. У канцы X-га і ў пачатку XI стагодзьдзя пачынаюць вырабляць паліўны посуд у Кіяве. Пэтраграфічныя й спэктральныя аналізы высьветлілі, што кіеўская паліва зялёнага колеру амаль не адрозьніваецца ад бізантыйскай зялёнай палівы. «Своеобразие русской поливы составляет только ее непрозрачность, что обусловливается повышенным содержанием окиси олова; византийская полива всегда прозрачна». (**21**, б. 249)

У вакольным горадзе посуд, пакрыты зялёнай палівай, складае 58%. «Полива большей частью прозрачная, но встречается полупрозрачная и глухая». (**20**, б. 195)

На дзядзінцу паліўны посуд зялёнага колеру даходзіць да 91%. Дасьледчыца Ф. Гурэвіч ня кажа, ці паліва празрыстая, ці глухая (непразрыстая). Яна назвала талерку з празрыстай зялёнай палівай, паколькі падобную талерку знайшлі ў вакольным горадзе й М. Малеўская яе дасьледавала. Можна здагадвацца, што на дзядзінцу апрача адломкаў талеркі з празрыстай палівай, было болей падобных адломкаў — прыдонных частак начыньня ад талеркаў або міскаў... Колер палівы вельмі падобны да палівы талеркі, пакрытай празрыстай зялёнай палівай. (**19**, б.102) Апрача посуду зь зялёнай палівай, Ф. Гурэвіч кажа, што маецца адломак сьценкі начыньня зь ярка-жоўтай празрыстай палівай. (**19**, б. 103)

У сувязі з зацемкай Ф. Гурэвіч, што талерка дзядзінца з празрыстай зялёнай палівай падобная да талеркі з вакольнага горада — пазнаёмімся з гэтай знаходкай.

М. Малеўская кажа, што яна з адломкаў склала ня толькі талерку, але й міску. Аказалася, што талерка й міска ёсьць «імітацыяй бізантыйскага начыньня». Такое «подражание византийским формам, в частности открытым блюдам, имеет место на Руси лишь в первый период развития поливного дола только в Киеве и позже нигде не встречалось». (**20**, б. 196) Талерка вакольнага гораду пакрыта глухой зялёнай палівай. Міска звонку мае сіня-зялёную паліву, а ў сярэдзіне — вішнёвага колеру. У такімжа стылю, што й міска, ёсьць паддон, пакрыты глухой жоўта-зялёнай палівай. Посуд датуеццасярэдзінай і другой паловай XII стагодзьдзя. (**20**, б. 196, 198)

Супастаўляючы выказваньні дасьледчыкаў паліўнога посуду, можна зрабіць высnаў, што на дзядзінцу ў XII стагодзьдзі быў посуд, прывезены зь Бізантыі. Талерка, знойдзеная на дзядзінцу, і талерка з вакольнага гораду розьняцца паміж сабой ня формай, а палівай. Таму талерку зь дзядзінца нельга разглядаць як імітацыю бізантыйскіх талерак, бо паліва ейная ёсьць празрыста зялёнай. Яе можна ўважаць за імпарт зь Бізантыі. Затое талерка з вакольнага гораду сьведчыць аб іншым. Форма яе бізантыйская, але глухая зялёная паліва прамаўляе за мясцовую вытворчасьць. Выглядае, што ганчары вакольнага гораду былі здольныя рабіць рэпрадукцыю бізантыйскага начыньня. Імітацыя пачынаецца прыблізна каля сярэдзіны XII стагодзьдзя. Імітацыя бізантыйскага начыньня ў Кіяве спыняецца ў сярэдзіне XI стагодзьдзя. (**21**, б. 250)



На аснове вышэйсказанага можна меркаваць: калі ганчары вакольнага гораду валодалі тэхнікай рэпрадукцыі бізантыйскага посуду, наваградзкаму князю ня было патрэбы запрашаць кіеўскіх ганчароў на дзядзінец для вырабу параднага княжага посуду.

Ювэлірная майстэрня, знойдзеная на дзядзінцу, датуецца сярэдзінай XII стагодзьдзя. (**22**, б. 23) У майстэрні знайшлі ня толькі інструмэнты ювэліра, але формачкі для адліваньня й матрыцы для адціскаьня аздобаў. Восем бронзавых і мядзяных матрыцаў выкарыстоўваліся для адціскаьня аздобаў пераважна з шляхотных мэталяў. Некаторыя аздобы пашчасьціла знайсьці на дзядзінцу й на могільніку. Былі знойдзеныя: залатая пацерка; 13-ць сярэбраных бляшак, арнамэнтаваных несапраўднай зерняй і пакрытых золатам; сярэбраная падвеска ў выглядзе лілеі; сярэбраныя круглыя й квадратовыя падвескі, арнамэнтаваныя гравіроўкай; сярэбранае скранёвае колца зь сярэбранымі нанізанымі зярністымі пацеркамі; бронзавая пражка пояса зь сярэбранай інкрустацыяй. (**9**, б. 95; **17**, б.29, 30; **18**, б. 371; **22**, б. 23, 24; **23**, б. 312; **24**, б. 97; **25**, б. 30)

Частка ювэлірных вырабаў была імітацыяй кіеўскіх аздобаў. Імітацыя ювэлірамі дзядзінца была на такім узроўні, што наваградзкія знаходкі «невозможно отличить от киевских находок». (**10**, б. 97) «Это привело нас, — заявіла Ф. Гурэвіч, — к мысли, что на новогрудском детинце обосновался киевский ремесленик». (**19**, б. 105)

Але, ці толькі ў Наваградку імітавалі кіеўскія аздобы? Імітацыя кіеўскіх аздобаў таксама мела месца ў Ноўгарадзе. Аднак дасьледчыкі далёкія ад думкі, каб кіеўскія ювэліры перасяліліся ў Ноўгарад. (**26**, б. 149-159) Дзеля таго, нашае меркаваньне, калі ноўгарадзкія ювэліры маглі імітаваць кіеўскія аздобы, падобнае маглі рабіць наваградзкія ювэліры. Тое, што ўзравень імітацыі быў у Наваградку ўдасканалены да такой ступені, што цяжка распазнаць імітацыю ад арыгіналу ня ёсьць дастаткова пераканаўчым доказам аб перасяленьні кіеўскага ювэліра на дзядзінец.

У майстэрні знайшлі кавалачкі неапрацаванага горнага крышталю. Тут-жа знаходзіліся апрацаваныя, гатовыя да ўжытку крышталёвыя пацеркі. (**22**, б. 24) Крышталь як сыравіна, праўдападобна, быў прывезены з Каўказу або іншых мясьцінаў Блізкага Усходу. Апрацоўка крышталю, каб ён стаўся прыгожай аздобай, вымагае ўмельства расколваць цьвёрды камень. Трэба быць кваліфікаваным ювэлірам у часе шліфаваньня, каб камень зрабіўся празрыстым і ярка кідаў агеньчыкі пад рознымі кутамі.

Наяўнасьць крышталю й крышталёвых пацеркаў у майстэрні ювэліра сьведчыць, што наваградзкі ювэлір пабываў у майстэрнях, якія апраблялі й экспартавалі шляхотныя й паўшляхотныя каменьні. Такія майстэрні былі ў Бізантыі, у гарадох Міжземнага мора й Блізкага Усходу.

На дзядзінцу знайшлі сэрыю засьцёжкаў ад кнігаў. Іх было 10 штук. (**10**, б. 99) Вядома,што першымі кнігамі, якія стараліся ў тыя часы купіць або перапісаць, былі кнігі багаслужбовыя. Таму засьцёжкі змушаюць прызадумацца. Калі яны ад багаслужбовых кнігаў, значыць на дзядзінцу была царква ў 2-ой палове XII стагодзьдзя. Мы-ж ведаем, што ў пачатку XIV стагодзьдзя на дзядзінцу паставілі мураваную царкву, але ёсьць прыклады, калі мураваныя цэрквы будаваліся на месцы

драўляных. Мажліва, так было на дзядзінцу з драўлянай царквой.

Акадэмік В. Пашута ўважае, што калі не ў Наваградку, то ў Лаўрышоўскім манастыры каля Наваградка, вялося летапісаньне. Ён навагрудзкі летапіс называе «Літоўскім летапісам»; урыўкі зь якога былі выпісаныя, некаторыя адрэдагаваныя й улучаныя ў Галіцка-валынскі кодэкс. (**27**, б. 34-42)

Вось і маем загадку. Ці засьцёжкі ёсьць сьведкамі багаслужбовых кнігаў, ці яны сьведкі загінуўшага наваградзкага летапісу? Летапіс мог пісацца манахамі царквы на дзядзінцу. Мы можам сказаць: бяссумніўна адно, што наяўнасьць даволі вялікае колькасьці засьцёжкаў ёсьць доказам таго, што на наваградзкім дзядзінцу была ладная колькасьць кнігаў у 2-ой палове XII стагодзьдзя.

У кожнай дзялянцы раскопа знаходзілі адломкі амфараў. Колькасьць амфараў цяжка зьлічыць. Архэалягічныя справаздачы не пералічваюць дакладнага ліку знойдзеных адломкаў. У справаздачах пра адломкі гаворыцца ў множным ліку.(**9**, б. 97; **17**, б.30; **23**, б. 312; **24**, б. 93, 97; **28**, б. 352; **29**, б. 412) Грэкі ўважаліся спэцыялістымі па вырабу амфараў. Таму грэцкія калёніі на ўзьбярэжжы Чорнага мора былі галоўнымі пастаўшчыкамі амфараў. У амфарах перавозілі віно, нафту, рознага гатунку паўдзённыя алеі й іншыя вадкасьці зь Бізантыі, Блізкага Ўсходу, гарадоў Міжземнага й Чорнага мора.

Унікальнай знаходкай ёсьць люстэрка. Яно зроблена зь белага сплаву мэталяў. Такія люстэркі выраблялі рамесьнікі Каўказу. Археолягі падобнага люстэрка ня сустрэлі, праводзячы раскопы старажытных местаў Русі. (**24**, б. 95, 96)

У культурных пластох сярэдзіны XII і пачаткаў XIII стагодзьдзяў знайшлі хрысьціянскія культавыя рэчы: крыжыкі й іконкі. Паводле Ф. Гурэвіч, усе мэталёвыя й шыфэрныя крыжыкі ёсьць кіеўскай вытворчасьці. Таксама бронзавая складаная іконка й каменная іконка з напісам «Николае агиос» — прывезеныя зь Кіева. (**9**, б. 96-97; **23**, б. 312; **25**, б. 36) Аргумэнтаў Ф. Гурэвіч не падае, чаму гэтыя рэчы ёсьць прадукцыяй кіеўскіх рамесьнікаў.

Адломак іконкі (Богамаці зь Дзіцяткам) выразаны ў камні-стэарыт. Ф. Гурэвіч паўстрымалася прыпісаць яе кіеўскай вытворчасьці. Іконка ёсьць далікатнага мастацкага выкананьня. Відаць спрактыкаванасьць рэзчыка ў кампазыцыі й выканчэньні. Іконка захапляе сваёй мілавіднай плястычнасьцю. Кволасьць Хрыста й засмучанасьць Маці выяўленыя памайстэрску. І калі-б ня было німбаў, яна была-б сьвецкім партрэтам. Ф. Гурэвіч пагадзілася іконку прызнаць творчасьцю сталічных майстроў Бізантыі. (**9**, б. 97; **17**, б. 30; **25**, б. 38)

На дзядзінцу ў 1974 годзе знайшлі іконку зь непразрыстага чырвона-рыжага шкла. Форма іконкі авальная й памерам 47×43 мм. На іконцы паказаныя ясьлі, у якіх ляжыць сьв. Дзіцятка, а над ім схілілі галовы асёл і кароўка. Каля ясьляў стаіць тапчан з паўляжачай на ім сьв. Марыяй. Сьв. Язэп з посахам у правай руцэ прысеў ля ног сьв. Марыі. На іконцы грэцкімі літарамі зроблены напіс: Раство. **30**, б. 384; **31**, б. 44)

Калекцыя шкляных іконкаў у музэях і прыватных зборах налічвала іх 175, да 1974 году. (**31**, б. 44) Іконкі сюжэтам, кампазыцыяй, стылем, формай, памерам, рэльефам і колерам шкла сьведчаць, што яны былі зроблены не ў адной майстэрні. Маюцца іконкі абрамаваныя залатой або сярэбранай рамкай, якая арыгінальна арнамэнтаваная, часамі дарагімі камнямі, што служыць доказам вялікае пашаны да шкляных іконак. Навукоўцы чамусьці мала цікавіліся вывучэньнем шкляных іконкаў. Зацікавіўся імі нямецкі навуковец Ганс Вэнтцэль і сваё дасьледаваньне



апублікаваў у 1957 годзе. Ён уклаў каталёг іконкаў і падзяліў іх на 55 тыпаў (**32**, б. 64-67)

Г. Вэнтцэль датуе шкляныя іконкі XIII стагодзьдзем і ўважае іх вырабам, паходзячым з Вэнэцыі. (**32**, б. 62-63) Ф. Гурэвіч ня толькі падзяляе апінію Г. Вэнтцэля, яна наважылася выказаць прыпушчэньне, што іконку прынёс у Наваградак сын Мендаўга —Войшалк (**10**, б. 98; **33**, б. 43)

Рыцарства чацьвертага крыжовага паходу ў змове з Вэнэцыяй зьявілася ля сьценаў Канстантынопаля. 13 красавіка 1204 году крыжаносцы ўварваліся ў горад і працягам трох дзён рабавалі сталіцу Бізантыйскай імпэрыі. «Since the creation of the world such a vast quantity of booty had never before been taken from one city, — wrote the historian of the fourth crusade». (**34**, б. 370) Вэнэцыянцы ня толькі прынялі ўдзел у рабунках, але акупавалі тры восьмых сталіцы, захапілі славуты Сабор сьв. Сафіі, пасадзілі на патрыяршым пасадзе вэнэцыянца, узялі пад кантролю 50% тэрыторыі Бізантыйскай імпэрыі. (**34**, б. 375-376)

Г. Вэнтцэль, пакідаючы па-за ўвагай рабаваньне Канстантынопалю, бярэ толькі пад развагу панаваньне вэнэцыянцаў у Бізантыі. Таму ён робіць выснаў, што вэнэцыянскія «Kriegsgewinnlers» выкарысталі пагром Канстантынопалю й запачаткоўваюць у Вэнэцыі выраб шкляных іконкаў. Тыя іконкі, што прызначаліся для збыту ў Бізантыі, выраблялі ў бізантыйскім стылю й з напісамі, зробленымі грэцкімі літарамі. (**32**, б. 62-63; **35**, б. 23-24)

Амэрыканскі навуковец Марвін Рос запратэставаў, каб шкляныя іконкі бізантыйскага стылю ўважаць вырабам Вэнэцыі й датаваць XIII стагодзьдзем. Ягоная аргумэнтацыя была ў тым, што ў Бізантыі, пачынаючы ад VII стагодзьдзя запачаткоўваецца адліваньне шкла ў формачках, у якіх вырэзвалі манаграмы, а пазьней бюсты асобаў і больш складаныя сюжэты. Экспэрымэнты із шклом ня спыніліся. У XI стагодзьдзі пачалі адціскаць у шкле матрыцы пячаткаў. Такім чынам, ёсьць падставы меркаваць, што ў Бізантыі маглі пачаць адліваць шкляныя іконкі ў XII стагодзьдзі. (**36**, б. 88)

Іконкі зь сюжэтам «Раство» Г. Вэнтцэль падзяліў на тыпы: VI — 9 іконкаў, VII — 4 іконкі, VIII — 1 іконка. Колер іхнага шкла — чорны, чырвоны, рыжы, цёмна-чырвоны, цёмна-рыжы, чырвона-рыжы, цёмна-чырвона-рыжы. (**32**, б. 64; **35**, б. 17) Форма іконкаў авальная, але памер іх розны: VI — 30/31×25/26мм., VII — 28×25мм., VIII — 45×41 мм.

Іконкі VI тыпу маюць кампазыцыю: ясьлі з Хрыстом, над Якім схілілі галовы асёл і кароўка; тапчан зь сьв. Марыяй тварам у анфас (рысаў разгледзець нельга), галава Ейная справа ад нас; над галавою — зорка; сьв. Язэп — зь левай стараны, твар Ягоны ў анфас (рысаў твару таксама разгледзець нельга), над Ягонай галавой — месяц. Кампазыцыя іконкаў VII тыпу такая самая, што VI-га, але з тэй розьніцай, што разьбяр формачкі спрабаваў выразаць над ясьлямі напіс, які, калі адлілі іконку, трэба чытаць справа налева. Літары напісу — грэцкія. (**36**, таб. LVII, 108; **37**, таб. IV, 762; **38**, б. 35; **39**, таб. XIII, 10)

Рэльеф абодвых тыпаў іконкаў тупы й расплывісты. Лініі — няроўныя й грубыя. Сам Г. Вэнтцэль сьцьвярджае, што іконкі ёсьць «прымітыўнага выкананьня». (**32**, б. 64)

Іншая справа зь іконкай VIII тыпу. Паколькі яна перахоўваецца ў музэі хрысьціянскіх старажытнасьцяў у Ватыкане, то атрымала імя ватыканскай. Яна мастацкага выкананьня й адрозьніваецца ад папярэдніх тыпаў кампазыцыяй. Тапчан зь сьв.

Марыяй зьвернуты ў адваротную старану. Галава Яе апынулася на левай старане. Сьв. Язэп сядзіць справа. Зоркі й месяца над іхнымі галовамі няма. Напіс «Раство» чытаецца зьлева направа. Колер шкла — цёмна-чырвоны. (**40**, б. 38-40, таб. XIII, 4)

У 1974 годзе Міхал Вайкерс апублікаваў іконку Аксфордзкага музэю. Памеры яе супадаюць з наваградзкай іконкай (47×43 мм.). Колер шкла яе чырвоны з чорнымі палоскамі. Яе знайшлі ў эгіпецкай Александрыі. (**41**, б. 18) Пакольні кампазыцыя наваградзкай, ватыканскай і аксфордзкай іконак дакладна такая самая, можна меркаваць, што яны адлітыя ў адной формачцы.

Каменная формачка, у якой адлілі наваградзкую, ватыканскую й аксфордзкую іконкі, бяссумніўна, была выразана выдатным спэцыялістым. Яе рэльеф — востры, выразны, а лініі — роўныя й тонкія. Разьбяр меў спрактыкаваную руку, рэзаў упэўнена ўзор і, напэўна, знаўся на тэхніцы адліваньня. Таму шкляная іконка захапляе сваёй мастацкасьцю.

Тапчан і яслі арнамэнтаваныя ўзорам пераплятаньня істужкаў. Каб запоўніць прастору ў ніжняй частцы ясьляў, разьбяр выразаў аркі й арнамэнтаваў іх драбнюсенькім узорам — пляцёнкай. Німбы вакол галоваў выкананыя не лінейным абводкам, а дробным зярністым спосабам. У гэткі-ж спосаб зробленыя валасы на галаве, барада й зарасьль на твары сьв. Язэпа. Твар Ягоны ў профіль, але паказаныя ўпалыя шчокі. Ён спазірае на сьв. Марыю. Яна прыпадняла левую руку да сьв. Дзіцятка, а тварам зьвярнулася да нас. Мы бачым Яе бровы, вочы, нос і напаўрасхілены рот. Кожную складку адзеньня Хрыста, сьв. Марыі й сьв. Язэпа разьбяр паказаў на іконцы.

Няма сумліву, што разьбяр формачкі імкнуўся, каб адлітыя шкляныя іконкі сваёй мастацкасьцю дараўноўваліся да іконак, рэзаных у шляхотных і паўшляхотных камнях.

Прыпусьцім, што шкляныя іконкі «Раство» ёсьць вырабам Вэнэцыі. Аднак, ці ёсьць вэнэцкім вырабам тып VIII-ы? Мастацкасьць іконкаў наваградзкае, ватыканскае й аксфордзкае настолькі відавочныя, што, калі прызнаць іх вырабам Вэнэцыі, мусім згадзіцца — у Вэнэцыі адбылася рэвалюцыя шкляной вытворчасьці ў сярэдзіне XIII стагодзьдзя. (Паводле Ф. Гурэвіч, гэтую іконку кн. Войшалк прынёс у Навáградак з Баўгарыі). (**33**, б. 43)

У 1958 годзе ў Амэрыцы была арганізавана выстаўка вэнэцыянскага шкла. Арганізатарам выстаўкі быў добра вядомы музэй шкла — Корнінг. У сувязі з выстаўкай музэй выдаў спэцыяльны каталёг. Вядомы спэцыялісты, Павел Пэрот напісаў артыкул пра вэнэцыянскае шкло. У артыкуле гаворыцца, што згодна архіўных вестак з 1224 году, у шкляным цэху Вэнэцыі працавала 29 асобаў. Апрача таго, «to this day, no definitely identified objects have come to light which would give us an idea of the type and quality of the glasses produced in Venice in the XIIIth and XIVth centuries». (**42**, б. 11)

Прымітыўнае выкананьне іконкаў VI і VII тыпаў, а мастацкае тыпу VIII наводзіць на думку, што іконкі VIII тыпу ня былі адлітыя ў Вэнэцыі.

Канстантынопаль быў вядомы як цэнтар мастацкіх вырабаў. Рабунак у 1204 годзе спрычыніўся да таго, што ў Заходняй Эўропе зьявілася большая колькасьць вырабаў канстантынопальскіх майстроў. Арыстакраты, вышэйшае касьцельнае духавенства й багатыя мяшчане Заходняе Эўропы вырабы гэтыя раскупілі, але запатрабаваньне, праўдападобна, не зьменшалася. Г. Вэнтцэль кажа, што вэнэцыянскія «ваенныя спэкулянты» выкарысталі сытуацыю, каб пачаць у Вэнэцыі вырабляць шкляныя іконкі. Мы толькі сумняваемся, што іконкі былі прызначаныя для збыту ў Бізантыі, асабліва тыя, што вырабляліся ў бізантыйскім стылю. Іх у Бізантыі распазналі-б, што яны ёсьць падробкай. На захадня-эўрапэйскім рынку, дзе было запатрабаваньне на бізантыйскія вырабы, была надзея падробку прадаць.

Можна прыпушчаць, што паміж зрабаванымі рэчамі ў 1204 годзе ў Вэнэцыю трапіла іконка VIII тыпу, і яна паслужыла ўзорам. Аднак вэнэцыянскія майстры ня былі яшчэ фахоўцамі вырэзваньня формачкаў. Аб гэтым сьведчыць напіс «Раство», які на адлітай іконцы трэба чытаць справа налева. Адлітыя шкляныя іконкі VI і VII тыпаў можна ўважаць за вырабы Вэнэцыі й датаваць XIII стагодзьдзем. Іконкі наваградзкая, ватыканская й аксфордзкая хутчэй за ўсё бізантыйскага паходжаньня, і іх трэба датаваць XII стагодзьдзем.

У хэмічнай лябараторыі ў Ленінградзе правялі аналіз шкла наваградзкае іконкі. Вось-жа аналіз сьцьвердзіў, што шкло наваградзкае іконкі ёсьць «тыпова бізантыйскае». (**31**, б. 47)

На дзядзінцу былі знойдзены рэчы, што сьведчаць аб імкненьні да роскашы й захаваньня дзявочае прыгажосьці. Знайшлі адломкі ад двух мініятурных пасудзінаў. Пасудзіны зь сярэдзіны й звонку былі пакрытыя зялёнай палівай. Іх выкарыстоўвалі для перахоўваньня касмэтыкі. (**19**, б. 103) Ці касмэтыка была мясцовага вырабу? Сумніўна. Праўдападобна, яна была прывезена зь Бізантыі або Блізкага Ўсходу. Аднак бяссумніўна адно, што наваградзкія жанчыны ў XII стагодзьдзі дбалі аб свой вонкавы выгляд, яны стараліся зьберагчы маладосьць і прыгажосьць.

Цікавымі ёсьць шкляныя адломкі-знаходкі. Зь іх нельга рэканструяваць посуд, дзеля малога памеру адломкаў. Затое адломкі даюць мажлівасьці даведацца пра паходжаньне шклянога начыньня. Празрыстае, тонкасьценнае шкло — бізантыйскага паходжаньня, і адломкі такога шкла знайшлі на дзядзінцу. Зь Бізантыі ў XII стагодзьдзі былі прывезеныя дзьве пасудзіны малочна-матавага шкла. Адна пасудзіна па малочна-матавым шкле была размаляваная золатам. На ёй быў малюнак птушкі. Зьбераглося толькі ейнае крыло. Другая пасудзіна была больш арыгінальная. Яна на малочна-матавым шкле мела двустаронную размалёўку. Невялікі адломак не дазваляе ўявіць ейнага ўзору. Яе вонкавая старана размаляваная залатымі паяскамі. У сярэдзіне яна мела касыя палоскі чырвонай эмаліі, а прастора паміж палоскамі з чырвонай эмальлю была запоўнена золатам. (**23**, б. 312; **24**, б. 95, 96; **43**, б. 9-10, таб. XII, 1, 3)

Апрача бізантыйскага шкла, на дзядзінцу знайшлі адломкі сырыйскага шкла. Каронка келіха, што быў зроблены з чыстага, бясколернага шкла прамаўляе аб сырыйскім паходжаньні. Другі адломак з падобнага шкла быў паддадзены хэмічнай аналізе. Д. Навумаў асьведчыў, што шкло ёсьць усходняга паходжаньня. Выклікае вялікую цікавасьць адломак празрысты, але колер шкла цемнавата-сіні. На ягоным сінім тле пакладзеная белая эмаль. Дасьледчыкі заўважылі, што эмальлю былі вымаляваныя арабскія літары, нажаль яны часткава абломаны. Краі белай эмалі абрамаваныя залатою істужкай. Такая арнамэнтыка на цемнавата-сінім тле празрыстага шкла надавала пасудзіне грацыёзнасьць. На Блізкім Усходзе гарады Алеппо й Ракка славіліся сваімі шклянымі вырабамі. Яны спаборнічалі паміж сабою й выраблялі шэдэўры. Наваградзкі адломак паходзіць з Сырыі, і ня выключана, што пасудзіна рэпрэзантавала адзін з гэтых гарадоў. (**24**, б. 95, 97; **25**, б. 38; **28**, б. 354; **43**, б. 13, таб. XII, 14)

Старажытная Пэрсыя, а сучасны Іран, славіліся вырабам парцэляны, асабліва з

XI стагодзьдзя. Калі Рэй і Кашан пачалі спаборніцтва, тады пэрсыдзкая парцэляна пачала здабываць сусьветную славу. У той час дасканаліцца люстрованы росьпіс парцэляны, робяцца спробы давесьці парцэлянавыя вырабы да такога ўзраўню дасканаласьці, каб іх можна было разглядаць часткай мастацтва. У XII стагодзьдзі з далучэньнем да спаборніцтва Савы, Султаннабаду, Нішапуру й іншых драбнейшых рамесьніцкіх асяродкаў, пэрсыдзкая парцэляна была даведзеная да зэніту ў сваёй якасьці, дэкаратыўнай прыгажосьці, рознаякасьці формаў і ў асартымэнце вырабаў. І вось, у 1220-1230 гады рынуліся ў Пэрсыю цюмены Манголаў. Высілак цэлых пакаленьняў стаўся зьнішчаным у працягу некалькіх месяцаў.

У 1971 годзе знайшлі парцэлянавую пэрсыдзкую чашу на паддоньні. Яна дванаццацілопасьцёвая й пакрытая чырвона-рыжым люстрованым росьпісам. (**9**, б. 95-96) Вельмі шкада, што да гэтага часу яна не апісаная й зь яе няма каляровых фатаграфіяў. Аналягічную чашу, але васьмілопасьцевую знайшлі ў часе раскопаў Орэн-кала ў Аэербайджане. Яе спачатку задатавалі канцом XII — пачаткам XIII стагодзьдзя. У 1983 годзе В. Даркевіч і Т. Старадуб агледзелі чашу з Орэн-кала й прыйшлі да высновы, што яна паходзіць зь сярэдзіны XII стагодзьдзя. (**44**, б. 185)

У музэях і прыватных калекцыях перахоўваецца пэрсыдзкая парцэляна. У 1938 годзе апублікаваны поўны каталёг пэрсыдзкае парцэляны. Нас зацікавіла, колькі ёсьць зарэгістраваных лопасьцевых чашаў. Аказваецца, што маецца 4 чашы васьмілопасьцевых вырабу ў Рэй і Кашан, адна дзевяцілопасьцевая — з Сава, адна чатырнаццацілопасьцевая — з Султанабуду й адтуль-жа чаша шаснаццацілопасьцевая. (**45**, т. І, № 650А, 663А, 668, 678Б, 697Б, 776, 778А)

Такім чынам, наваградзкая пэрсыдзкая чаша ёсьць унікальнай чашай пад поглядам лопасьцяў.

На дзядзінцу знайшлі таксама кавалкі бурштыну. (**17**, б. 30) Гэта сьведчыць аб кантактах Наваградка з узьбярэжжам Балтыцкага мора. Другая знаходка з Прыбалтыкі ёсьць бронзавы наканечнік ножнаў мяча. Ф. Гурэвіч кажа, што такія наканечнікі выраблялі ў «зямлі куршаў і прусаў». Яна спасылаецца пры гэтым на П. Паўльсэна б. 107 і 125 (**9**, б. 97) Аднак П. Паўльсэн стрымліваецца ад цьверджаньня, што іх выраблялі куршы ці прусы. Праца Пётры Паўльсэна была апублікаваная ў 1953 годзе і, зразумела, што ў ягоным каталёгу наваградзкага наканечніка няма. Даводзіцца наваградзкаму наканечніку шукаць аналёгіі ў каталёгу П. Паўльсэна. Найбліжэй да наваградзкага наканечніка там ёсьць наканечнікі пад нумарамі 161 і 163 на б. 115. П. Паўльсэн датуе іх XI-XII стагодзьдзямі. Паколькі найбольшае скупішча гэтага тыпу наканечнікаў знаходзіцца на ўзьбярэжжы Курскае затокі (Прусія), то можна прыпушчаць, што яны маглі тут вырабляцца. (**46**, б. 115, 142, таб. XII-XV)

---

Скароты: АО — Археологические Открытия
БСЭ — Беларуская Савецкая Энцыклапедыя
КСИА — Краткие Сообщения Института Археологии
Помнікі ГКБ — Помнікі Гісторыі і Культуры Беларусі
СА — Совецкая Археология
САИ — Свод Археологических Источников
JGS — Journal of Glass Studies

1. Г. І. Барбышаў. Навагрудская царква-крэпасць. БСЭ, т. 7, Мн. 1973



2. М. Шчакаціхін. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. т. 1, Мн. 1928 г.
3. В. А. Чантурыя. История архитектуры Белоруссии. Мн. 1969 г.
4. П. А. Раппопорт. Археологические и архитектурные заметки. КСИА 96, М. 1963 г.
5. М. К. Каргер. Раскопки церкви Бориса и Глеба в Новогрудке. КСИА 150, М. 1977 г.
6. М. К. Каргер. Раскопки храма Бориса и Глеба в Новогрудке. АО за 1965 год, М. 1966 г.
7. П. А. Раппопорт. Новогрудок. Церковь Бориса и Глеба. САИ, ЕІ-47. Русская архитектура X-XIII вв. Л. 1982
8. О. А. Трусов. Основные типы кладки XI-XII вв. на территории Белоруссии. зб. «Древнерусское государство и словяне». Мн. 1983 г.
9. Ф. Д. Гуревич. Некоторые итоги археологического исследования детинца древнего Новогрудка. КСИА 139, М. 1974 г.
10. Ф. Д. Гуревич. Детинец и окольный город древнерусского Новогрудка в свете археологических работ 1956-1977 гг. СА 4, М. 1980 г.
11. М. А. Ткачев. Исследование памятников военного зодчества Белоруссии. АО за 1969 год. М. 1970 г.
12. М. А. Ткачоў. Замкі Беларусі XIII-XVIII ст. ст. Мн. 1977 г.
13. М. А. Ткачоў. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII-XVIII ст. ст. Мн. 1978 г.
14. М. В. Малевская. Архитектурный комплекс новогрудского детинца XIII-XIV вв. зб. «Древнерусское государство и словяне». Мн. 1983 г.
15. Н. Б. Селиванова. Опыт петрографического изучения строительных растворов построек Новогрудского детинца. КСИА 172, М. 1982 г.
16. М. В. Малевская, Е. В. Шолохова. Раскопки церковных построек на детинце Новогрудка. АО за 1974 год. М. 1975 г.
17. Ф. Д. Гуревич, В. А. Назаренко, К. М. Плоткин, Т. С. Пономарева. Раскопки Новогрудского детинца. АО за 1971 год. М. 1972 г.
18. Ф. Д. Гуревич, К. Т. Ковальская, Т. С. Пономарева. Работы в Новогрудке. АО за 1973 год. М. 1974 г.
19. Ф. Д. Гуревич. Поливная керамика Новогрудского детинца. СА 4, М. 1981 г.
20. М. В. Малевская. Поливная керамика древнего Новогрудка. СА 3, М. 1969 г.
21. Т. И. Макарова. О происхождении поливной посуды на Руси. СА 2, М. 1963 г.
22. Ф. Д. Гуревич. К истории культурных связей древнерусских городов Понеманья. зб. «Культура средневековой Руси». (к 70-летию М. К. Каргера) Л. 1974 г.
23. Ф. Д. Гуревич, К. В. Павлова, Т. С. Пономарева, Е. В. Шолохова. Итоги Новогрудской экспедиции. АО за 1970 год. М. 1971 г.
24. И. Д. Зильманович. Раскопки на детинце Новогрудка в 1962 г. КСИА 104, М. 1965 г.
25. Ф. Д. Гуревич. Древние города Белорусского Понеманья. Мн. 1982 г.
26. М. В. Седова. «Имитационные» украшения Древнего Новгорода. зб. «Древняя Русь и славяне». М. 1978 г.
27. В. Т. Пашуто. Образование Литовского государства. М. 1959 г.
28. Ф. Д. Гуревич, М. В. Малевская, К. В. Павлова, Т. С. Пономарева, Е. В. Шолохова. Новогрудская экспедиция. АО за 1968 год. М. 1969 г.





25-га Сакавіка 1954 году ў Дэтройце. Група Беларусаў з камп. М. Шчагловым-Куліковічам і ягонай жонкай Н. Градэ ў Дэтройце.





Камп. М. Шчаглоў-Кулікові́ч сярод дэлегатаў 2-га Усебеларускага Кангрэсу пры спатканьні ў Беларускім Культурным Згуртаваньні. Зьлева направа: у 1-ым радзе (сядзяць) — Юрка Віцьбіч (рэдактар час. «Узвышша», органу БКЗ), Ларыса Геніюш (з Прагі), гэн. К. Езавітаў (з Латвіі), Н. Арсеньнява (кіраўнік літаратурнага аддзелу БКЗ), др. Я. Станкевіч (з Прагі); у 2-ім радзе (стаяць) — А. Анішчык-Чэмер (сакратар рэдакцыі «Узвышша»), камп. М. Шчаглоў-Кулікові́ч (кіраўнік музычнага аддзелу БКЗ) і А. Калубовіч (старшыня БКЗ). Здымак зроблены напярэдадні Кангрэсу (26. VI. 1944 г.) у пакоі рэдакцыі «Узвышша». На стале відаць колькі экзэмпляраў толькішто вышаўшага з друку № 1 часапісу.

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

29. Ф. Д. Гуревич, Н. В. Николаев, Л. Г. Паничева. Новогрудская экспедиция АО за 1977 год. М. 1978 г.
30. Ф. Д. Гуревич, К. Т. Ковальская, Н. В. Николаев, Т. С. Пономарева. Новогрудская экспедиция. АО за 1974 год. М. 1975 г.
31. F. D. Gurevich, New finds of glass medallions in U.S.S.R. JGS, v. 24, Corning, N.Y. 1982
32. H. Wentzel, Das Medaillon mit dem Hl. Theodor und die venezianischen Glaspasten im byzantinischen Stil. "Festschrift für Erich Meyer", Hamburg, 1957
33. Ф. Д. Гурэвіч, Каму належаў абразок-літык? «Помнікі ГКБ» № 3, Мн. 1982 г.
34. G. Ostrogorski, History of the Byzantine State. Rutgers University Press, New Brunswick, 1957
35. H. Wentzel, Zu dem Enkolpion mit dem Hl. Demetrios in Hamburg. "Jahrbuch der Hamburger Kunstsammlungen", v. VIII, Hamburg, 1963
36. M. C. Ross, Cataloque of the Byzantine and Early Mediaeval Antiquities in Dumbarton Oaks Collection. v. I, Washington, D. C. 1962
37. W. F. Volbach, Mittelalterliche Bildwerke aus Italien und Byzanz. " Bildwerke des Kaiser Friedrich - Museums". Berlin, 1930
38. The Corning Museum of Glass. Glass from the Corning Museum of Glass. (Guidebook) Corning, 1974
39. R. Forrer, Die frühchristlichen Altertümer aus dem Gräberfeld von Achmin- Panopolis. Strasburg, 1893
40. R. Righetti, Opere di Glittica. Guida VII del Musei Sacro. Vaticana, 1955
41. M. Vickers, A note on glass medallions in Oxford. JGS, v. 16, Corning, N. Y. 1974
42. The Corning Museum of Glass. Three great centuries of Venetian glass. A special exhibition 1958. Introduction by P. N. Perrot. Corning, N. Y. 1958
43. Ф. Д. Гуревич, Р. М. Джанполадян, М. В. Малевская, Восточное стекло в Древней Руси. Л. 1968 г.
44. В. П. Даркевич, Т. Х. Стародуб, Иранская керамика из раскопок Старой Разани. СА, I, М. 1983
45. A. U. Pope, ed. A Survey of Persian Art. v. I, London-New York, 1938
46. P. Paulsen, Schwertortbänder der Wikingerzeit. Stuttgart, 1953

**далей будзе.**





Васіль Сініца (ЗША.)

# МАЁ МЯСТЭЧКА

(УСПАМІНЫ)

працяг

## ДЗІСЬНЕНСКАЯ ВУЛІЦА

Гэтая вуліца была, так сказаць, цэнтральнай, ці можа дакладней галоўнай вуліцай у Лужках дзеля таго, што дамы на ёй былі нейк больш прыгажэйшыя, дый таму, што вяла яна ў павятовы горад Дзісну. Штопраўда павятовым горадам пасьля ўсталяваньня польска-савецкай мяжы Дзісна была толькі з назову, бо з прычыны блізкасьці тэй-жа мяжы ўсе павятовыя ўрады былі ў Глыбокім. На гэтай вуліцы знайходзіліся амаль усе важнейшыя местачковыя ўрады і ўстановы, як: почта, паліцыя (пазьней перанесеная на Касьцельную вуліцу), і шпіталь, пазьней зачынены польскімі ўладамі. На Дзісьненскую вуліцу адным канцом выходзіў Народны Дом (называны палякамі «людовым»), а супраць яго быў суд. Далей ішлі: рэстаран-бар «Пад Букетам» былога расейскага палкоўніка Гаваровіча, рэстаран-піўная «Варшавянка» Сьцяпана Мяцеліцы, адна зь нешматлікіх у мястэчку хрысьціянскіх крамаў, і то не найгоршая, Рудака. Пад канец вуліцы на працягу нейкіх 200-250 м. бокам да яе прытыкаў ксяндзоўскі даволі вялікі сад у якім віднеў прыгожы дамок-«клябанія». Аб адным з жыхароў клябаніі а. Язэпу Германовічу ў жыхароў мястэчка засталіся вельмі прыемныя ўспаміны. Але аб гэтым пазьней. Пры самы выхадзе вуліцы на так зв. «Кацярыненскі гасьцінец» у кірунку Дзісны, знаходзіўся даволі прыгожы каталіцкі магільнік. Гэты магільнік быў значна пабольшаны ў часе й хутка пасьля польска-бальшавіцкае вайны, калі палякі заложылі на паўночна-ўсходнім яго баку вайсковы магільнік, на якім было больш за 200 магіл.

Народны Дом быў пабудаваны недзе ў 1931-32 годзе. Гісторыя яго пабудовы даволі цікавая і я хацеў-бы над ёю крыху затрымацца. Як я ўжо ўспамінаў, гмінных войтаў вельмі часта нягледзячы на тое, што яны павінны былі ўзначальваць «сама-ўрадавыя» ўстановы, у гэтым выпадку гміны, староства прысылала сваіх аднадумцаў «з намінацыі». Гэтыя прысланыя людзі ня ўмелі, ня дбалі дый не хацелі дбаць аб гміннай гаспадарцы, або патрэбах аб тых ці іншых мерапрыемствах. А калі б сапраўды сталася так, што гэтыя «намінанты» хацелі-б нешта добрае зрабіць, дык на гэта ў іх не хапала ані розуму, ані кваліфікацыяў. Паўстае міжволі пытаньне, чаму-ж яны наагул назначаліся на гэтыя даволі адказныя становішчы? Адказ вельмі просты: назначалі іх на гэтыя пасады за іх, зрэшты вельмі няпэўныя «ваенныя заслугі», а найчасьцей у выніку сваяцтваў ці сяброўскіх павязаньняў з мала за іх лепшымі павятовымі старастамі, або нават і ваяводамі.

Вось-жа адзін з такіх гора-войтаў задумаў будаваць школу ў засьценку Ізабэліна. Можа нехта падумае, што ў гэтым засьценку было шмат дзяцей школьнага веку, або паблізу былі іншыя насельныя пункты, дзе гэтыя дзеці былі. Нічога падобнага! Штопраўда ў якіх трох кілямэтрах на поўдзень ад Ізабэліна была даволі вялікая вёска Рубашкі ды ізноў за якіх чатыры кілямэтры на паўдзённы-ўсход «маскоўская» (стараверская) вёска Кушлева. Але вучні з гэтых вёсак не маглі наведваць Ізабэлінскую школу з тэй простай прычыны, што Ізабэліна ад



© PDF: Kamunikat.org 2013

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

іх аддзяляла непраходнае балота замярзаючае толькі ў самыя суровыя зімы. Трэба таксама ведаць, што стараверы пагаджаліся плаціць грашовыя кары, або нават сядзець ў арэшце, чымся пасылаць сваіх дзяцей у «ерэціцкую» школу. Сталася так, што вучні з Рубашак і далей хадзілі ў адлеглае за 6 км. Парэчча-Царкоўнае, а вучні з Кушлева не хадзілі нікуды. На паўночны-захад ад Ізабэліна быў яшчэ засьценак Кузьмічова, але там дзяцей школьнага веку можна было палічыць на пальцах аднае рукі.

Але памінаючы ўсё, школа ў Ізабэліне была пабудаваная. Школа была не абы якая, праўда драўляная, але зь вялікімі вокнамі, прасторнымі клясными пакоямі ды кафлянымі печамі. Дах быў з чырвонай бляхі. На партэры ў ёй было пяць клясных пакояў, а на паверсе некалькі памешканьняў для настаўнікаў. Але так гэтая школа й прастаяла амаль пустая некалькі навучальных год. Калі-ж урэшце, нейкім цудам, войтам стаўся мясцовы чалавек — Мяцеліца, дык ён настаяў на тым, каб гэтую школу разабралі й перавезьлі ў Лужкі. Зрабіўшы некаторыя зьмены, пабудавалі зь яе Народны Дом.

Усё вышэй апісанае зьяўляецца яшчэ адным лішнім доказам, як міжваенная Польшча клапацілася аб «рдзэньне» польскія крэсы.

Ня лішнім будзе сказаць, што жыхары Ізабэліна прысягалі, што калі школа была на месцы, то ў ёй «страшыла», ці як у нас казалі «здаваліся зданкі». Тое-ж самае падцьвярджаў і прыбіральшчык Народнага Дому ў Лужках, але ніхто гэтаму моцна ня верыў. Некаторыя людзі казалі, што гэта адклікаліся сялянскія грошы, зробленыя крывавымі мазалямі ды якія марнаваліся рознымі прыблудамі з пазнаншчыны ці іншых мазоўшаў.

Як-бы там ня было, але Лужкі здабыліся на свой Народны Дом. У ім таксама на партэры зьмяшчалася даволі вялікая, на 300-350 асоб тэатральная заля са сцэнай, а з боку яе прасторны пакой на буфэт, які ладзіўся падчас розных баляў. Быў яшчэ адзін пакой для нарадаў і лекцыяў ды невялікая кухня. На паверсе было некалькі пакояў, дзе жылі настаўнікі з прылеглай школы.

У тэатральнай залі Народнага Дому найчасьцей з усіх імпрэзаў ладзіліся розныя танцавальныя вечарыны, (ці як казалі палякі забавы), але там часамі адбываліся й тэатральныя пастаноўкі. Удадатку кожнага панядзелку высьвятляліся кінафільмы. Кінафільмы высьвятляла глыбоцкае кіно «Паленія», якую пару год пазьней замяніла «Корсо». Перад кожным сэансам апаратура й фільмы прывозілі ў Лужкі з Глыбокага, а пазьней усё ладавалі на фурманкі і адвозілі назад у Глыбокае.

Тыя, што наведвалі кіно ў Лужках, хіба таксама памятаюць і «максімаву лаўку». Чаму гэтая лаўка называлася «Максімавай» я пастараюся коратка расказаць. Вось-жа уласьнік кіна «Паленія» зрабіў умову з гмінай, што ён будзе высьвятляць фільмы кожнага панядзелку. Урачыстае адкрыцьцё гэтага сэзону мела адбыцца на працягу трох дзён — суботы, нядзелі й панядзелку. Ведама, што заля паводле ўмовы павінна была быць закончанай на акрэсьлены, як-бы пасеньняшняму кажучы «канцытыдзень». Ужо з раніцы ў суботу сталяры пад наглядам старога Максіма дараблялі неабходныя дэталі, а ўласьнік кіно паляк Хмялеўскі з задаваленьнем паціраў рукі спадзяючыся мець поўную залю гледачоў. Бо ня жарты-ж! Ужо за якіх дзён дзесяць перад гэтай суботай, парасклейваныя па ўсіх вуліцах вялізныя каляровыя афішы абвяшчалі жыхаром, што будзе высьвятляцца сэнсацыйны й незабыўны амэрыканскі фільм — «Тарзан — уладар джунгляў» а ў



дадатку яшчэ адзін фільм пра танцорак з амэрыканскага гораду Алянтык Сіты.

І вось калі заля была ўжо гатовая й да пачатку сэансу заставалася толькі некалькі гадзін, здарылася непрадбачаная няўвязка. Пры ўстаноўцы апаратуры ў спэцыяльнай прыбудоўцы ў канцы залі аказалася, што акенца прызначанае для рэфлектару прасечана пад няправільным кутом, і дзеля гэтага сьвятло ад апарату падала не на экран, але дзесь у куток, і то пад самым стаялваньнем. Неадкладна выклікалі Максіма і ў выніку кароткіх, але праводжаных у хуткім тэмпэ, перагавораў ён пагадзіўся прарэзаць новае акенца, але ня ручаўся скончыць працу на час, бо выявілася, што таксама трэба зьмяніць і узровень падлогі ў прыбудоўцы. Тады Хмелеўскі паабяцаў яму і ягоным памагатым пару пляшак гарэлкі й каўбасу ад Мільвіца *), абы толькі ён выканаў усё на час. І Максім пастараўся так, што ўсё было гатовае яшчэ за хвілін 25 перад пачаткам сэансу. Такім чынам ён са сваімі хлопцамі меў яшчэ крыху часу на падвячорак, які добра закрапілі гарэлкай.

Тымчасам публіка запоўніла залю. Перад самым пачаткам добра выпіўшага Максіма, Хмелеўскі зь мілай усьмешкай ветліва правёў на «першае месца», г. з. у апошні рад. Максіму, ведама-ж, не падабалася, што мясцовая басота й дзетвара сядзіць у першых радох, а ён паважны майстра дзесь там паназадзьдзі. Тое, што каля яго сядзелі розныя паны й панюсі не рабіла на яго ніякага ўражаньня. Ён увесь час бурчэў сабе пад нос аб нейкім ашуканстве.

Калі стушылі сьвятло, Максім карыстаючы з гэтага пачаў прабірацца наперад не зважаючы на пратэсты тых, каго ён ўпоцемках штоўхаў, або каму наступаў на ногі. Дабраўшыся нарэшце да лаўкі, якая стаяла перад самым экранам, ён умясьціўся на яе пацясьніўшы пры гэтым ня ў вельмі ветлівы спосаб засеўшую там 10-ці грашовую й столькі-ж гадовую публіку. Можа-б усё й скончылася на гэтай Максімавай вандроўцы, каб на экране не зьявіліся тыя ведамыя танцоркі з амэрыканскага гораду Атлянтык Сіты. Вось тут і пачалося! Ня ведама, што больш падзейнічала на Максіма, ці выпіты алькаголь, ці зграбныя ножкі танцорак, якія матляліся ў яго перад вачыма, але адным словам Максім зусім страціў галаву. Ён ускочыўшы на лаўку пачаў разводзіць рукамі стараючыся злавіць гэтых прыгажуняў. Гэтага было ўжо зашмат, бо ўся заля пачала голасна выяўляць незадаваленьне з Максімавай эквілібрыстыкі. Перад ім, як з-пад зямлі вырас высокі паліцыянт Пэльц, які спрытна схапіўшы яго аднэй рукой за каўнер, а другой за порткі ніжэй паясьніцы, павалок да выхаду. Усё пайшло даволі спраўна, хоць і Максім таксама быў ня зломак. Аднак выходзячы, ня можна сказаць што па сваёй волі, на калідор, ён усё-ж такі даволі моцна грымануў галавой аб ўласнаручна ўстаўлены пару тыдняў перад гэтым, вушак. У выніку гэтага аблаяўшы ўсіх хто наведвае гэтыя дурныя «ціятры» апошнімі словамі, а пад адрасам Хмелеўскага й Пэльца выгаласіўшы дадаткова й расейскія слоўцы, ён як ні ў чым ня бывала адправіўся дамоў у недалёкую вёску Путраніцу, адкуль ён паходзіў.

Вось так і паўстала «Максімава лаўка». Калі на нейкі вельмі ўжо папулярны фільм не хапала білетаў, дык касірка-жыдовачка нясьмела прапанавала:

— А можа на Максімаву лаўку?

Акрамя кіно, танцаў ды іншых імпрэзаў, уключаючы ўрадавыя акадэміі, жыхары мястэчка за некалькі год перад II-й сусьветнай вайной мелі нагоду аглядаць у

*) Мільвіц — немец, найлепшы каўбасьнік у Лужках.

Народным Доме сапраўды мастацкія спэктаклі Украінскага Вандроўнага Тэатру, Тэадоры Рудэнко. Нягледзячы на маламястэчкавыя варункі, невялікую сцэну ды ня шмат месца за кулісамі, артысты гэтага тэатру змаглі паставіць такія рэчы, як апэрэткі «Запарожац за Дунаем», «Наталка Палтаўка», або апрацаваныя для сцэны й зразумелыя беларускім гледачам творы М. Гогаля. Падобна найлепшай іх пастаноўкай быў «Тарас Бульба» таго-ж М. Гогаля, але дзеля выразнага антыпольскага характару гэтай п'есы, кіраўніцтва тэатру ніколі не змагло атрымаць дазволу на яе пастаноўку. Для жыдоўскіх гледачоў яны ставілі «Мірэлэ Эфрос» Шолэм Алейхэма ды яшчэ некалькі п'есаў, назвы якіх ня ўтрымаліся ў маёй памяці.

На працягу некалькіх тыдняў перабываньня гэтага тэатру ў Лужках, заля Народнага Дому была заўсёды перапоўненая, а некаторыя аматары тэатру, да якіх прызнацца належыў і я, адмаўлялі сабе ў найбольш неабходных рэчах абы толькі не прапусьціць ніводнага спэктаклю.

На другім баку вуліцы ад Народнага Дому ў Мураванцы зьмяшчаўся суд. Заля судовых паседжаньняў была ў глыбі будынку, але канцылярыя сваімі вокнамі выходзіла на Дзісьненскую вуліцу. А пад адным з гэтых вакон меў сваё месца сакратар суду Адамовіч, высьнены ў снах-марах ідэал мясцовых дзяўчат. І трэба прызнаць, што прыгажэйшага за яго хлапца ня было ў цэлым павеце, а можа й ваяводзтве. Ды бяда была ў тым, што на дзяўчат, ці інакш кажучы аматарак да рамансаў, ён не зьвяртаў найменшай увагі. Працуючая зь ім Лёня Катушонак казала, між іншым пад вялікім сакрэтам, што па дзвочым пытаньні ён быў «паленапаленам». Але гэтая яе апінія не зьмяншала дзявочай сымпатыі да яго. І ўсе яны, прыгожыя, менш прыгожыя й зусім брыдкія, — хрысьціянкі й жыдоўкі, лічылі пунктам гонару прайсьціся хоць раз у тыдзень пад вокнамі суду спэцыяльнай плаўнай паходкай з паднятымі ў неба вачыма, бяз розьніцы ці натым небе сьвяціла сонейка, ці тырчэў маладзічок, ці імжыў дожджык, ці цярушыў сьняжок.

Не сьцьвярджаю гэтага з пэўнасьцю, але я недзе чуў, што жонка адваката Урбановіча, падобна, дасягнула свайго й без спацыраў пад вокнамі суду.

Другой, так сказаць, фігурай пасьля Адамовіча ў судзе быў яго вартаўнік, ці як казалі палякі «возьны». Вось гэтых урадаўцаў, у меру іх чаргаваньня, называлі «козьзі дырэктар». Клічка гэта па моему расшыфровалася вельмі проста, — «возьны» было папросту зьбеларушчана на «козьзі», ну а дырэктар дабаўлялася хіба для большае павагі. Гэты тытул пасьлядоўна перадаваўся ў спадчыне наступнікам. Да абавязкаў «козьзяга дырэктара» належыла ня толькі даглядаць за парадкам і чысьцінёю ў судовым прымешчаньні, але таксама асыставаньня ў часе судовых расправаў, — выкліканьне на залю патрэбных сьведкаў і таму пад. Часамі яму трэба было ўжываць свой аўтарытэт, а то нават і сілу пры выдаленьні з залі непажаданых асобаў, і дзеля гэтага ў часе службы ён апранаў чорную, падобную да паліцыйнай, уніформу й дзеля большай важнасьці да боку чапляў пісталет. Праўда, хадзілі плёткі, што гэта была толькі пустая кабура. Таму, што ён лічыўся дзяржаўным урадаўцам, займаў ён у местачковым грамадзтве далёка не апошняе месца.

За маёй памяці «козьзім дырэктарам» быў даволі прыстойны хлапец Стэфан Недзельскі. Мясцовыя пляткары цьвердзілі, што ён быў пабочным сынам пэўнага судзьдзі ці можа вышэйшага судовага ўрадаўца, і дзеля гэтага атрымаў на стала гэтую як-ніяк завідную пасаду. Хоць Стэфан афіцыйна не падцьвярджаў сваёй беларускай нацыянальнасьці, але ніколі не запярэчваў яе, і паза судом гаварыў чысьцюсенька пабеларуску. Нават і ў судзе часамі дапамагаў дзядзьком, якія ня



зусім разумелі па-польску. Затое ягоная маці й прыгожанькая чорнавокая сястра Марыся лічылі сябе «чыстакроўнымі полькамі» й заўсёды гэта падкрэслівалі.

«Козьзі дырэктар» быў хлапцом таварыскім і таму хадзіў на ўсе вечарыны, якія адбываліся ў мястэчку й бліжэйшых вёсках, што між іншым дамарослыя «паляцы» лічылі сьціслым табу для сябе. На вечарынах ён часта фундаваў пачосткі для сваіх сяброў, і таму гэтых сяброў у яго ніколі не бракавала. Аднак шмат каму зь іх прыходзіла часамі ў галаву думка, як гэта ён можа за сваю, хай сабе й «ужэндовую» заплату ўтрымаць маці й сястру, прычым, якая была заўсёды апранутая так, што ёй засдросьцілі мясцовыя модніцы, ды выдаваць сыстэматычна па пару дзесяткаў злотых на папойкі. Выясьненьне гэтай справы наступіла пазьней.

Справа ў тым, што старая Недзельская мела пэўныя ашчаднасьці ў залатых царскіх рублёх, перахоўваных у ёй толькі вядомым патаемным месцы. Будучы жанчынай няграматнай, яна толькі час-ад-часу правярала колькасьць манэтаў на лік і заўсёды цешылася з выніку інвэнтарызацыі, бо лік манэтаў згаджаўся. Але хіба няма на сьвеце тайніцы, якая-б раней ці пазьней ня сталася ведамай іншым. Вось і аб гэтай матчынай скрытцы даведаўся Стэфан, а будучы хлапцом ня дурным, пачаў праводзіць інвэнтарызацыю на свой лад, — заменьваючы манэты большай вартасьці на дзешавейшыя: 25-ці рублёўкі на 15-ці, пазьней на 10-ці і г. д., аж пакуль не дайшоў дапяцёрак. Тут ён ужо асьцярожна пачаў браць па аднэй. І вось пры чарговым падліку Недзельская агледзілася й спачатку нарабіла вэрхалу, але пазьней адумаўшыся, што гэтая авантура можа пашкодзіць у Стэфанавай працы, і можа адбіцца на дабрабыце ўсёй сям'і, старалася гэтую справу затушаваць. Аднак Марыся была менш устрыманай і таму хутка аб усім даведалася Стэфанава начальства. Некалькі тыдняў пазьней Недзельскія выехалі ў няведамым кірунку. Хутка на месца Стэфана прыехаў новы «козьзі дырэктар», — чалавек ужо паджылага веку й вельмі панурага характару. Ён дабыў на гэтым становішчы аж да прыходу Саветаў. У часе першага вывазу, гэта значыць, 14-га лютага 1940 году, разам з тысячамі іншых палякаў і беларусаў паехаў у Котлас ці іншую гіблую мясьціну.

Часамі, маючы вольны час, я любіў пайсьці ў суд і паслухаць усялякіх цывільных ды дробна-крымінальных справаў. Гаворачы пра дробна-крымінальныя справы, я маю на ўвазе такія справы, якія падлягалі «Гродзкаму» суду, гэта справы крадзежы, бойкі ці зьнявагі. Больш паважнейшыя справы, як напрыклад забойствы, разьбіраліся ўжо акружным судом у Глыбокім. Некаторыя з гэтых справаў яшчэ й сёньня застаюцца ў маёй памяці. Прыпамінаецца вялікае зьдзіўленьне асуджанага за зьнявагу былога жыхара Пецярбургу Ул. Крыўкі выклікала тое, калі судзьдзя пабачыў праступства ў тым, што ён пяшчотна абазваўся аб прыгожай дачцы суседа, называючы яе «прастытутачкай». На сваю абарону меў толькі тое, што ў Пецярбурзе так называлі амаль усіх прыгожых і добра апранутых дзяўчат.

Суд быў адзінай урадавай установай на акупаванай Беларусі, дзе афіцыйна было дазволена гаварыць па-беларуску тым, хто ў дастатковай меры не валодаў польскай мовай. Таму дыялёгі якія вяліся паміж судзьдзёю і абвінавачаным або абвінавачваючым ды сьведкамі на дзьвюх мовах былі даволі цікавымі.

Адна цётка выступае як сьведка ў справе бойкі паміж суседзямі. Пакуль пачаць фармальныя допыты судзьдзя задае ёй пытаньне.

— Сьвядэк была карана сондово?

— Не, паночку, — хуценька адказвае цётка, — хто-ж мяне караў-бы? Я-ж ніколі

й нікому нават ван не замуціла. Ці-ж я такая, як гэна вунь плётка Праксэда? Дык за што-ж мяне караць, панок, міленькі? —

Судзьдзя тымчасам углядаецца ў ляжачыя перад ім паперы й пералістваючы іх далей пытае.

— Нех сьвядэк собе добжэ пжыпомні, а можэ кедысь і была карана, бо я мам ту вшыстко запісанэ.

Цётка чырванее на твары й сапраўды прыпамінае сабе, што свайго часу была пакараная судом.

— За со? — цікавіцца судзьдзя.

— Ах, паночку, даражэнькі! Тут папросту няма чаго й гаварыць, адным словам бабскае непаразуменьне дый годзе, курак пакрала ў суседняй вёсцы.

Судзьдзя відавочна злуецца, і ўжо паднесеным голасам пытае далей.

— Іле кур скрадла?

— Шэсьць паночку.

— А іле месенцы досталась? — крычыць судзьдзя.

— Шэсьць месяцаў панок, але далі-Бог несправядліва! Бо якія там куры былі? Адно няшчасьце, скажу табе, паночку, залаценькі. Дзьве ліліся, адна шурпатая, адна зь перабітай нагой, а дзьве дык з ранку да вечара крычэлі немым голасам, як пятухі. Добра, што яшчэ ў пару схамянулася ды паскручвала галовы, а то, крый Божа, маглі-б яшчэ якога няшчасьця наклікаць.

Хоць і чырвоны ад злосьці, але рагочучы з усёй заляй судзьдзя аддаляе сьведку, на вялікае яе зьдзіўленьне.

Прызнаюся, што й мне асабіста выпала ды яшчэ ня раз, а два выступаць у судзе. Першы раз у характары абвінавачанага, а другі раз як сьведка. Можа паказацца камусь дзіўным, але першае выступленьне было для мяне шмат прыямнейшым за другое, а чаму, пастараюся вытлумачыць.

Хтосьці зь месначкоўцаў, здаецца ці не ўспамінаны ўжо Ігнат Крыўка, у часе рамонту мясцовага касьцёлу знайшоў у падзямельлі яго напаўзбутвеўшую грамату выдадзеную продкамі графоў Плятэр-Зыбэркаў жыхарам мястэчка. Са зьместу яе аднак было відаць, што яна дае права выпасу на панскім, але не старэйшым, як 10-ці днёвым іржышчы. Чаму й за якія заслугі гэты прывілей быў выданы сёньня ўжо не памятаю, таксама не памятаю чаму толькі на 10 дзён у годзе. Памятаю толькі, што гэты прывілей быў выданы «па вечныя часы мяшчанам і іх нашчадкам». Калі гэта дайшло да шырэйшага ведама, дык у найбліжэйшую нядзелю пасьля Багаслужбы ў сьвятынях, на рынку адбыўся даволі людны, а яшчэ больш шумны сход. На гэтым сходзе вырашылі неадкладна выкарыстаць гэты прывілей, балазе панскія парабкі толькі што закончылі прыбіраць з поля жыта й пшаніцу. Таму што з прычыны адлегласьці гэтага іржышча ад месначковых палеткаў туды ня можна было прагнаць кароў, дык дзеля гэтага вырашылі ехаць туды з конямі на начлег. Прывілей то прывілей, але кожнаму было ясна, што ў выпадку чаго, польскае права напэўна ня стане па баку месначкоўцаў. Таму ў гэты вечар на начлег выехала дзетвара зь якой найстарэйшаму ня было й 17 гадоў. Рабілася гэта з таго разьліку, што маўляў дзяцей ня будуць судзіць як дарослых, а калі й будуць, то хіба за выпас на чужым, а старэйшым нядоўга й камунізм прыпісаць.

Спачатку ўсё ішло даволі гладка. Графскія парабкі й цівуны прыглядаліся толькі з далёку як паўсотні падросткаў-хлапцоў з жартамі й песьнямі рушылі грамадой, каб хоць крыху падкарміць сваіх адвечных карміцеляў-коняй. Ніхто



ім нават не сказаў благога слова. Прыехаўшы на месца мы папуталі коні, разлажылі вогнішча, напяклі бульбы (хто яе меў), і пасьля жартаўлівых пагрозаў скіраваных у бок дзе віднеўся панскі маёнтак, улягліся спаць. Праз якуюсь гадзіну ці паўтары нас разбудзілі нейкія несамавітыя гукі, якія даносіліся з тога боку, дзе пасьвіліся коні. Усхапіўшыся на ногі мы пабачылі, што нейкія людзі акружылі нашых коняй і гоняць іх нават не распутаных у бок маёнтку. Мы, ведама-ж, кінуліся, каб гэтаму перашкодзіць, але аказалася, што наша вогнішча было абкружанае дзесяткам, або й больш паліцыянтаў са стрэльбамі гатовымі да стрэлу. Палова зь іх была нам зусім незнаёмая. З гэтага вынікала, што паліцыя была загадзя павядомленая аб нашай эскападзе й выклікала сабе дапамогу з суседніх мястэчкаў. Ззаду за паліцыянтамі шарэлі зялёныя ўніформы жаўнераў мясцовага аддзелу КОП. Вось табе й грамата, вось і прывілей!

Паліцыя загадала нам усім сесьці на зямлю й сашчапіць рукі на карках, пасьля чаго пачаліся допыты. Таму, што я сядзеў з самага берагу й найбліжэй да таго паліцыянта, які гэтыя допыты вёў, дык ён зьвярнуўся да першага мяне. Я адказаў папарадку сваё імя, прозьвішча і адрас, аднак на пытаньне чаго я сюды прыехаў не адказаў нічога. Тады паліцыянт замахнуўся на мяне гумовай палкай, але ня ўдарыў і пачаў пытаць наступнага седзячага каля мяне майго сваяка і аднагодка Янку Юхноўскага. Той таксама адказаў толькі на першыя два пытаньні. На гэтым дапрос і закончыўся, бо адважнейшы за нас усіх шаснацаці гадовы Стась Воўк крыкнуў:

— Мальцы, не адказвайце ім ані слова! Яны нам нічога ня могуць зрабіць! Яны-ж маюць нашых коняй і калі старэйшыя прыйдуць па іх, няхай зь імі гавораць.

У адказ на Стасевы словы стоячы каля яго паліцыянт крыкнуў:

— Мільч, ты комуністо! — ды ўдарыў яго па шчацы.

— Ах, ты гультай *), — закрычэў Стась. — Ці ведаеш ты, што мой брат служыць маёрам у польскім войску?

Гэтыя яго словы зрабілі пэўнае ўражаньне на паліцыю, так што больш Стася ня білі, а толькі налажыўшы на рукі ланцужкі адвялі яго пад ахову жаўнераў. Пасьля гэтага «пжодовнік» **) абазваўшы ўсіх нас «бальшавіцкай бандай і камуністамі» ды прыабяцаўшы згнаіць нас усіх у турме ў канцы загадаў нам ісьці дамоў. Стася тымчасам пад сільным канвоем павялі ў бок маёнтку.

Ня трэба й казаць, наш паварот дамоў быў невясёлы. А хто яго ведае, — казалі найболш разважлівыя з нас, а можа нас і сапраўды пасадзяць у турму за камунізм. Тымчасам пакуль мы дайшлі да мястэчка дык зусім разьвіднелася. Калі мы адзін па адным пачалі разыходзіцца па хатах, зь іх выбягалі старэйшыя, і перапалоханыя доўга распытвалі аб тым, што сталася.

Коні зьвярнулі ўласьнікам толькі па-паўдні. Некаторыя зь іх былі пакалечаныя, бо іх гналі не распутанымі добрых пару кілямэтраў, а пазьней зьбілі ў стадолу каля 75 коней, дзе нармальна магло памясьціцца 45-50.

Эпілёг справы адбыўся праз некалькі месяцаў у судзе. Але нягледзячы на тое, што перад распраўай мы ўсе крыху баяліся, аднак нас зь Янкам Юхноўскім аж расьпіраў гонар. Бо й падумаць, у павестках выразна стаяла: «Справа Базылего С. і Яна Ю. й чтэрдзесту седмю інных оскаржоных о бандыцкі наязд».

*) Гультай — так у Лужках зьняважліва называлі паліцыянтаў.

**) Пжодовнік — заступнік каманданта паліцыі.

Магчыма, што пэўную ролю адыграла й тая старая грамата, бо ўсе вінавайцы былі звольненыя ад віны й кары. Аднак на будучыню суд папярэдзіў, што падобныя выступленьні будуць разглядацца як бандытызм. Цікава й тое, што нават і Стась Воўк не атрымаў ніякага пакараньня нягледзячы на тое, што паліцыя абяцала пасадзіць на даўжэйшы тэрмін гэтага «вывротоўца». Магчыма, што й тут пэўную ролю адыграў афіцэрскі уніформ з крыжамі й мэдалямі ягонага брата Юзіка ў якім ён сядзеў на залі падчас расправы. Аднак гэта для яго ня мінула бяз насьледкаў, бо за некалькі месяцаў яму ветліва запрапанавалі перайсьці ў «стан адпачынку».

Хоць апрача маёра Ваўка ніхто ня быў пакараны, але местачкоўцы справу прагралі, бо аказалася, што фактычна польскае права шануе старыя граматы толькі ў тым выпадку, калі яны стаяць на старожы ды бароняць правы выгадныя для пануючай клясы й польскага «стану пасяданьня». Затое мы зь Янкам яшчэ доўгі час ганарыліся, што мы рэпрэзэнтавалі перад судом усё мястэчка.

Другое маё выступленьне перад судом было менш ганаровым, ды што казаць, папросту агідным. Нават яшчэ сёньня я з пэўнай прыкрасьцяй успамінаю аб ім, і то нягледзячы на тое, што я выступаў толькі ў характары сьведкі.

Было мне ў той час гадоў 19-20. Аднаго разу ідучы па вуліцы я няхочучы чуў сварку паміж Аннай Галэцкай і яе кватаранткай Хайкай Цэпелевіч. Ведама я стараўся як найхутчэй мінуць іх і не зьвяртаць на іх асаблівай увагі. Але яны амаль адначасна пачалі крычэць:

— Вы будзеце сьведкам, як гэтая сука зьняважыла мяне, — крычала Галэцкая.

— А ці вы ня чулі, што гэтая зараза казала пра мяне? — адказала Хайка.

Трэба зазначыць, што «сука» й «зараза» на іх вуснах чуліся папросту пяшчотна ў параўнаньні з тымі эпітэтамі пераплятанымі маскоўскай лаянкай, якія яны перад гэтым адпускалі па адрасу адна аднэй. На іхнія заўвагі я таксама не зьвярнуў асаблівай увагі, бо абедзьве яны былі ведамыя цэламу мястэчку, як асабліва языкатыя.

Аднак па пэўным часе я атрымаў судовую павестку аб тым, што ў назначаны дзень я маю зьявіцца ў суд у характары сьведкі ў справе зьнявагі нанесенай А. Галецкай, Х. Цэпелевіч, а можа й наадварот, сёньня ўжо дакладна не памятаю. Калі ў паказаны дзень я ішоў у суд, да мяне падбегла Анна й прапанавала, каб зайсьці ў рэстаран ды «падмацавацца» перад распраўай. Не пасьпеў я, хоць і зь вялікім высілкам адмовіцца ад гэтага, як да мяне віхром падляцела й Хайка прапануючы тое самае, з той толькі розьніцай, што на маю катагарычную адмову, яна з сумам сьцьвердзіла, што ніколі не спадзявалася, каб я да гэтае ступені ненавідзіў жыдоў.

Увайшоўшы ў судовую залю я заўважыў, што яна нязвычайна перапоўненая публікай. Сьпярша я падумаў, штво гэта справа Хайкі і Анны выклікала гэткае зацікаўленьне. Аказалася што не. У той дзень разглядалася даволі паважная, а ў дадатку й зацягнутая справа аб спадчыннай маёмасьці, і таму ў залі было шмат асобаў беспасрэдна зацікаўленых ды таксама даволі сьведкаў і наагул цікавых. Сярод прысутных я пабачыў дзяўчыну, якая толькі некалькі месяцаў таму прыехала з сям'ёй у Лужкі, і якая мне вельмі падабалася. Гэты факт зусім сапсаваў мой, і да гэтага ня вельмі паднесены, настрой. Але я меў аднак надзею, што нашая справа ня будзе разьбірацца першай, а пазьней Зіна (так называлася дзяўчына), можа Бог дазволіць, выйдзе з залі.



Так і сталася. Справа аб маёмасьці была разгляданая ў першую чаргу, і на жаданьне аднаго боку была адложаная дзеля прадстаўленьня дадатковых доказаў. За некалькі хвілін заля апусьцела амаль на палову, аднак я са страхам заўважыў, што мая сымпатыя й ня думае выходзіць. Наадварот, яна з ажыўленьнем нешта гаварыла да сядзячай побач зь ёю старэйшай жанчынай. Мне нават выдавалася, што нібы яна зрокам паказвае ў мой бок. Гэтага ўжо сапраўды было зашмат.

— Вось дык папаўся, — думаў я.

Нарэшце нашая справа пачалася. Адразу на пачатку яе я, як галоўны й здаецца адзіны сьведка, атрымаў загад выйсьці ў другі пакой і чакаць там аж пакуль мяне паклічуць.. Неўзабаве «козьзі дырэктар» урадавым голасам выклікаў мяне перад аблічча судзьдзі. Адразу я заўважыў, што Зіна ў міжчасе чамусьці зьмяніла месца, і цяпер сядзела бокам да публікі амаль на ўзроўні судзьдзёўскага стала ў такім нявыгадным паложаньні, што стаўшы перад судзьдзём я быў вымушаны глядзець проста на яе. Я пачуў, што чырванею, але часова ня губіў адвагі.

Пасьля звыклых асабістых пытаньняў ды эвэнтуальнай судовай прошласьці й каральнасьці, судзьдзя загадаў «козьзяму дырэктару» прачытаць тэкст прысягі, які я слова ў слова паўтарыў. Наступна судзьдзя спытаў у мяне, што я ведаю ў гэтай справе. Я пачырванеў яшчэ больш і адказаў, што вельмі мала. Тады ён канкрэтна запытаў, што казала абвінавачаная на абвінавачваючую таго памятнага дня. Я адказаў, што хоць можа й ня ўсё, але крыху чуў. Тады ён загадаў мне «слова ў слова» паўтарыць гэтае перад судом. Дрыжачым голасам, я папрасіў яго, каб ён дазволіў мне гэта напісаць на паперы, бо я не магу паўтараць гэтага публічна. Цяпер у сваю чаргу пачырванеў судзьдзя й закрычаў на мяне, што ён не дазволіць рабіць кпінаў з суду, і што я маю паўтарыць дакладна ўсё, што я чуў. Я скіраваў вочы ў той бок дзе сядзела Зіна й пабачыў, як мне выдалася, насьмешку на яе твары. Тады заплюшчыўшы вочы я сыпануў самымі адборнымі слоўцамі, пераплятанымі маскоўскай лаянкай. Калі я скончыў сваю тыраду, у мяне толькі шумела ў вушах і я стараўся, каб ня глянуць нікому ў вочы. Да роўнавагі прывёў мяне штуршок пад локаць, якім «козьзі дырэктар» зьвярнуў маю ўвагу, што судзьдзя задае мне іншае пытаньне. Пытаньне патрабавала ад мяне выказаць, што на гэта адказала другая жанчына. Гэтага я ўжо сапраўды не спадзяваўся. Ці й бяз гэтага было замала сораму для мяне? Вось дык палажэньне. Тады я ізноў заплюшчыўшы вочы й набраўшы ў лёгкія даволі паветра, як перад скокам у халодную ваду, паўтарыў усё толькі што сказанае, толькі з малымі зьменамі й дапаўненьнямі. Далей я ўжо як праз сон чуў, што судзьдзя загадаў мне сесьці, але ня выходзіць з залі, бо можа я яшчэ буду патрэбным. Амаль што навошчуп я дабраўся да апошняе лаўкі пад самай сьцяной і сеў там просячы Бога, каб гэтая брудная справа нарэшце скончылася. Нейкі час я сядзеў спусьціўшы вочы ў падлогу, а калі іх незнароку падняў, дык заўважыў, Зіна і ў далейшым неяк загадкова ўсьміхалася.

— Дык вось у якім таварыстве ты абяртаешся, — здаецца казаў яе погляд.

Мне-ж жывым хацелася схавацца пад зямлю. Урэшце судзьдзя прачытаў прыгавор зь якога вынікала, што паводле цьверджаньня галоўнага сьведкі (гэта нібы мяне), абедзьве жанчыны паносяць аднолькавую віну й дзеля гэтага прыгаварваюцца на тры дні арэшту кожная й дадаткова па 10 злотых судовых коштаў.

Не памятаю, як я выскачыў на вуліцу, агляну́ўся хіба ў нейкай адлегласьці ад суду, але тое што я пабачыў крыху ацьверазіла мяне ды прывяло ў пэўнае зьдзіў-

леньне. Анна з Хайкай стаялі побач як-бы ні ў чым ня бывала й даволі дружна пагражалі кулакамі ў мой бок ды нешта выкрыквалі пад маім адрасам. Зьместу іх пагрозаў я ня чуў, бо быў ўжо ў даволі вялікай ад іх адлегласьці, але ня думаю, што мне паздаровілася-б, каб іхныя пагрозы спраўдзіліся. Што адносіцца Зіны, то пры першым нашым спатканьні яна ўдала быццам нічога ня сталася, аднак у пазьнейшым часе напаўжартам прыпомніла мне мае судовыя выступленьні.

Наступным ад Народнага Дому быў дом Абрама Казьлінера, дзеда майго школьнага сябры Абы Казьлінера. Гэта быў даволі вялікі хоць і драўляны, але двупавярховы дом. На партэры ў ім месьцілася крама сельскагаспадарчых машынаў і прыладаў, уласьнікам якой быў дзед Абы, але толькі намінальна, бо фактычным уласьнікам быў бацька Абы, таксама Абрам. Дзед-жа толькі часамі, а галоўнае ў кірмашовыя дні зьяўляўся ў краме й заводзіў гутаркі, або напаўжартаўлівыя «сваркі» з пакупнікамі-сялянамі. Гэтыя ягоныя візыты ня вельмі падабаліся сыну, бо стары пасьля спрэчак з кліентамі, каб прыкрыць благое ўражаньне зьніжаў некалькі злотых з раней запрошанай цаны. У падвале гэтага самага дому месьцілася невялічкая вытворня ліманаду й газавай вады, уласьнікамі якой таксама былі Казьлінеры. Можна сказаць, што іхная сям'я была хіба найбольш заможнай у мястэчку.

З Абам я сябраваў праз усе школьныя гады й пазьней. Штопраўда ў яго ніколі не бракавала сяброў, але іх сяброўства ў большасьці было ўзалежненае ад Абавага матэрыяльнага становішча, бо ён заўсёды быў «пры грашох». Маё сяброўства зь ім працягвалася найдаўжэй з усіх, бо між намі амаль ніколі ня было ніякіх супярэчнасьцяў, а калі й заходзілі якія дробныя непаладкі, то адзін з нас заўсёды ішоў на ўступкі. Трэба прызнаць, што Аба будучы багацейшым заўсёды памагаў мне матэрыяльна пры куплі падручнікаў або школьных дапамаговых патрэбнасьцяў, але рабіў гэта вельмі далікатна й ніколі ня ўразіў нічым маёй асабістай годнасьці. Я-ж са свайго боку стараўся таксама ні ў чым ня ўразіць яго. Я вельмі часта бываў у яго ў доме і ён таксама любіў заходзіць да нас, а пагатове ніколі не адмаўляўся ад «трэфных» стравaў, калі мая маці частавала яго. Асабліва яму падабаліся драныя бліны з салам або вэнджаная каўбаса. Ведама, аб гэтым ведалі толькі мы ўдваіх і мая маці. Але памятаю, што аднаго разу ў час жыдоўскіх сьвяткаў Пэйсаху ягоны дзед частуючы мяне паводле звычаю мацой і дамаробным віном, напаўжартуючы заўважыў:

— Я ведаю, што мой унук бываючы ў цябе жарэ сала й каўбасы. Ну й цорт яго бяры! Усёроўна ён не пайсоў па Казьлінерах. Але памятай, каб ты не паглядаў ласым вокам на Соньку (Сонька малодшая сястра Абы), бо я табе й другую нагу адкручу.

Заўвага старога мяне моцна-моцна забалела і я адказаў:

— Калі я магу есьці вашу мацу й піць пэйсаховае віно, то і Абу нічога ня станецца ад каўбас. А што датычыць Соні, то калі яна захоча, дык знойдзе прыгажэйшага й здаравейшага ад мяне «гоя» й то бяз вашага дазволу.

Мой адказ відаць спадабаўся старому, бо ён нічога больш не сказаў, толькі махнуў рукою й выйшаў з пакою. А Аба яшчэ доўгі час перапрашаў мяне за нетактоўнасьць дзеда.

Між іншым Соньку ў даволі хуткім часе выдалі амаль што сілком за ў два разы старэйшага за яе й брыдкага з выгляду адваката з Глыбокага. Калі праз некалькі год яна ўжо маючы двое дзяцей гасьціла ў бацькоў у Лужках, дык я



спаткаўшы яе спытаў, як ёй жывецца замужам. Яна зрабіўшы нейкую жаласную міну й крыху падумаўшы адказала:

— Жыву добра, як той казаў, як у таты. (па маёму гэта быў намёк на век яе мужа). Вось бачыш маю двое дзетак. Вось так і жыву...

Абу таксама ажанілі са старэйшай за яго, хоць і даволі прыгожай дачкой буйнага гандляра збожжам — Шэнкмана. Пасьля ягонага жаніцтва нашае сяброўства паслабела, хоць мы абодвы былі заўсёды рады бачыць адзін аднаго й пры спатканьні дзяліліся сваімі радасьцямі, бедамі ды непаводзінамі, але гэта ўжо было далёка ня тое, што даўней.

Усе Казьлінеры зложылі свае галовы пад кулямі гітляроўцаў разам з тысячамі сваіх суродзічаў недзе напрыканцы 1942-га году.

Наўскос ад дому Казьлінераў на другім баку вуліцы месьціўся бар-рэстаран былога царскага палкоўніка Гаваровіча. Там зазвычай зьбіралася толькі мясцовая «сьмятанка», — панкі, урадаўцы й вайсковыя. Звычайныя-ж местачкоўцы пераважна амінулі яго, папершае дзеля высокіх цэнаў, а падругое, што «гаспадзін палкоўнік», як ён між іншым вымагаў тытулаваць сябе, распаўсюджваў аб іх розныя нябыліцы. Ён гаварыў, што не адзін зь іх ня ўмее карыстацца за сталом відэльцам і нажом, або што яны любяць піць лікер «пад селядзец» ды таму падобныя нясусьвеціцы. Ведама, што ня цяжка было разгадаць такое паступаваньне «гаспадзіна палкоўніка», прадстаўніка да нядаўна пануючай нацыі ня толькі тутака на акупаванай Беларусі, але яшчэ й далей ад яе межаў на захад. Яму патрэбна было й надалей захаваць хоць нейкі хімерны выгляд гэтай кануўшай у нябыцьцё вышэйшасьці, і адмяжавацца ад гэтых «інородцаў», як да нядаўна называлі мясцовае насельніцтва ў «матушцы» Расеі. Выглядала, што ён баяўся, каб гэтая публіка, барані Божа, чымсь ня ўразіла ягоных сёньняшніх хлебадаўцаў, якіх ён можа ў душы таксама называў «інородцамі», але нажаль нямог у сучаснасьці сказаць гэтага адкрыта, бо як-ні-як заўдзячваў ім кавалак хлеба ў выглядзе права на «вышынк напоюв алькоголёвых». І трэба дадаць, што гэты кавалак хлеба быў атрыманы ім за вельмі-ж ужо няясныя заслугі перад «Жэчыпаспалітай».

Рэстаран «Пад Букетам» праіснаваў у мястэчку недзе каля 10-ці год, а пазьней пасьля нейкай бліжэй ня высьвенай рамантычнай авантуркі паміж палкоўнікам і ягонай ні то адаптаванай дачкой, ні то падчарацай, зачыніўся. Сам-жа палкоўнік і ягоная невялікая сям'я разьвеяліся, як той прыказковы дым.

Прасьцейшыя людзі й надалей знаходзілі сабе прытулак у піўной «Варшавянка» Сьцяпана Мяцеліцы, або ў найбольш папулярнай установе гэтага тыпу — «Ядлодайні» ўспамінанай ужо Нінкі. Абедзьве гэтыя ўстановы знаходзіліся ў вельмі блізкім да сябе суседзтве, але здаецца ніколі не сварыліся за кліентаў-наведвальнікаў.

(далей будзе.)



**Міхась Белямук (ЗША)**

## ЮРЫ (ГЕОРГІЙ *) ШТЫХАЎ



Др. Юры Штыхаў

У XI-м томе Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі біяграфічнае даведкі пра Юрыя Штыхава няма. Гэта ня значыць, што ён мала вядомы беларускі навуковец. Ю. Штыхаў зьяўляецца выдатным археолягам. Ён ня трапіў у БСЭ, як ня трапілі туды й іншыя выдатныя беларускія археолягі: Аляксей Мітрафанаў, Эдвард Загарульскі, Лявон Побаль, Пятро Лысенка, Яраслаў Зьвяруга, Міхась Ткачоў, браты Міхась і Ян Чарняўскія.

Беларускія археолягі імкнуцца даць гісторыку матарыялы, якія-б кампэнсавалі страту пісьмовых крыніцаў. З дапамогай ім прыходзілі археолягі іншай нацыянальнасьці, як Леанід Алексеяў, Мікола Воранін, Фрыда Гурэвіч, Міхал Каргэр, М. Малеўская, Павел Рапапорт, В. Сядоў. Ім належыцца шчырая падзяка. Ю. Штыхаў дасьледуе тэрыторыю былога Полацкага княства, калыску нашай дзяржаўнасьці.

Для гэтае публікацыі мы абралі Ю. Штыхава таму, што ў ягонай біяграфіі знайшлі цікавыя эпізоды, якія часамі абсэрвуюцца ў моладзі. Маладыя часам пачынаюць студыяваць ня тое, да чаго маюць пакліканьне. Вось-жа, калі асоба схамянецца й зьверне з дарогі, пойдзе за поклічам, прынясе народу й навуцы вялікую карысьць, а сабе — радасьць. Так было зь Ю. Штыхавым.

Клыўлэндзкія бібліятэкі бедныя славістычнай літаратурай. Таму ў біяграфіі й бібліяграфіі, мажліва, знойдуцца недакладнасьці. Ветліва просім прабачэньня. Адначасна хочам скласьці падзяку Д-ру Андрэю Попэ, прафэсару Варшаўскага ўнівэрсытэту за некаторыя інфармацыі.

— * —

Юры (Георгі) Штыхаў нарадзіўся ў 1927 годзе ў вёсцы Старая Беліца каля Гомеля. Бацька ягоны, Васіль, быў настаўнікам пачаткавай школы ў Старой Беліцы. Маці, Агата, старалася так гаспадарыць, каб зь невялікага настаўніцкага заробку мужа засталася капейка на далейшую навуку сына.

Атрымаўшы першапачатковую асьвету ў бацькі, Ю. Штыхаў быў пасланы ў сярэдняю школу ў Рэчыцу. Ён пасьпяхова закончыў яе й запісаўся на завочныя студыі Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Сваёй прафэсіяй выбраў гісторыю. Аднак паступова пачынае адчуваць якісь іншы покліч. У вольныя хвіліны вандруе, пераважна па Лоеўскім раёне, шукае курганы, селішчы, гарадзішчы, замчышчы й прыслухоўваецца да легендаў-паданьняў старэнькіх бабуляў і дзядоў. Уважліва прыглядаецца да знаходак старажытных рэчаў і тады думкамі пераносіцца ў далёкія стагодзьдзі.

У 1953 годзе ўлетку Ю. Штыхаў з групай сваіх вучняў з Суткаўскай сярэдняй школы выбраўся ў даволі далёкую экскурсію — у Чаплін. Яны ішлі берагам Дняпра, вывучаючы мысы, прыглядаючыся ці часамі ня знойдуцца азнакі селішча. Трымалі кірунак на вёску Гарадок, дзе было старажытнае гарадзішча. Вучні распытвалі настаўніка, чым адрозьніваецца стаянка ад селішча й гарадзішча, чаму над памерлым насыпалі курган. Настаўнік-гісторык стараўся адказаць на ўсе пытаньні сваіх вучняў-спадарожнікаў.

Поўдзень даўно мінуў, а вёска Гарадок не паказвалася на небасхіле. Калёна экскурсантаў расьцягнулася шнурком. Настаўнік крочыў у цэнтры, калі пачуў крык: «Глядзеце, вось дык гара!..» Усе кінуліся наперад.

Неўзабаве ўбачылі нязвычайны пагорак. Яго акружаў глыбокі роў з крутымі берагамі, штучна змайстраванымі рукамі чалавека. Вучні приступам рынуліся на пагорак, але ўзыйсьці на вяршыню пагорка ня лёгка было. Натужваючы сілы, чапляючыся рукамі за галінкі кустоўніка, сьцяблінкі быльля, карабкаліся на вяршыню гарадзішча. Яно было мэтраў сорак у дыямэтры й з аднаго боку падмытае Дняпром. Налюбаваўшыся Дняпром, раськінутымі сенажацямі, усеянымі рознакалёрнымі краскамі, пачалі ўважліва прыглядацца пад ногі, пераходзячы з аднаго краю гарадзішча на другі.

Ю. Штыхаў пачуў галасы: «Глядзеце, чарапок, чарапок знайшлі!» Ён узяў чарапок у свае рукі, і яны «адчулі дотык шурпаватых далоняў таго чалавека, які жыў і працаваў прыкладна каля дзьве тысячы гадоў таму назад. У адным месцы нават заўважыў, што захаваўся адбітак яго пальца». Так пісаў Ю. Штыхаў, успамінаючы вучнёўскую экскурсію паўз Гарадоцкае гарадзішча.

Вучні абступілі настаўніка й пачалі прыглядацца да чарапка й таго месца на ім, дзе быццам-бы быў адбітак пальца рукі чалавека. І тут здарылася нечаканае. Адзін з вучняў зьняў з плеч рукзак, дастаў зь яго невялічкую рыдлёўку-сапёрку. «Вось я маю рыдлёўку, — кажа ён, — давайце, Юры Васілевіч, пакапаем у гэтым месцы, дзе знайшлі чарапок».

Ю. Штыхаў узяў рыдлёўку й пачуў, як сэрца затрапятала ў грудзёх. Узрушаным голасам ён прамовіў да вучняў, што ён як гісторык ня мае права на раскопы. Толькі археолягі ўпаважненыя дзяржаўным законам праводзіць раскопы. Вучні ўважліва выслухалі свайго настаўніка. Яны заўважылі ягоную ўсхваляванасьць. Апусьцілі галовы, каб ня бачыць у вачох настаўніка таго, чаго ня трэба было бачыць.

Сонца схілілася над вяршынямі дрэў, а да Чапліна заставалася 15 кілямэтраў. Значыць, калі ісьці пехатой у Чаплін, трэба затрымацца на начоўку ў Гарадку й на другі дзень, пры ўзыходзе сонца, рушыцца ў кірунку Чапліна. Ю. Штыхаў вырашыў заладаваць сваю «экспэдыцыю» на аўтабус, каб чым хутчэй пабачыць рас-

*) Так пішацца ягонае імя ў савецкіх публікацыях.

копы Чаплінскага археалягічнага комплексу.

Правы бераг Дняпра парэзаны глыбокімі стромкімі ярамі. Паміж імі каля вёскі Чаплін, Лоеўскага раёну, было колькі гарадзішчаў. Раскопы на адным зь іх рабіла экспэдыцыя Акадэміі Навук СССР з Масквы. На чале экспэдыцыі стаяў вельмі вядомы навуковец, прафэсар Пятро Трацьцякоў. Ягоным заданьнем было шукаць русло, па якім плылі славянскія плямёны, засяляючы Усходнюю Эўропу.

Ю. Штыхаў папрасіў шофэра затрымаць аўтабус каля раскопу. Моладзь высыпалася з аўтабусу й зьбягала ў раскоп, забыўшыся на інструкцыі свайго настаўніка. Разгублена глядзеў Ю. Штыхаў на панараму. Апанаваўшы сваё ўсхваляваньне, ён пачаў павольна зыходзіць у раскоп. Насустрач яму ішоў чалавек высокага росту. Твар быў знаёмы з фатаграфіяў. Да Ю. Штыхава падыйшоў кіраўнік экспэдыцыі. Ю. Штыхаў прадставіўся. Лагодная ўсьмешка зьявілася на твары П. Трацьцякова. Ён быў задаволены прыбыцьцём моладзі. Паводле яго, знаёмства моладзі з археалягічнымі раскопамі ў значнай меры дапаможа адчуць той покліч, які патрэбны маладому ў выбары прафэсіі, каб стацца навукоўцам. У вушах Ю. Штыхава празьвінела слова «покліч», і ён ня зводзіў з прафэсара вачэй.

Кіраўнік экспэдыцыі запрапанаваў агледзець раскопы. Па сьценах раскопу можна было выразна бачыць цёмную таўшчыню культурнага пласта. Ён у некаторых месцах дасягаў аднаго мэтра. Агледзеўшы сьценкі раскопу, усе падыйшлі да знойдзеных рэчаў. «Можаце ў руках патрымаць знаходкі, калі яны вас зацікавяць». Ю. Штыхаў падняў жалезную рэч, якая нагадвала кароткае долата, толькі ўтулка мела чатырохкутную форму. «Колькі кельтаў знайшлі?» — запытаўся. «Вельмі рады, што вы знаёмыя з назваю старажытнае сякеры. Мо скажаце, як старое гэтае гарадзішча?» — пачуў Ю. Штыхаў, замест адказу, пытаньне. «Кельты зьявіліся ў канцы 2-га й ужываліся тут на працягу ўсяго 1-га тысячагодзьдзя старой эры. Калі судзіць паводле гэтай знаходкі, можна прыпушчаць, што людзі на гарадзішчы жылі ня меней за 2000 год таму назад», — адказаў Ю. Штыхаў. «Вельмі добра, — пахваліў яго прафэсар, — а што вы скажаце пра чарапкі й бронзавую фібулу?» Ю. Штыхаў уважліва агледзеў рэчы, прызадумаўся й паставіў дату: яны паходзяць зь першых стагодзьдзяў нашае эры. П. Трацьцякоў дапытліва зірнуў у вочы Ю. Штыхава й запытаўся: « Вы мне прадставіліся як вясковы настаўнік-гісторык сярэдняе школы. Аказваецца, што археалёгія вам ня чужая навука. Рэчы датуеце правільна. Як гэта вытлумачыць?»

Ю. Штыхаў пачаў тлумачыцца. Прафэсар-археоляг цярпліва й уважліва слухаў. Калі Ю. Штыхаў змоўк, прафэсар сказаў: «На маю думку, вы маеце пакліканьне да археалёгіі, і вам трэба вывучаць тое, за чым ные сэрца».

Ю. Штыхаў з вучнямі правёў некалькі дзён на раскопах у Чапліне. Прыйшоў час разьвітаньня. Прафэсар П. Трацьцякоў адклікаў Ю. Штыхава на бок і, паціскаючы яму руку, спакойна й павольна пачаў гаварыць: «Я меў нагоду пазнаць вас і скажу шчыра. Вы маеце покліч не да тае навукі, якую студыюеце й выкладаеце ў школе. Калі пойдзеце за поклічам, з вас будзе добры археоляг. Падумайце. Будучыня вашая ў вашых руках».

Ю. Штыхаў вырашыў зьмяніць прафэсію, але адкладаў выезд у Менск з аднаго дня на другі. У міжчасе прыехала ў Суткавічы настаўніца Вера Бадрова. Ю. Штыхаў ня толькі пазнаёміўся зь ёю, але між імі пачаліся спатканьні. Дзявочая краса спрычынілася да таго, што ён і забыўся на зьмену прафэсіі. Як на экране мільгалі тыдні. Ён вырашыў асьведчыцца маладой настаўніцы. Думкі цяпер былі занятыя вясельлем і новымі сямейнымі праблемамі. А час ляцеў. Калі супакоіўся ад уражаньняў, згадаўся чарапок з Гарадоцкага гарадзішча, раскопы ў Чапліне й прафэсар П. Трацьцякоў, але на зьмену прафэсіі было цяпер крышку запозна, бо набліжаўся 1956 год. Трэба было начамі сядзець, рыхтавацца, каб здаць залікі й атрымаць дыплём. У 1956 годзе Ю. Штыхаў канчае завочныя студыі гістарычнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.



Тады-ж ён напісаў ліст у Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт з просьбаю прыняць яго ў асьпіратуру. Прасіў у лісьце й дазволу зьмяніць прафэсію. На адказ прышлося чакаць два гады. Аднаго дня атрымаў ліст з паведамленьнем, што ягоная просьба разгледжаная, і ён прымаецца ў асьпіратуру пры Акадэміі Навук БССР.

Навуковым прафэсарам-кансультантам Ю. Штыхава стаўся археоляг Аляксей Мітрафанаў.

Аднойчы А. Мітрафанаў запытаў Ю. Штыхава, чаму ён не паслухаўся парадаў прафэсара П. Трацьцякова, з чаго можна меркаваць, што П. Трацьцякоў даў аб ім А. Мітрафанаву адпаведныя рэкамэндацыі.

Ю. Штыхаў вучыўся ў асьпіратуры ў 1959-1962 гг. Прафэсар А. Мітрафанаў ставіўся чула да свайго выхаванца. Ён ведаў, якія недахопы мае вясковы настаўнік, і стараўся іх выэлімінаваць. Бачачы энтузіязм і працавітасьць Ю. Штыхава, скіраваў яго на правядзеньне раскопаў у Полацк, у калыску нашай дзяржаўнасьці.

У 1960 годзе Ю. Штыхаў робіць свае першыя самастойныя раскопы на Полацкім гарадзішчы. Ягоная жонка Вера стала побач мужа з рыдлёўкай. Раскопы былі ўдалымі. Яны пацьвердзілі, што Полацк запраўды існаваў у IX стагодзьдзі. У тымжа 1960 годзе Ю. Штыхаў публікуе свой першы навуковы артыкул: «Зброя старажытнага Полацка».

Ад 1960 да 1983 году Ю. Штыхаў апублікаваў 131 большую ці меншую навуковую працу, ня лічачы ягоных артыкулаў і даведак, напісаных і апублікаваных у Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі.

У 1965 годзе ён абараніў дысэртацыю «Старажытны Полацк IX-XIII стагодзьдзяў» на атрыманьне ступені кандыдата гістарычных навук. Адгэтуль Ю. Штыхава як маладога й здольнага навукоўца пачынаюць запрашаць на канфэрэнцыі й сымпозіюмы міжрэспубліканскага й міжнароднага характару. Адзначым тут толькі ўдзел ягоны на міжнародным форуме. На 1-ым Міжнародным Кангрэсе славянскае археалёгіі ў Варшаве ён выступае з рэфэратам «Полацк і Віцебск IX-XIII стагодзьдзяў у сьвятле археалягічных досьледаў». У Бэрліне, на II-ім Міжнародным Кангрэсе славянскае археалёгіі, чытае рэфэрат на тэму «Славянская калянізацыя Паўночнай Беларусі й паходжаньне гарадоў Полацкай зямлі». У Браціславе, на III-ім Міжнародным Кангрэсе славянскае археалёгіі, ён рэфэраваў аб «Дасьледаваньні курганоў Паўночнае Беларусі». Ён чытае рэфэрат «Старажытныя гарады Беларусі» на VII-ым Міжнародным Кангрэсе прагісторыі ў Празе.

Будучы ў мінулым настаўнікам сярэдняе школы, Ю. Штыхаў запазнаўся з зацікаўленьнямі моладзі. Ён піша для яе: «Галасы далёкіх продкаў» і «Ажываюць сівыя стагодзьдзі». Яны сталіся дапаможнымі падручнікамі для сярэдняе школы, дзе археалёгія спалучана з летапіснымі крыніцамі.

Ён апрацоўвае й выдае манаграфіі «Старажытны Полацк IX-XIII стагодзьдзяў» (кандыдацкая дысэртацыя), «Гарады Полацкай зямлі» (сталася асновай доктарскай дысэртацыі), «Гарады Беларусі па летапісам і раскопам», «Археалягічная карта Беларусі» (у складаньні якой шмат працы паклала жонка Ю. Штыхава, Вера).

«Старажытныя гарады Беларусі», «Старажытныя скарбы Беларусі» і «Нарысы археалёгіі Беларусі», апрацаваныя ў сааўтарстве.

У летапісе гаворыцца, што для Рагнеды й сына ейнага Ізяслава ў Х-ым стагодзьдзі было пабудаванае места, названае Ізяслаў. Каля Менску ёсьць Заслаўе, якое гісторыкі атажсамлівалі зь Ізяслаўем. Археалягічныя раскопы, аднак доўга не пацьвярджалі інфармацыю летапісца. Таму аб Ізяслаўі блізка Менску зьявіўся сумніў у археолягаў і гісторыкаў. Ю. Штыхаў, пазнаёміўшыся з народнымі паданьнямі, вырашыў паехаць у 1967 годзе да Заслаўя. Агледзеў мясцовасьць. Заклаў шурфы. Уважліва разгледзеў знаходкі й вырашыў, што старажытны Ізяслаў трэба шукаць каля цэнтру места. Вынік ягоных раскопаў ня толькі пацьвердзіў запіс летапісца, але прынёс новыя інфармацыі. Дабытая кераміка датуецца сутыкам VIII-IX стагодзьдзяў.

На Захадзе вымогі на атрыманьне ступені доктара гістарычных навук непараўнальна лягчэйшыя, як у Беларусі. Тут ступень доктара даюць унівэрсытэты. У СССР крышку інакш. Беларусь мае тры ўнівэрсытэты й Акадэмію Навук, але ў Беларусі ня маюць права надаць ступень доктара гістарычных навук. Толькі ў Маскве разглядаецца доктарская дысэртацыя й там надаецца гэтая ступень. Такім чынам, беларускі кандыдат павінен пісаць доктарскую дысэртацыю ў расейскай мове. Мы ня ведаем іншых вымогаў, якія могуць быць пастаўленыя беларускаму навукоўцу. Здараюцца выпадкі, калі беларускі кандыдат мае непаразуменьне, бо тое, што ў Менску здаецца аб'ектыўным, у Маскве можа паказацца «памылковым», і дысэртацыя дыскутуецца гадамі.

Ю. Штыхаў перамог усе цяжкасьці. Летась абараніў доктарскую дысэртацыю й атрымаў ступень доктара гістарычных навук. Сталася гэта таму, што ён — таленавіты й працавіты дасьледчык-археоляг. Цяпер ад яго беларуская археалёгія шмат можа спадзявацца.

З гэтае нагоды мы падаем тут бібліяграфію ягоных навуковых публікацыяў.

## СЬПІС НАВУКОВЫХ ПРАЦАЎ ДР. ЮРЫЯ ШТЫХАВА


### 1960

1. **Зброя старажытнага Полацка.** — «Беларусь», № 12, Мн. 1960, б. 32
2. **Гарбарнае рамяство Полацка.** — «Весці» АН БССР, № 3, Мн. 1961, б. 65-73
3. **Шавецкае рамяство старажытнага Полацка.** — «Весці» АН БССР, № 3, Мн. 1962, б. 81-90
4. **У пошуках старажытнага Полацка.** — «Беларусь», № 7, Мн. 1962, б. 24
5. **Прошлое города по археологическим раскопкам и летописям.** — зб. «Полоцк», выд. АН БССР, Мн. 1962, б. 7-16
6. **Ремесло древнего Полоцка.** — «Материалы конференции молодых ученых АН БССР». Мн. 1962, б. 130-135
7. **Полацкі скарб 1910 года.** — «Весці» АН БССР, № 3, Мн. 1962, б. 117-119
8. **Археологическое изучение Полоцка.** — «Тезисы докладов на заседаниях, посвященных итогам полевых исследований 1962 г.». М. 1963, б. 48-49
9. **Опыт исследования древнеполоцкой кожи.** — СА. № 4, 1963, б. 240-246
10. **Письмена на камне из Полоцка.** — СА. № 4, 1963, б. 246-248
11. **Пытанні гістарычнай тапаграфіі Полацка.** — «Весці» АН БССР, № 2, Мн. 1963, б. 63-72
12. **Интересная находка.** — «Искусство», № 4, М. 1964, б. 65-66

### 1965

13. **Археологические раскопки в Витебске.** — « Материалы IX конференции молодых ученых АН БССР». Мн. 1965, б. 61-67
14. **О торговых и культурных связях древнего Полоцка с Прибалтикой.** — «Тезисы докладов на научной сессии, посвященной итогам экспедиций археологов и фольклористов в 1964 г.» Рига, 1965, б. 29-31
15. **Отчет о раскопках в Витебске и археологических разведках в Полоцке, Шклове и Орше в 1964 г.** «Архив Ин-та Истории АН БССР, дело № 243».
16. **Печать XII в. из Полоцка.** — СА № 3, 1965, б. 242-245
17. **Полоцк и Витебск IX-XIII вв. в свете археологических исследований.** — «Тезисы докладов советской делегации на I-ом Международном конгрессе славянской археологии в Варшаве». М. 1965, б. 45-48
18. **Древний Полоцк (IX-XIII вв.).** Автореферат кандидатской диссертации. Мн. 1965, 40 балонак
19. **Раскопки курганов под Полоцком.** — «Вопросы истории и археологии. Материалы X-ой конференции молодых ученых по общественным наукам». Мн. 1966, б. 268-275
20. **Древнейшие города Полоцкой земли.** — «Доклады и сообщения археологов СССР на VII Международны конгресс». М. 1966, б.241-243
21. со-аўтар П. Ф. Лысенко. **Древнейшие города Белоруссии.** — выд. НТ., Мн. 1966, 84 б.
22. **Археалягічная канферэнцыя ў Мінску.** — «Весці» АН БССР, № 4, 1966, б. 136-137
23. **Сравнительное изучение древнейших городов Полоцкой земли и памятников их окрестностей.** — «Древности Белоруссии», Мн. 1966, б. 238-252
24. **Дапаможнік па археалёгіі Беларусі** (рэц. на кніжку Э. М. Загорульский «Археология Белоруссии»). — «Весці» АН БССР, № 1, Мн. 1967, б. 130-136; со-аўтар В. Ф. Ісаенка
25. **Аб паходжанні Мінска.** — «Полымя» № 5, Мн. 1967, б. 180-186
26. **Археологические раскопки в Орше и Логойске.** — «Доклады к XI конференции молодых ученых Белорусской ССР». Мн. 1967, б. 385-396
27. **Древнеполоцкое каменное зодчество.** — «Белорусские древности». Мн. 1967, б.262-290
28. **Отчет о археологических раскопках в Северной Белорусии в 1967 г.** — «Архив Института Истории АН БССР, документ № 349»
29. **З далёкай мінуўшчыны** (пра старажытны Менск). — «Беларусь», № 5. Мн. 1967, б. 29
30. **Старажытныя канькі** (канькі знойдзеныя ў Полацку). — «Беларусь», № 2, Мн. 1968, б. 29
31. **Сляды легенды.** — «Маладосць», № 4, Мн. 1968, б. 139-143
32. **Работы Полоцкой экспедиции.** — АО за 1967 г. М. 1968, б. 254-256
33. со-аўтары: З. Ю. Копысский, В. И. Мелешко, В. М. Чекман. Агляд штогодніка **«Acta Baltico-Slavica»** — t. I-IV, Białystok, 1964-1966. — «Весці» АН БССР, № 3, Мн. 1968, б. 118-124






© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

34. **Галасы далёкіх продкаў.** — выд «Беларусь», Мн. 1968, 107 б.
35. **Благавешчанская царква ў Віцебску.** — «ЛіМ», Мн. 1968, за 22 красавіка
36. **З гісторыі шахмат.** — «Беларусь», № 5, Мн. 1968, б. 31
37. **Происхождение и материальная культура древнерусских городов Белоруссии — Полоцка и Витебска (IX-XIII вв.).** — I Międzynarodowy Kongres archeologii słowiańskiej, wyd. «Ossolineum», PAN. 1968, t. IV, б. 407-421
38. Выступление в дискуссии на I Международном конгрессе славянской археологии в Варшаве. — I Międzynarodowy Kongres archeologii słowiańskiej, wyd. «Ossolineum», PAN. 1968, t. IV, б. 38-39
39. **Археология Полоцкой земли за 50 лет.** — «Древности Белоруссии», Мн. 1969, б. 118-129
40. **Раскопки в Лукомле в 1966-1968 гг.** — «Древности Белоруссии», Мн. 1969, б. 316-351
41. **Обследование памятников Полоцкой земли.** — АО за 1968 г., М. 1969, б. 348-349
42. **Паходжанне ўсходніх славян і Русі.** — (рэц. на кніжку: М. Ю. Брайчевский, «Происхождение Руси», Киев, 1968). «Весці» АН БССР, № 3, Мн. 1969, б. 134-136
43. Рэцэнзія на кніжку: Л. В. Алексеев, «Полоцкая земля» (Очерк истории Северной Белоруссии в IX-XIII вв.). М. 1966 «Acta Baltico-Slavica» VI, Białystok, 1969, pp. 278-282
44. Выступленьне падчас дыскусіі на: The Polish-Soviet Symposium on Balto-Slavonic Relations at Białystok in Poland (Sept. 1965). «Acta Baltico-Slavica» VI, Białystok, 1969, pp. 232-234
45. **Раскопки в Лагойске в 1968 г.** — «Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии». Мн. 1969, б. 122-126
46. **Бусы из Витебска.** — «Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии». Мн. 1969, б. 127-131
47. **Заславль в свете раскопок 1967-1968 гг.** — «Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии». Мн. 1969, б. 132-141
48. со-аўтар: Н. Н. Прохорчик. **Курганная группа Пчельник-Кищица Слобода.** — «Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии». Мн. 1969, б. 144-146
49. **Разведочные раскопки в Славгороде 1967 г.** — «Вопросы истории (Тезисы докладов XII конференции молодых ученых Белорусской ССР)». Мн. 1969, б. 70-76

**1970**

50. **Исследование памятников белорусского средневековья.** — зб. «Достижения исторической науки в БССР за 50 лет». Мн. 1970, б. 39-43
51. **Исследование в Северной Белоруссии.** — АО за 1969, М. 1970, б. 309-310
52. **Время и пути возникновения некоторых раннефеодальных центров Полоцкой земли.** — «Тезисы докладов советской делегации на II-ом Международном конгрессе славянской археологии в Берлине». М. 1970 б. 63-65
53. **Древнейшие города Белоруссии.** — «Actes du VII Congres International des sciences Prehistoriques et Protohistoriques». Prague, 1971, t. II, б. 1137-1140



54. **Полацкія фрэскі XII стагодзьдзя.** — «Помнікі ГКБ», № 1, Мн. 1970, б. 29-32
55. **Над чым працуюць беларускія археолагі.** — «Помнікі ГКБ», № 1, Мн. 1971, б. 17-18
56. **Ад старажытных плямёнаў — да з'яўлення беларусаў** (рэц. на кніжку: В. В. Седов, «Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья», М. 1970). «Полымя», № 8, Мн. 1971, б. 239-242
57. со-аўтар: П. Н. Захарэнко. **Старажытныя скарбы Беларусі** (альбом). — выд. «Беларусь», Мн. 1971, 22 б. тэксту, 53 таб. ілюст.
58. **Исследования в Витебской и Минской областях.** — АО за 1970 г., М. 1971, б. 313-315
59. **К вопросу о перенесении городских поселений в период феодализма.** — «Тезисы докладов, посвященных итогам полевых археологических исследований в 1970 г. в СССР (археологическая секция)». Тбилиси, 1971, б. 271-275
60. **Археологическая карта Белоруссии.** — Памятники железного века и эпохи феодализма. Выпуск II, выд. «Полымя», Мн. 1971, 307 б.
61. **Отчет о раскопках и разведках в Северной Белоруссии в 1971 г.** — Архив Института Истории АН БССР, дакумант № 385
62. **Пячаткі старажытнай Русі** — (рэц на кніжку: В. Л. Янин, «Актовые печати древней Руси X-XV вв.», М. 1970). «Весці» АН БССР, № 6, Мн. 1971, б. 129-131
63. **Раскопки в Северной Белоруссии.** — АО за 1971 г., М. 1972, б. 402-404
64. **Общие и отличительные черты политического строя древнего Новгорода и Полоцка.** — зб. Становление раннефеодальных славянских государств. Киев, 1972, б. 194-206
65. **Новые данные о связях населения Белоруссии и Украины в XII-XVI вв.** — «Тези пленарних і секційних доповідей (Результати польових археологічних досліджень 1970-1971 років на території України)». Київ, 1972, б. 363-365
66. **Эканамічнае жыццё гарадоў.** — зб. «Гісторыя Беларускай ССР». т. 1, Мн. 1972, б. 94-100
67. **Этнический состав населения территории Белоруссии накануне образования Киевской Руси.** — зб. «Очерки по археологии Болоруссии». выд. НТ., ч. II, Мн. 1972, б. 5-10
68. **Полоцкие кривичи.** — «Очерки...» б. 10-27
69. **Деревня и ее хозяйство.** — «Очерки...» б. 52
70. **Зарождение и развитие городов.** — «Очерки...» б. 72-73
71. **Города Северной и Центральной Белоруссии.** — «Очерки...» б. 73-95
72. со-аўтар П. Ф. Лысенко: **Поднепровские и Посожские города.** — «Очерки...» б. 125-133
73. **Экономическая жизнь городов.** — «Очерки...» б. 150
74. со-аўтар П. Ф. Лысенко: **Ремесло.** — «Очерки...» б. 150-162
75. **Торговля.** — «Очерки...» б. 162-164
76. со-аўтар В. Н. Рабцевич: **Денежное обращение.** — «Очерки...» б. 165-171
77. **Памятники сфрагистики и эпиграфики.** — «Очерки...» б. 172-177

78. со-аўтар В. Р. Тарасенко: **Прикладное искусство.** — «Очерки...» б. 177-185
79. со-аўтар М. А. Ткачев: **Каменное зодчество XI-XIII вв.** — «Очерки...» б. 185-295
80. **Монументальная живопись.** — «Очерки...» б. 209-212
81. **Вывучэнне курганоў Полацкай зямлі (X - пачатак XII ст.).** — «Беларускія старажытнасьці», Мн. 1972, б. 227-246
82. **Археологические исследования в Лукомле.** — «Матеріали XIII конференції Ин-ту археології АН УРСР, присвяченої 50-річчю Академії Наук Української РСР». Київ, 1972, б. 319-321
83. **Славянская колонизация в Северной Белоруссии и происхождение городов Полоцкой земли.** — «Berichte über den II Internationalen Kongress für slawische Archeologie». Berlin, 1972, band III, pp. 367-373
84. **Раскопки курганов второй половины I-го тысячелетия н. э. в Витебской области.** — «Тезисы докладов на секциях, посвященных итогам полевых исследований 1971 г.» М. 1972, б. 119
85. **Раскопки в Витебске и его окрестностях.** — АО за 1972 год. М. 1973, б. 370-372
86. **Проблемы истории населения Белоруссии VI-XIII веков в свете археологических данных.** — зб. «Этногенез белорусов». Тезисы докладов на конференции по проблеме «этногенез белорусов», 3-6 декабря 1973 г. Мн. 1973, б. 31-34
87. **К вопросу о пребывании норманов в Полоцке.** — «Тезисы докладов шестой Всесоюзной конференции по изучению Скандинавских стран и Финляндии». ч. I, Таллин, 1973, б. 112-113
88. **Асветніца з Полацка.** — «Маладосць», № 5, Мн. 1973, б. 148-149
89. **Полацкі шэдэўр XII стагодздзя (пра крыж).** — «Помнікі ГКБ», № 2, Мн. 1973, б. 28-31
90. со-аўтар Г. Лебедев, В. Пуцко: **Недостатки одного исследования.** — (рэц. на кніжку М. С. Кацер, Народно-прикладное искусство Белоруссии). «Нёман», XI, Мн. 1973, б. 178-182
91. **Исследования в Витебской области.** — АО за 1973 г., М. 1974, б. 384-385
92. со-аўтар Г. Лебедзеў: **Старажытны горад на Віцьбе.** — «Весці» АН БССР, № 4, Мн. 1974, б. 42-48
93. **Там дзе пачынаўся горад** (пра Віцебск). — «Помнікі ГКБ», № 2, Мн. 1974, б. 27-30
94. **Ажываюць сівыя стагоддзі.** — выд. НА., Мн. 1974. 174 балонкі
95. **Очерки по археолоии Белоруссии.** — ч. 2, Мн. 1972, (реферат). «Реферативный журнал», общественные науки в СССР, серия 5, история. М. 1974

### 1975

96. **Развитие археологической науки в Белорусской ССР.** — «Материалы пятой региональной археологической студенческой конференции вузов Северо-Запада и центральных областей СССР» Могилев 1975, б. 8-12
97. **Работы Полоцко-Витебского отрада.** — АО за 1974 г., М. 1975, б. 398-399
98. **ДРЕВНИЙ ПОЛОЦК IX-XIII вв. выд. НТ.** — Мн. 1975 г., 134 б. (94 пазыцыяў бібліяграфіі — М. Б.)



99. **Поселения VI-VIII вв. в окрестности Витебска.** — «Новейшие открытия советских археологов (тезисы докладов конференции)». ч. III, Киев, 1975, б. 66-68
100. **Исследования курганов в Северной Белоруссии (VI-X вв.).** — «Тезисы докладов советской делегации на III-ем Международном конгрессе славянской археологии». Братислава, сентябрь 1975 г. М. 1975, б. 30-32
101. **Города Белоруссии по летописям и раскопкам (IX-XIII вв.).** — выд. «Полымя», Мн. 1975, мае 31 балонку
102. **Поселения и курганы Северной Белоруссии.** — АО за 1975 г., М. 1976, б. 430-431
103. **Эпізоды гісторыі Полацка ў «Слове аб палку Ігаравым».** — «Беларуская літаратура й літаратуразнаўства», № 4, Мн. 1976, б. 111-117
104. со-аўтар В. Е. Соболь: **Раскопки в Минске и его окрестности.** — АО за 1976 г., М. 1977, б. 416-417
105. **Обследование городищ и курганов в Речицком районе.** — АО за 1976 г. М. 1977, б. 419-420
106. **Первобытнообщинный строй.** — Становление феодализма в западных землях Руси. «История Белорусской ССР». выд. НТ., Мн. 1977, б. 9-39
107. со-аўтар В. Е. Соболь: **Исследования в Минске и его окрестностях.** — АО за 1977 г., М. 1978, б. 428-429
108. **Размеры городов Полоцкой земли в сравнительном изучении.** — «Археологические исследования на Украине в 1976-1977 гг.» Ужгород, 1978, б. 118-119
109. **ГОРОДА ПОЛОЦКОЙ ЗЕМЛИ (IX-XIII вв.).** — выд. НТ., Мн. 1978, 159 б. (177 пазыцыяў бібліяграфіі — М. Б.)
110. **Древняя Русь — колыбель трох братских народов.** — «Исторические корни дружбы и единения украинского и белорусского народов». Киев, 1978, б. 23-33
111. **Манумэнт «Тысячагоддзю Расеі»** — «Помнікі ГКБ», № 4, Мн. 1978, б. 44
112. **Памятники Северной Болоруссии.** — АО за 1978 г., М. 1979, б. 448-449
113. со-аўтар В. А. Карпеко: **Раскопки на Менке.** — АО за 1978 г., М. 1979, б. 449
114. **Пісьмо далёкага продка.** — «Гісторыя Беларусі ў літаратурных вобразах (дакастрычніцкі пэрыяд)». выд. НА, Мн. 1979, б. 19-20
115. **Шахматнае воінства.** — там-жа, б. 21-23
116. **Исследования Полоцко-Минского отрада.** — АО за 1979 г., М. 1980, б. 371-372

### 1980

117. со-аўтар А. Сяліцкі: **Фрэскі Бельчыцкіх храмаў.** — «Беларусь», №3, Мн. 1980, б. 29
118. **Пра час далёкі летапісны.** — (рэц. на кніжку Э. Скобелев, «Мирослав, князь Дреговический», Мн. 1979 г.). «Беларусь», № 4, Мн. 1980, б. 31
119. со-аўтары У. Угрыновіч, А. Трусаў: **Кафля Лагойскага замку.** — «Беларусь», № 5, Мн. 1981, б. 32
120. **Работы Полоцко-Минского отрада.** — АО за 1980 г., М. 1981, б. 348-349
121. со-аўтар П. Н. Захаренко: **Туров древний и современный.** — выд. «Полымя»,

 

Мн. 1981, 24 балонкі
122. **Киев и города Полоцкой земли.** — «Киев и западные земли Руси в IX-XIII вв.» выд. НТ., Мн. 1982, б. 45-80
123. **Ажываюць сівыя стагоддзі.** (другое выданне). — выд. НТ., Мн. 1982 г. 175 б.
124. **«И грамота назвалась славянская...»** — «Людина і світ», № 5, Київ, 1982, б. 41-42
125. **Ферзь, найденый в Лукомле.** — «Шахматное обозрение», № 20, М. 1982, б. 33
126. **Культурные связи Полоцка с Византией.** — зб. «Славянские культуры и мировой культурный процесс». Мн. 1982, б. 56-57
127. **Охранные раскопки в Белоруссии.** — АО за 1981 г., М. 1983, б. 366
128. **Киев и древние города Белоруссии.** — «Древнерусское государство и славяне». (Материалы симпозиума, посвященого 1500-летию Киева), выд. НТ., Мн. 1983, б. 54-57
129. Реферат «**Киев и западные земли Руси в IX-XIII вв.»** — «Научно-реферативный бюллетень» (отечественная литература), № 49, историа, Мн. 1983, б. 55-58
130. Автореферат докторской диссортации **«Города Полоцкой земли IX-XIII вв.»** мае 51 балонку
131. Докторская диссертация **«Города Полоцкой земли IX-XIII вв.»** — Мн., 1983 г., 641 балонкі, бібліяграфія 664 пазыцыяў

**Скароты:** **АО** — Археологические открытия;
**ЛіМ** — Літаратура й Мастацтва (газэта)
**НА** — Народная асвета
**НТ** — Навука й Тэхніка
**Помнікі ГКБ** — Помнікі гісторыі і культуры Беларусі
**СА** — Советская археология

У **Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі** знаходзяцца артыкулы й даведкі напісаныя др. Юрыям Штыхавым.

т. 2 Барысавы камяні, б. 161-162; со-аўтар А. А. Фактаровіч: Барысаў (гісторыя) б. 162-163; Бельчыцы, б. 288; Берасьцяныя граматы, б. 300; Брачыславы, (князі), б. 399-400

т. 3 со-аўтар А. П. Белязо: Віцебск (гісторыя), б. 108-109; со-аўтар М. І Ермаловіч: Віцебскае княства, б. 114; со-аўтар Т. В. Хадыка: Вялікае Княства Літоўскае (культура й асьвета), б. 237-238; Вяцічы, б. 275; Гарадзец, б. 346; Гарадзішча, б. 348; Глеб Усеславіч, б. 503-504; Гнездаўскія курганы, б. 523

т 4 Грыўня, б. 58; Даўгія курганы, б. 262-263; Драўляне, б. 273; Друцкае княства, б. 290-291; Дулебы, б. 311; жальнікі-магілы, б. 405; Заслаўскі курганны могільнік, б. 506-507; Заходняя Дзвіна, б. 535; Земгалы, б. 556

т. 5 со-аўтар П. Ф. Лысенка: Кіеўская Русь, б. 560-562

т. 6 Княства, б. 42; Красны Бор, б. 106; Крывічы, б. 132; Кукенойс, б. 181; Кукенойскае княства, б. 181; Лагожскае княства, б. 239; Лукомль, б. 435; со-аўтар К. К. Крыловіч: Лукомскае возера, б. 435; Лукомскае княства, б. 435-436; со-аўтар У. Ф. Ісаенка: Лучын, б. 445-446

т. 7 Мсціслаўскае княства, б. 299; Некалач, б. 477; Ноўгарад, б. 538-539; со-аўтар В. А. Чамярыцкі: «Пагоня», дзяржаўны герб, б. 595

т. 8 Палачане, б. 39; Паляне, б.68; Полацк (гісторыя), б. 485-486; Пячаткі, б. 669

т. 9 Рагвалод князь, б. 19; Рагвалод Барысавіч, б. 19; Рагвалодаў камень, б. 19; Рагнеда Рагвалодаўна, б. 20; Радзімічы, б. 28; раскопкі (археалагічныя), б. 119; Расціслаў Глебавіч, б. 130; Расціслаў Мсціславіч, б. 130; Рудня, б. 168; Русь, б. 194; Северскае княства, б. 463

т. 10 Стрэжаў, б. 88; Сфрагістыка, б. 142-143; Тмутараканскае княства, б. 263; Турыйск, б. 353-354; Уладзімір князь, б. 457-458; Усяслаў Брачыславіч, б.515

т. 11 Хозераў Іван, б. 69; Эпіграфіка, б. 467

т. 12 Рассяленне славян, б. 84; Станаўленне феадальных адносін, б. 84; Крывічы, б. 84-85; Радзімічы, б. 85-86; Полацкае княства, б. 86-88; Землі і гарады Пасожжа, б. 88-89; Эканамічныя сувязі заходніх зямель Русі, б. 89; Культура заходніх зямель Русі, б. 89-90; Палеаграфія, б. 427; Эпіграфіка, б.427-428; Геральдыка, б. 428; Сфрагістыка, б. 428; Нумізматыка, б. 428; Першабытнае мастацтва, б. 602



Уладзімер Глыбінны (ЗША)

## ВЯЛІКІЯ ДАРОГІ

(раман)

працяг

— Мама, што з табой? — ня сьцерпеў Кастусь, — ці што здарылася ў дарозе. Чаму ты вярнулася ды з пустым? — спытаўся ён.

— Ды не, сынку, нічога асаблівага ня здарылася. Вось толькі, няма ведама чаму, міліцыянеры кірмаш разагналі. Ніколі гэткага не здаралася раней. Вялікія групы міліцыі, усё адно як войска, панаходзілі зьнекуль ды гоняць усіх, каб ішлі дамоў; фурманкі сялянскія на вуліцах перапыняюць ды назад заварачаюць. А чаму — ніхто нічога ня кажа. "Загад" — кажуць, "дык марш назад", ліха іхнай галаве. Уздумалі нейкія, можа, парады рабіць ці штосьці падобнае. Адылі нейкі адзін стары чалавек ціха сказаў, што вайна... праўда, я ня веру гэтаму, 20 гадоў аб гэтым гаварылі, а тае й да сяньня, дзякаваць Богу, няма.

Вайна... вайна... адны гаворкі, мама. Гэтага ня можа быць. Праўда, мама, яшчэ толькі тры дні назад я чытаў у газэце паведамленьне ТАСС, дзе катэгарычна запярэчваюцца ўсялякія чуткі пра тое, быццам немцы рыхтуюцца да вайны з Саветамі.

Яна праказала прыцішана гэтае "дзякуй Богу", як-бы вінаватая перад сынам, бо прадчувала, што ня зусім можа да спадобы яму гэтае ўхваленьне спакойнага стану — стану паняволеньня народу, краіны, дарагіх яму людзей — культурных дзеячоў, паэтаў, пісьменьнікаў — усіх, што тварылі ўзвышша беларускае культуры, чыймі ідэямі ён, чулы з маленства да ўсяго роднага й прыгожага, працяўся

 

 

яшчэ са школьнае лаўкі. Пазьней, у гады студэнцкія, і сам ужо прыстаў да гэтага руху народна-культурнага адраджэньня, чытаў ад вокладкі да вокладкі ўсе літаратурныя часопісы 30-ых гадоў і навучыўся вырозьніваць, вылучаць і ўбіраць у сябе ўсё, што йшло ад сапраўднае народнае думкі, здаровага пачуцьця прыгожага й багаціла душу чалавека, фармуючы ейныя лепшыя парываньні ў высокае служэньне адзінаму ідэялу — Свайму Народу.

Ведала маці добра, што па ўсім перанесеным, перажытым і адпакутаваным ейным сынам, пасьля гадоў выгнаньня ў далёкія сібірскія лягеры, пасьля гадоў бадзяньня па Расеі бяз права на працу, бяз сталага месца жыхарства, пасьля напружанае працы мазгоў і нэрваў, каб як "не засыпацца", каб ня выкрылася старанна захаваная нядаўна выгнаньніцкая, катаржная мінуласьць. І наапошку гэтае, усяго колькі месяцаў, хітрыкамі, пад выглядам студэнта, атрыманае права прапісацца ў родным месьце ў гасподзе сваіх старых бацькоў, гэтае, па гэтулькіх гадох ростані, спатканьне, самым Богам пасланае й багаслаўленае, у гэтым невялічкім найманым пакойчыку з куханькай пры ім у драўляным ускраінным дамку, дзе так, у канцы добра ўклалася гэтае шчасьце бачыць штодня хоць аднаго з чарады усіх забраных ейных сынкоў, што гэтае шчасьце можа стацца ізноў недоўгатрывалым. Вайна можа ізноў усё зьнішчыць, забраць астатнюю ўцеху й зьнесьці сваім руйнуючым шквалам гэтыя астачы ўцехі старых бацькоў, якім калі што яшчэ й засталося ў жыцьці вартаснага й каштоўнага, бязьмерна дарагога й ні з чым не зраўнанага, дык гэта — толькі іх сынок. Дарма, што бяда й гады пабялілі яму скроні, тварам ён нават малодшы за свае 30 гадоў, а сэрцам і зусім малады. Гады студэнцкага бядотнага жыцьця па інтэрнатах ды гады выгнаньня, дзякуючы моцнай духовай паставе і адпорнасьці да ўсяго благога й распуснага, захавалі суцэльным ягоны духоўны склад. Ён не паддаўся спакусам злога сьвету й прайшоў праз нягоды жыцьця, не запляміўшы іхным брудам свайго адкрытага толькі прыгажосьці й хараству сэрца. Яго ніколі ня надзілі танныя размаляваныя менскія харашухі, якіх цэлая чарада заўсёды круцілася каля кожнае гульні ў клюбах і грамадзкіх дамох. Пасьля школы савецкае сапраўднасьці ведаў цану гэтых "бакханак", што лучылі службу выведкам з інтарэсам свайго грэшнага цела. Яго ня надзілі да сябе гучныя з прапагандовымі аншлягамі ўгодкавыя вечары або рэстаранныя спатканьні вакол заказаных загадзя столікаў, дзе пад гукі джазбандаў і плаўныя рытмы танцавальнага танго (тады гэта было на нейкі час дазволена, супраць "буржуазных касмапалітаў" яшчэ не вялося кампаніі), вялізарная армія "сэксотаў" вышуквала жывое слова, каб занесьці ягонага носьбіта ў сьпіс ненадзейных. А лучыў чалавек у гэты сьпіс, доля ягоная была ўжо вызначаная і ягонае зьнішчэньне ці выгнаньне ў далёкія месцы прымусовае працы станавіла толькі справу часу.

Ня ўступаў Кастусь у гаворкі аб апошніх падзеях, якія пачынаў заўсёды які-небудзь няўмеру настырлівы службовец перад групай



тых, што раней прышлі на працу людзей. Дазнаньне ягонае яму падказвала, што нядобрае прарочаць гэткія гаворкі ўдзельніку, а мэта пачынальнікаў заўсёды тая самая — злавіць тых, якія думаюць інакш. І ня быў-бы той "сэксотам", каб не ўдавалася яму праўдай ці няпраўдай злавіць носьбіта "крамолы". Ён ведаў, што сябраваць таксама ня варта абы зь кім. Скрозь можа быць здраднік, нават і не зь перакананьня, а часьцей з мусу, пад страхам кары за недаказ, з "службовага абавязку" перад дзяржавай.

Усё гэта рабіла жыцьцё нясьцерпнай катаргай ня толькі там, у ясна прагалошанай няволі, але можа хіба яшчэ больш цяжкім тут, на волі, дзе нельга было ня толькі выказацца перад усімі, але нават з сябрам шчыра падзяліцца думкамі. Вось-жа таму й трымаўся Кастусь наводдаль ад усіх гэтых зводняў і спакусаў сьвету, аддаючы ўсяго сябе высьпяваным і вынашаным у глыбіні сэрца думкам, чытаньню клясычных прыгожых твораў. А думкамі ні зь кім не дзяліўся, хіба толькі з аднэй сваёй маткай і адным-адзінюсенькім сябрам, так як і ён — захаваным унутраным эмігрантам, дарма што жыў таксама ў сваім родным краі.

Нельга сказаць, каб Кастусь надта ўжо й вайны чакаў. Ведаў ён, што вайна нясе з сабой няшчасьці, разбурэньні, разгубленыя й разьбітыя сем'і, безьліч забітых і пакалечаных. Не пакладаў ён надзеяў і на кагосьці таго, хто прыйдзе, бо прадчуваў, што ніводзін чужынец ня кіруецца дабром чужога яму народу, а карысна-жывадзёрныя інтарэсы заўсёды кіруюць намерамі кожнага захопніка й пануюць над усімі, магчымымі ў лепшым выпадку праявамі часовых дабрадзейных пачуцьцяў. Тут ён ня меў аніякіх ілюзіяў. Аднак, нейкае падсьвядомае адчуваньне таго, што гэта можа зьявіцца пачаткам вялікіх зьменаў і поўным зьначаньням долі, узбуджала некаторыя надзеі на нешта лепшае. Таму міжвольнае некаторае замяшаньне пры апошніх словах маці не магло ня выклікаць, хоць на часіну, адбітку на ягоным бледаватым твары. Чульлівае й назіральнае матчына вока не магло ня ўгледзець гэтага.

Яна з часінку змоўчала, а тады нібы неўзнарок:

— Ды можа й на лепшае. Што нам губляць?

Змоўчаў і Кастусь. Цяжкія думы ішлі яму ў галаву. Яму ў гэту часіну прыгадаліся словы аднае маладое знаёмае жыдоўкі-настаўніцы, што ў сваёй закаханасьці да яго дазваляла сабе быць зь ім асабліва шчырай і не хавала некаторых сваіх навінаў, атрыманых праз знаёмствы пра справы, пра якія ў друку ня пісалася.

Гэта было за колькі дзён перад тым. Яны спаткаліся на ціхай вуліцы ды ішлі сабе памалу драўлянымі ходнікамі пад разложыстымі ліпамі, размаўляючы аб тым ды сім. Ведама, Кастусь трымаў вуха востра й на палітычныя тэмы ня выказваўся, не даючы асаблівай веры шчырасьці ейных гаворак. Адно, здаецца, было бяспрэчным. Праз якогасьці блізкага да высокапастаўленых асобаў яна ведала, што робіцца навакол на сьвеце.

— Ой, што гэта будзе? — сказала яна ў яўнай трывозе за недалё-

кую будучыню. — Ці ведаеце вы, якія прыгатаваньні робяцца? Цэлымі начамі цяжкая зброя перасоўваецца на захад. Вязуць цяжкія гарматы, самалёты, танкі ды панцырныя машыны. Перакідваюцца новыя дывізіі туды-ж, на захад. А па той бок мяжы, у Польшчы, немцы сьцягваюць да мяжы свае вялікія сілы... А што яны з намі робяць — дык і казаць жудасна...

Яна, як быццам хацела ў прыліве шчырасьці яшчэ нешта дадаць, але заўважыла задумённасьць і маўчаньне Кастуся і... перастала аб гэтым.

Ейная трывога як быццам перадалася й Кастусю. Яна запанавала ў ягоных думках нейкім настырлівым прадчуваньнем, якое, перамяшаўшыся з баязьлівай асьцярожнасьцяй — не прагаварыцца — зрабіла яго цяпер негаваркім. Лёгкі сяброўскі тон іхнае гаворкі як-бы захмарыўся й зыйшоў на нішто. Дармо, што зырка сьвяціла сонца, а ліпы пад каптуром зяленіва тварылі чароўны бястурботны спакой і халадок, іхная гутарка больш не клеілася. Яны расталіся на скрыжаваньні вуліцы з першым драўляным завулкам. Цяпер і самому Кастусю прыпаміналася, што ён часта ўначы прачынаўся ад нейкага далёкага водгульля, якогасьці грукату, што ішоў ад гарадзкіх брукаў, і яму гэта здавалася за праявы танкавага перасоўваньня на захад. Ды й ад людзей ён чуў аб гэтым. Але на гэты раз кароткае апавяданьне гэтае знаёмае сталася нейкім асабліва ўразьлівым і памятлівым.

Вось і цяпер прыгадаў ён тое, што гаварылі людзі праз усе 20 гадоў, калі тэма пра магчымую вайну ня зыходзіла з вуснаў і селяніна й жыхара мястовых ускраінаў, дзе навіны, перадаваныя з вуснаў у вусны, аброслыя асабістымі камэнтарыямі перадавальніка даходзілі хутчэй, і жывым словам рабілі большае ўражаньне, здабывалі больш даверу, чымся афіцыйныя газэтныя паведамленьні, якім ніхто асаблівай веры не даваў. Ведама — думаў кожны сам сабе — улады хлусяць скрозь і заўсёды. Хлусяць і гэтым разам. Такі выснаў рабіў сабе блізу кожны жыхар беларускае сталіцы. У жыцьці зьявіліся як-бы — пласты. Верхні, як кастрыца, лёгка зьлятаў ад першага павеву сьвяжэйшага ветру, а пад ім бруіла жывая плынь адпорнасьці й жывое мудрасьці, што ператрывала-б і вякі. Незаглушанае яшчэ прапагандай пачуцьцё жыло й цеплілася. Яно давала больш праўдзівае ўспрыйманьне навакольнага. Ружовыя акуляры тады губляліся, і на верх выходзіла і ўступала ў свае поўныя правы мудрага настаўніка народная праўда, што адвеку жыла, жыве й будзе жыць у народзе.

Таму й запала зараз глыбока ў сьведамасьць Кастуся прынесеная ягонай маці навіна. Праўда, нічога яшчэ афіцыйнага ён ня чуў, яшчэ ня бачыў ён нікога ні з суседзяў, ні іншых сваіх знаёмых, якія пацьвердзілі-б гэтую грозную навіну.

Аднак, была яшчэ наконадні позна ўвечары адна праява, што цяпер у супаставе з гэтай прынесенай маці навінай змушала яго мацней задумацца.



Было нешта каля гадзіны адзінаццатае. Ужо даўно заснула маці на сваёй канапцы ў пакоіку, дзе зьмяшчаўся й Кастусь. Спаў і стары бацька на сваім тапчанчыку ў кухні, дзе ён сабе абраў больш спакойнае месца, каб на старасьці не замінаць нікому. Кастусь, як звычайна, сядзеў за сталом з кнігай, карыстаючы з нагоды, што ў гэты ночны час ёсьць электрыка, якой, часта ня бывала рана ўвечары, бо электрастанцыя вылучала лініі ня першай важнасьці, зь якіх карысталі простыя жыхары места. Затое па дзесятай або адзінаццатай раптам давалася зыркае сьвятло, і Кастусёў пакоік рабіўся яму райскім сьветлым гнязьдзечкам, дзе можна было, пакуль сон ня зморыць, уволю начытацца кніжок, або абдумаць ці напісаць якісь чарговы разьдзел свае навуковае працы, якую ён узяўся выканаць для Навукова Дасьледчага Інстытуту Школаў Наркамасьветы. Гэта там, напошку, нядаўна яму ўдалося прыладзіцца ў якасьці выканаўцы абавязкаў навуковага супрацоўніка ў галіне пэдагогікі. Хай сабе гэтая праца й не адпавядала ягоным сапраўдным інтарэсам, бо былі яны ў галіне роднае літаратуры, аднак да гэтай апошняй ён зьвярнуцца пасьля гадоў выгнаньня ня мог — туды ўсе дарогі для яго былі закрытыя. Абапіраючыся на гады змушанае, для куска хлеба, практыкі настаўніка, ён тут, у іншай галіне, дзе яго ня ведалі і аб мінулым яго нічога ня чулі й не ўяўлялі, мог зрабіць пэўныя абагульненьні ў галіне выкладаньня мовы й хоць часткова задаволіць сваю прагу да нейкай творчай дзейнасьці. Дырэктарка, досыць культурная жыдоўка, не раўня іншым дырэктарам-няўмекам, адразу ацаніла веды й здольнасьці Кастуся да дасьледчае працы й быццам спагадала яму. Так, прынамсі, выглядала. А ён у працы забываўся аб сваім мінулым, бязрадасным сяньня свайго народу, і, здавалася, ізноў пачынаў жыць у новым, быццам лепшым уяўным сьвеце.

Гэтак і таго вечара... Мяккае сьвятло з-пад ружовага папяровага каптурка на электрычнай лямпе прыемна залівала стол, раскладзеныя на ім кнігі ды чыстую,белую паперу перад ім, на якой разьбежным, няроўным, буйным почыркам, радок за радком шыхаваліся ягоныя думкі-ўрыўкі. Яны адлучаліся ад яго й клаліся на паперу паволна, напачатку цяжка, пасьля, як прыходзіла натхненьне, л'ліся цурком, вольна і лёгка.

Гэтыя вячэрнія гадзіны заўсёды ў Кастуся былі лепшым часам творчае працы й натхненьня. Ніколі ўдзень яму не ўдавалася за шмат гадзінаў напісаць гэтулькі, як за кароткі час вячэрняга творчага гарэньня. Адно толькі рыпаньне пяра й ціхое, ледзь чутнае дыханьне заснулае маці й было чуваць у пакою. Морак поўніў далёкія куткі, і толькі тут, над сталом было засярэджана як-бы ў злучэньні сьвятло звычайнае зь сьвятлом чалавечага розуму й сэрца.

Гэтым вечарам асабліва ўдалося Кастусю — найбольш цяжкі разьдзел ягонае працы выглядаў урэшце скончаным. Нешта каля першай гадзіны ўначы ён устаў з свайго месца, стомлены бязупынным запісваньнем цурка думак і абагульненьняў. Адчуваў, як балела сьпіна паміж лапатак, а галава нібы апаражнілася й ад гэтага адчувалася

цяжэйшай, бы налітай волавам. Аднак, задаваленьне з працы пераважала над стомай. Кастусь адчуў сябе шчасьлівым за гэты прадукцыйны вечар.

Адступіў два крокі ад стала, павярнуўся, узьняў вочы і ўбачыў свой вобраз у люстры, што вісела на сьцяне на гэтым самым месцы хіба ўжо 30 гадоў, нахіленае над узроўнем галавы. Можа ад сьценяў, што клаліся на рэчы на пэўнай воддалі ад закрытае каптурком лямпы, аднак ягоны твар выдаўся яму асабліва блядым і стомленым; сінякі пад вачыма запалі глыбей і ў паўмораку здаваліся выразьнейшымі. І толькі цяпер ён усьвядаміў, да якое ступені ён быў стомлены.

Я стомлены, любая, стомлены,
Мне нельга табе дагадзіць.
Ты можаш пад сьпеўнымі клёнамі
Са мной не хадзіць... —

прыгадаліся яму радкі Ўладзімера Хадыкі. Начная цішыня і, дзіўна, гэтая стома толькі адвострылі памяць, і ён пачаў зусім лёгка, без натугі, успамінаць гэты забыты ім даўно верш, а вусны ўпаўголас, блізу шэптам, самі вымаўлялі даўно забытыя радок за радком.

Раптам... пачуўся нейкі нечаканы рух і стук на кухні, дзе спаў бацька, а за ім немы чалавечы голас...

— Немцы, немцы йдуць... — пачуліся прарэзьлівыя ў начной цішыні словы бацькі. — ... Немцы... усіх забяруць... пераб'юць... — крычэў ён якімсьці несваім голасам.

Кастусь рвануўся на кухню, за ім, усхапіўшыся ад крыку й перапалоху,сарвалася з ложка маці...

— Што зь ім? — выгукнула яна першыя словы. — ... Ратуй Косься!

Кастусь ў момант улучыў сьвятло ў кухні й перад іхнымі вачыма паўстаў абраз:

Бацька напалову ўзьняўшыся, сядзеў ужо на сваёй пасьцелі, памалу прыходзячы да прытомнасьці. Маці ўхапілася за ягоныя плечы, пачала тузаць, прыгаворваючы:

— Даражэнькі, Ільлючок, што з табой? Схамяніся!

— Пакінь яго, мама, ён ужо адышоў, гэта спрасонку, нешта страшнае прысьнілася...

Бацька расплюшчыў вочы, паглядзеў на іх, схамянуўся, і зусім ціха, як-бы й не да іх:

— Ідзеце... Чаго вы, я спаць хачу...

Пры гэтых словах ён апусьціўся ізноў на падушку, нацягнуўшы на сябе збольшага сваю лёгкую коўдру, якой не пераставаў накрывацца цэлы год, дарма што гарачыня... Гэта было ўжо хіба ад прывычкі адчуваць нешта на сабе.

— Добра, татачка, сьпі, сьпі... Нічога ня здарылася, — дадаў ён у бок маці, каб тую канчаткова супакоіць. — Ідзі, мама, я вылучаю сьвятло.

Кухонны пакойчык ізноў напоўніўся моракам і неўзабаве пачулася дыханьне сьпячага бацькі. Маці вярнулася ў свой ложак, але яшчэ доўга было чуваць, як яна варочалася з боку на бок, падзяляючы ўзрушанасьць і неспакой са сваім сынам.



— Што гэта можа значыць? — доўга яшчэ быў азадачаны Кастусь у той вечар. — Прароцтва?.. Знакі зь неба?.. Звычайныя ўявы зблытаных вобразаў у сьненьні, выкліканым парным ад гарачыні вечарам? Але-ж гэтага не здаралася ніколі раней. Чаму менавіта цяпер, калі сапраўды ў паветры ўжо аж надта пахне порахам...

Доўга яшчэ таго вечара Кастусь ня мог заснуць, цяжкія думкі ішлі ў галаву. Урэшце, калі вочы пачалі міжвольна мружыцца, нейкія ўявы прыйшлі й да яго... Адылі хутка ўсё зьнікла ў нірване бяздоннае начное цемры.

Запанавала праўнае валадарства сну й запаланіла Кастуся ўсяго без астачы. Назаўтра ён ужо не памятаў, калі і як яго здолеў сон.

Ахоплены настроямі няпэўнасьці й цяжкіх прадчуваньняў, Кастусь вышаў з хаты нешта каля адзінаццатае гадзіны дня. Нішто, здавалася, у той дзень яшчэ не нагадвала пра нейкія зьмены ці падзеі. Нічым не зьмяніўся знадворны выгляд вуліцаў. Таксама зьвінелі трамваі, мякка езьдзілі па разьмякчэлым на сонцы асфальту аўтамабілі, адбіваючы на сваіх чорных глянцаватых бакох сонечныя бліскаўкі й будзячы ў простага працоўнага люду зайдрасьць.

Як й заўсёды, густы мнагагучны людзкі натоўп з тысячамі рознастайных маладых звонкіх галасоў напаўняў цэнтральныя — Савецкую, Ленінскую ды К. Маркса — вуліцы.

Здавалася, нічога яшчэ не парушала звычайнага настрою спакойнага часу. Як-бы ў унісон гэтаму, таксама як і ўва ўсе гэтыя дні чэрвенскае гарачыні, ужо зраньня дакучліва пякло сонца й залівала зыркай улеваю ўсё, што магло — стрэхі камяніцаў, асфальты й брукі вуліцаў, тоўстыя шыбы на магазынных вітрынах, зялёную павець сквэраў і, нарэшце, жывы натоўп, што рухаўся ў абодвы канцы вуліцаў з ранішняй няспыннай энэргіяй.

А калі хто хаваўся ад гэтае гарачае ўлевы й вару сонца пад ахову бульварных дрэў, ня доўга выседжваў на адным месцы аблюбаванае лаўкі. Сонца ў сваім бясконцым руху над зацененымі вяршалінамі спакваля перасоўвалася далей і незаўважна нядаўна асьветленыя й таму незанятыя мясьціны лавак зьнянацку рабіліся аб'ектам раптоўнага нападу яшчэ боль пагарачэлых, у меру набліжэньня да паўдня, бязьлітасных праменяў. Сонца бязупынна зганяла тых, хто заседзіўся доўга на адным месцы.

Цешыўся ў гэтае нядзельнае паўдня працоўны мянчанін. Нядзеля — найбагаслаўленьнейшы дзень сярод усіх дзён тыдня. І ня гэтак, каб дзеля традыцыйнае сьвяточнае хрысьціянскае нядзелі, пашану да якое ўжо цэлых два дзесяткі гадоў выбівалі, высмальвалі, вытручвалі ўсімі дзяржаўнымі сродкамі і ўрэшце ў моладзі такі выпятрыла, а ў старэйшых, у якіх яшчэ жыла памяць аб сьвяточных радасьцях і прасьветах, была загнаная ў глыбіню душы, дзе яна часам цеплілася глыбака ўнутры, як тое вугальле пад попелам, чакаючы адпаведнага




© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

часу для свайго выйсьця. Не, цяпер гэта быў проста дзень, вольны ад працы, калі па шасьцёх днёх маруднае, калі не цяжкое, абяздушанае працы ў дзяржаўных прадпрыемствах і ўстановах, шасьцёх дзён удаваньня зь сябе ляяльнага да ўлады чалавека, у абставінах нячуванае асокі, ён быў рады ўздыхнуць вальней і застацца з самым сабою. Моладзь, больш ласая на прынады места, ужо зраньня падалася на спартовыя забавы або стварыла ўжо зраньня чэргі на дзённыя кінапаказы. Моладзь не выглядала гэтак зьнявешчанай абставінамі атрутнае асокі. Узгадаваная сама ў дусе выкрываньня "ворагаў рэвалюцыі" ў розных піянерскіх аддзелах, не ўважала ды й ня бачыла чагосьці таго страшнага для чалавечае годнасьці, што так цяжка й непапраўна ўражала й нявечыла сьведамасьць старэйшага пакаленьня, што вырасла й было ўзгадована ў больш нармальныя часы ды было не пазбаўлена яшчэ здольнасьці параўноўваць і рабіць высновы.

Праходзячы праз натоўп моладзі, Кастусь заўсёды пачуваў сябе асабліва самотным. Сам яшчэ нестары, ён куды лепш пачуваўся сярод старэйшых. Зь імі было аб чым пагаварыць, падзяліцца думкамі, было нават падобнае разуменьне рэчаіснасьці й спагада ў няпрыгляднасьці долі. Там ня зводзіліся сьляды культурнага спадкаемства й звычка самастойнага думаньня й абмеркаваньня. Зусім адменным і чужым выдаваўся яму гэты гарадзкі шумлівы натоўп падшпаркаў.

— Што ім наша родная нацыянальная культура? — думаў Кастусь, апынуўшыся сярод густога віру людзей. — Ці яны ведаюць штонебудзь пра нашых мастакоў, песьняроў, музыкаў, пісьменьнікаў, якіх гэткім барбарскім парадкам адабралі ад нашага народу ў пару іх творчага красаваньня й пассылалі на катаржнае гібеньне ў халодны Сібір, абледзянелую поўнач.

— Ці ім баліць сэрца за тое, што лепшыя сыны народу, мазгі й сэрца нашае нацыі, — сыстэматычна адрываліся ад абранага імі творчага шляху й сем'яў, ад сваіх дзяцей і жонак, братоў, сёстраў, бацькоў і родных ды кідаліся ў шахты дзяўбсьці каменьне ці цягаць тачкі, каб тым лягчэй ператтварыць нацыю ў рабочы статак?

— Ці ведаюць яны аб зусім нядаўнім існаваньні Язэпа Лёсіка, Вацлава Ластоўскага, Аляксандра Цьвікевіча, Усевалада Ігнатоўскага, Уладзімера Тэраўскага, Максіма Гарэцкага, Уладзімера Дубоўкі, Міхася Зарэцкага, Уладзімера Жылкі, Цішкі Гартнага, Флёрыяна Ждановіча й цэлае вялізнае плеяды творцоў роднае культуры — ейнае красы й гонару, гэтак бязьлітасна вынішчаных? Ці чулі яны нават гэтыя імёны? О, не! Пэўна-ж не, хоць і не з свае віны, — думаў Кастусь. — Не даюць народу даведацца пра сваіх слаўных сынох, падмянілі іх фальшыўкай чужых яму "правадыроў".

Не вінавацячы самой моладзі ва ўсіх ейных грахох і заганах, Кастусь, аднак, балюча ўспрымаў факты й вынікі паўсюдняе дэнацыяналізацыі й зрусыфікаваньня беларускае моладзі праз школу, друк, літаратуру ды розныя ўстановы. І як-бы ў знак пратэсту супраць гэтага вынарадаўленьня ягоныя вусны як заўсёды знаходзілі трапныя да выпадку радкі з Багдановічавае "Пагоні":

Біце ў сэрцы іх, біце мячамі,  
Не давайце чужынцамі быць, —  
Хай пачуюць, як сэрца начамі  
Аб радзімай старонцы баліць.

Затым прыходзілі іншыя радкі, і памяць нарасьпеў, няголасна, зусім нячутна для пабочных людзей, высьпеўвала гэтак блізкія сэрцу матывы роднае паэзіі.

Душа заглыблялася ў стыхію прыгожага і ўзьлятала над шэрай будзённасьцяй навакольля. Гэтак заўсёды было зь ім. На хуткім цягніку, стоячы на пляцоўцы вагону, як-бы адказваючы ўзьнёслым натхненьнем на імклівы рух паравоза ў прасьцяг палёў і лясоў, яна сьпявала калі не радкі чыйгосьці вершу, дык нячутна складала свае собскія радкі, незапісваныя й не адбітыя друкам, непаўторныя вершаваныя радкі.

У палёх, калі ўлетку за горадам, ідучы сьцежкай сярод жытоў і васількоў, або паўз цьвітучай канюшыны зь ейным няспынным пад сонцам трэскам казельчыкаў-скакуноў, душа ягоная міжвольна адклікалася на няхітрыя зыкі прыроды й складала сваю песьню, якая тут-жа й забывалася, даючы месца іншай мэлёдыі.

Гэта і цяпер Кастусь аддаўся ўнутранаму гарэньню творчае памяці і, шэпчучы сумныя словы якіхсьці раптам узьніклых радкоў і мэлёдыяў, не заўважыў, як прайшоў ладны адрэзак свае дарогі, нат не адчуваючы дотыкаў сустрэчных у густым натоўпе. Кіраваны падсьведамым звыкам, павярнуў у патрэбны яму завулак, пракрочыў яшчэ колькі кварталаў, і, наапошку, выйшаў на шырокую ўзбочную вуліцу, якая канчалася невялікім раскідзістым грамадзкім садком.

Знайшоў абвыклую лаўку й задаволены апусьціўся пасядзець якую гадзінку з газэтай у руцэ. Сьведамасьць з асалодай занатавала тое, што гэтае месца якраз у гэтым часе было густа ўкрыта суцэльнай засеняй. Павець лістоў над галавой тварыла шчыльны шчыт, непраходны настырлівым праменям сонца, якім гэтак ладна ўдавалася напячы яму галаву праз усю дарогу, чаго ён, аднак, быццам і не пачуваў у сваёй паэтычнай узьнёсласьці.

Але нядоўга яму давялося цешыцца цішынёй і халадком. Пакрысе засень усё больш і больш перасоўвалася ўва ўсходнім кірунку, вось ужо край сядзеньня пачаў перахопліваць частку сонечных косаў, выдаючы пад сьвятлом дашчаную шурпаватасьць і вышчэрбленасьць, што час у супалку з дажджамі й вятрамі наклаў на ейную драўляную паверхню. Аднак, не пасьпела яшчэ сонца завалодаць цалкам абраным месцам, як насунулася горшая нудота. Улучыліся ў сваю штадзённую працу гарадзкія вулічныя "народныя" галасьнікі, і зацягнулі сваю нудную, даўно ўжо абрыдлую чарговую прапагандавую трансьляцыю. Хоць Кастусь даўно ўжо стаў абвыклы да іхных галашэньняў і мог працаваць паблізку каля самых галасьнікоў, нат ня чуючы іх — да таго ўжо прытарнаваўся ён, дзякуючы свайму выпрабаванаму

ў часох інстынкту самазахаваньня, — аднак на гэты раз ён раптоўна схамянуўся.

— От, ліханька, і тут не даюць спакою, — наважыўся быў падумаць ён у адказ на першую рэакцыю. Адылі ўспомнілася ўсё переказанае ягонай маці й перагаворанае імі абодвымі сёньня раніцай...

— Можа што й скажуць, ліха іх ведае. Можа ўжо нешта й дзеецца ды хіба-ж даведаешся ад іх... — злавіў ён сябе на праяве цікавасьці.

— Яно-б можа й нягблага, каб нешта пачалося. Пэўна-ж, лёс неяк укладаўся-б інакай. Як гром і маланка з улевай змываюць назьбіраны на зямлі непатрэбны шэляг, так хіба які вайсковы гром мог прагрымець іншым прадвесьням нашаму краю... — памкнуўся быў думаць Кастусь... Аднак, агалошаная навіна адразу ўразіла ягонае ўяўленьне.

Радыёдыктар колькі разоў заклікаў увагу слухачоў словамі: "Увага... Увага... Увага..." ды паведаміў, што сёньня, за колькі часінаў, роўна а дванаццатай мае быць надзвычайны выступ па радыё Старшыні Савету Народных Камісараў Саюзу ССР, таварыша Молатава. Неўзабаве паведамленьне было паўторанае, а за колькі часінаў ізноў і ізноў агалошанае. Выглядала, што сумысле прыцягваецца ўвага як мага большае колькасьці слухачоў, каб паведаміць штосьці вельмі важнае.

Кастусёва сэрца забілася ў ліхім прадчуваньні.

— Пачалося, ня начай, — думаў ён употай ад ўсіх. А ў вушшу зьвінела водгульле трэску й шуму, якія чуліся з неадрэгуляваных галасьнікоў. Аднак, нічога не падцьвярджала гэтае думкі. Гэтаксама спакойна шпацыравалі ў садзе нядзельныя закаханыя пары, часам прабягалі й зьнікалі гурты звонкае сьмехам бяздумнае моладзі, таксама настойліва трымаліся сваіх месцаў старыя іх уладальнікі, абыякава трымаючы перад сабою газэты, або, як магло здавацца, дрэмлючы сабе сярод садовага летняга хараства.

Толькі тады, калі радыё папярэдзіла, што за часіну ўжо мае быць абяцаны выступ, усе трохі насцярожыліся, напружылі свой слух і ськівалі зрок на бліжэйшы галасьнік. Кастусь кінуў пагляд налева й направа ад сябе й ні ў кім не пабачыў тае старожкае напружанасьці чаканьня, якая паланіла ўсю ягоную істоту. У абліччы ўсіх можна было бачыць больш звычайную спакойную абывацельскую цікавасьць, што ішла ад жаданьня паказытаць нэрвы абыякой навінай. А таму, што ад такіх афіцыйных выступаў высокае ўрадавае асобы нічога добрага не чакалася, і ўжо за колькі гадоў яны аж як прыеліся, дык твары слухачоў і не выяўлялі ніякага надзвычайнага ўзварушэньня. Пэўна-ж ужо будзе гаварыцца ізноў тое, што ўжо шмат разоў гаварылася й чулася, хіба толькі можа адменнае чарговым зыгзагам, ці паваротам вонкавае ці нутраное палітыкі дзеля тае-ж мэты — зрабіць чарговы ўпырск для ўзбуджэньня савецкага імунітэту, што ўсё больш і больш вытыхаўся. Вось гэты самы "зыгзаг" хіба толькі й мог быць чаканай навіной, і яе хіба толькі й мог спадзявацца пачуць кожны з гэтых абыякавых да ўсяго, звыклых мяшчанаў гэтаеаднае з менскіх ускраінаў.



Але цяпер, можа першы раз за 20 гадоў, усе, што былі тут, памыліліся. Як громам з чыстага неба абдало ўсіх іх, калі пачулі словы Молатава аб тым, што нямецкія фашысты, здрадзіўшы ўмову аб ненападзе, падступна й неўспадзеўкі сёньня, 22 чэрвеня 1941 году, а чацьвертай гадзіне раніцы напалі на наш мірны край...

Уражаныя і ўтрапёныя, некаторыя да зьбялеласьці, усе толькі моўчкі пераглянуліся.

Высокі ўрадавы прадстаўнік гаварыў пра бамбардаваньне нямецкімі самалётамі гарадоў — Кіева, Коўна, Вільні й Беластоку.

Магчыма ня так адразу ўва ўсёй сваёй нечаканасьці працяла людзей сама навіна аб пачатку вайны, як паведамленьне пра першыя бамбардаваньні ведамых гарадоў. Усім адразу зрабілася нат ніякавата й нязвыкла з таго, што там недзе ўжо гараць гарады ды з паветра падаюць мэталёвыя носьбіты сьмерці й разбурэньня, а тут, у нас, яшчэ ціха, спакойна й нат да апошняе часіны яшчэ й ня ведалі аб гэтым. Кожны працяўся думкай пра кон, што дойдзе й да гэтага места.

Мусіць ужо тады із шмат каго адразу спала засьляпеньне, спрычыненае шматгадовай прапагандай, што "ваяваць будзем на чужой тэрыторыі..."

— Дык-жа ўжо нашыя месты збамбардаваныя. А Божухна мой, а мой сынок там у Беластоку зборы адбывае, — сарвалася зьнянацку ў аднае пажылое жанчыны, што праходзіла паўз галасьнік і, неўзнарок, пачула пра пачатак вайны.

Усе змоўчалі, нават ня кожны глянуў на яе, хоць пэўна ўсе пачулі яе нязвыклыя словы з гэтым раптоўным "а Божухна мой". Жанчына прыскораным крокам моўчкі пайшла далей.

Моўчкі, зьбянтэжана й недалужна сядзелі вольныя й міжвольныя слухачы, калі Молатаў закончыў заклікам да змаганьня з агрэсарам. Адны як-бы й ня ведалі, што казаць ад унутранае ўзрушанасьці й неспадзеўкі, іншыя быццам папрырасталі да лавак і ня мелі змогі зь іх падняцца.

Толькі некалькі асобаў раптоўна ўскочылі з месцаў і, як учадзелыя, пашыбавалі да сваіх родных з навіной. Некаторыя з тых, што стаялі пад галасьнікам, памкнуліся тут-жа барджджэй выказаць сваю вернападданасьць да ўраду й загаварылі, што агрэсар будзе разьбіты й выгнаны з савецкае тэрыторыі. Іншыя толькі лыпалі вачыма, як-бы спрабуючы разважыць — паглядзім, час пакажа.

Кастусь маўчаў таксама. Хоць яму й хацелася нешта ўставіць сваё ў гэтую агульную зьбянтэжанасьць і нарушыць ніякаватасьць маўчаньня, аднак разважлівасьць змусіла маўчаць. Прыпадкова, аднак, ён адчуў на сабе сьвідруючы зрок нейкага чалавека. Той пільна ўглядаўся ў твар кожнага, нібы стараўся здагадацца, што думае яго ўласьнік. Яго пранырлівы, лісьліва-хітраваты зірк ўжо некалькі разоў спыняўся на твары Кастуся й зараз-жа пераводзіўся на іншага, а за момант вяртаўся да яго ізноў. Адчуўшы на сабе ягоны няпрыемны зірк, Кастусь борзда ўськінуў на яго свае вочы, і іх пагляды сустрэ-

ліся. Той лыпнуў вачыма й адвёў іх у бок.

— І тут сочаць, — мільгнула думка ў Кастусёвай сьведамасьці. — Трэба адыйсьці далей ад даношчыкаў... нідзе няма ад іх спакою. А цяпер асабліва боязна хоць адным словам прамахнуцца ды стацца ненадзейным. З гэтай думкай ён устаў і памкнуўся ісьці. Але неспадзявана нехта з-заду гучна назваў ягонае прозьвішча, быццам хтось зь яўным намерам зварачаецца да яго. Кастусь азірнуўся. Выявілася, што гэта быў той чалавек, які сьвідраваў кагадзе ўсіх сваімі паглядамі.

— Калі ласка, вы мяне гукнулі? Чым магу служыць? — запытаў Кастусь.

працяг будзе.

---

**АСЬЛІНАЯ ПРАПАНОВА**

**Зьвяры занылі аб прыродзе:**
**Маўляў, ня тое асяродзьдзе.**
**Ня тое, што раней, паветра,**
**Бо стала менш зялёных нетраў.**
**І ўсе спрачаліся заўзята,**
**Як захаваць лясныя шаты.**
**Тады Асёл на пень узьлез**
**І пратрубіў на цэлы лес:**
**— Паслухайце вось прапанову!**
**Павінны мы дзеля аховы**
**Мець спэцыяльную ўстанову.**
**І ўзводзіць пачалі будову.**
**Пайшлі ўсе дрэвы... пад сякеру.**
**... А дзе цяпер схавацца зьверу?**

**Гэнадзь Зотаў**





## СЁЕ - ТОЕ... і яшчэ НЕШТА...

Паміж імі было й нешта агульнае — адзін аднаго не цярпелі.

**Яго аднадумцамі былі тыя, хто наагул нічога ня думаў.**

Слова ня йголка, але, бывае, і яно колецца.

**Заткнуць рот найлягчэй пірагом.**

Меў свой пункт гледжаньня — усім падтакваў.

**Часам трэба зьесьці пуд солі, каб зразумець, што жыцьцё — ня цукар.**

Не жартуйце ў лесе з агнём: агонь гумару не разумее.

**Яму ў галаву прыйшла думка. Як аказалася — адрысам памылілася.**

Пасьлізнуўся таму, што на паперы было ўсё гладка...

**Калі паўтараць чужыя памылкі, не застанецца часу на свае ўласныя.**

Лічыў сябе інвалідам ад літаратуры, бо яго параніў крытык.

**Шчырыя сьлёзы ў крывадушніка бываюць толькі тады, калі ён рэжа цыбулю.**

Калі вас мучаць кашмарныя сны, прачніцеся, і яны адразу-ж зьнікнуць.

**Не муці ваду, бо вада ўсё роўна адстаіцца, а ты дарэмна патраціш час.**

Няма няшлюбных дзяцей, ёсьць толькі няшлюбныя бацькі.

Пытаньне п'яніцы перад піўнушкай у часе дажджу: — Ці стаяць на дварэ й мокнуць, ці зайсьці ў сярэдзіну й заліцца...

Ачарніць можна чарнілам любога колеру.

**Выбіўшыся ў людзі, не рабі перашкоды й іншым.**

Ён быў рознабакова абмежаваным чалавекам.

У яго ніколі слова не разьміналася са справай, бо ён заўсёды маўчаў.

## ЖАРТАМ І ЎСУР'ЁЗ

**- Што робіш?**
**- Адпачываю.**
**- А да гэтага што рабіў?**
**- Спаў.**
**- Дык чаму-ж ты адпачываеш?**
**- Бо пасьля сну і адпачыць добра.**

**П'яніцу...**

Прахожы, тут дачасна талент пахаваны,
Сучасьнікамі так і не ўшанаваны:
Ён пры жыцьці не распусьціўся,
Таму, што вельмі рана сьпіўся.

—Навошта ў суседа ўкраў трубу?
— Хацеў хоць раз выспацца.

**Дурню...**

Усё жыцьцё разумным стаць стараўся,
Але да сьмерці дурнем ён застаўся;
Віны яго было у гэтым мала:
Прырода розуму пашкадавала.

— Ты чуў, ад Скупоўскага ўцякла жонка!
— І як ён?
— Ну, цяпер ён больш-менш супакоіўся, а спачатку вар'яцеў ад радасьці.

— Давайце, кум, вып'ем па чарцы.
— Не магу.
— А гэта чаму-ж?
— Не магу па трох прычынах. Па-першае, гарэлка шкодная для здароўя. Па-другое, я хворы, і лекар забараніў мне піць. Па-трэйцяе, я ўжо й так сёньня добра выпіў.

— Жэня, — зьвяртаецца настаўніца да першаклясьніцы, — а што ўмее рабіць твая мама?
— Сварыцца на тату.

— Што з нашымі суседзямі, яны ўжо тры дні ня б'юцца?
— Пэўна, пасварыліся й не размаўляюць.

— Я ўпэўнены, што бачыў ваш твар недзе ў іншым месцы.
— Гэта немагчыма. Я заўсёды нашу яго на шыі.

— Твае дзеці яшчэ вучацца, ці ўжо пайшлі на свой хлеб?
— Ды як сказаць. На свой хлеб пайшлі, але ад бацькоўскіх грошай не адмаўляюцца.

— Уставай, Кастусь, пеўні даўно пракрычэлі.
— А ў якой ступені мяне гэта павінна хваляваць? Я-ж ня курыца.

**Прызнаньне зь перцам...**

Палюбіў цябе да сьмерці,
Дарагая мая жонка.
Ты ў мяне ня толькі ў сэрцы,
Але нават... і ў пячонках.

**Пастаянства й перамены...**

Мужчына, халасты або жанаты,
Заўсёды — леў, мяняюцца-ж дзяўчаты.
Так хутка можа іншая зьмяніцца:
Спачатку — кошачка,
пасьля — тыгрыца.

## Вясёлы куточак






—А я сказаў сваёй Марылі: пакуль не стане чалавекам — дамоў не вярнуся.



— А цяпер куды загадаеш павярнуць!





— Ага, прыходзь у госці, мама, заадно і суп нам зварыш, а то чай надакучыў.



— Спазьніліся, доктар, мы ўжо самі лечымся.

